Першая
кніга
празаіка

# МІХАСЬ ТЫЧЫНА



# ДАЖЫНКІ

Аповесць
і апавяданні



Мінск
«Мастацкая
літаратура»
1979

# Дажынкі

Аповесць

## I

На страсе ўзнялася раптам шумная валтузня, пачулася тонкае папіскванне і шоргат кіпцюроў нейкага дробнага стварэння. Сцёпка Расоха, якога абудзіў увесь гэты вэрхал, нядобра падумаў пра яго віноўнікаў: «Ваські на вас няма!» Зірнуў на ляжак і ўбачыў ката Ваську, які дрыхнуў, скруціўшыся ў клубок, на сваім улюбёным месцы.

Кот быў стары і надта распусны: нездарма адно вуха адгрызена да самага кораня. Вечна валачыўся недзе па начах і на гару прыходзіў толькі на досвітку. Акурат калі маці запальвала ў печы. Знаходзіў самае цёплае месца на лежаку (на ложак да хлопцаў — Сцёпка летам любіў спаць на гары, а да яго падсуседзіўся малодшы брат Міколка — забіраўся рэдка) і адсыпаўся, пакуль у печы не выгарала.

Васька таксама прачнуўся, узіраўся некуды ўгору і старожка варушыў уцалелым вухам. Зірнуў на Сцёпку — як сказаў: «Што за нахабнікі! Схадзіць супакоіць, ці што?» Аднак уставаць не спяшаўся, тым больш што шум, узняты на страсе, сціх гэтак жа нечакана, як і пачаўся: «Шкада, а то б я іх — цап-царап!» Выцягнуўся на ўвесь рост, выстаўляючы напаказ аголеныя кіпцюры на лапах. Перакаціўся на другі бок. Прыўзняў галаву, прыслухаўся. Паклаў галаву на лапы, прыкідваючыся, быццам яго нічога не цікавіць. Раптам стаў на лапы, выгнуў спіну дугой, ажно натапырылася шэрая з чорнымі кончыкамі поўсць па баках. Скочыў, стукнуўшы дошкай, на дол. Пайшоў, пацягваючыся, да дзвярэй.

Сцёпка застаўся адзін. Абвёў позіркам сто разоў бачаную гару. Святло аж распірала яе. З акенца, малога, кніжкай можна закрыць, на квяцістую коўдру клалася сонечная пляма. Ад яе свяцілася свежая, быццам толькі што з пільні, гонта. Яркая, з мройлівымі берагамі сонечная пляма то расплывалася ў круг, то збіралася ў квадрат. І спакваля вузела, вузела, вузела. Нарэшце выдаўжылася ў тонкую, як стрэлка гадзінніка, палоску. Збеглася ў варухлівы, быццам зайчык ад люстэрка, шкуцік (у верхнім кутку рамыываліўся сук таўшчынёй з вялікі палец). Хутка-хутка згасла. Гонта, коўдра, ляжак — усё адразу пашарэла, быццам крок назад ступіла.

Сонечны гадзіннік паказваў нешта каля паловы дзевятай. Вылежвацца не выпадала: час збірацца на працу. Зрэшты, спяшацца таксама не было прычыны. Камбайн, на якім Сцёпка будзе працаваць, не кранецца з месца, па яго разліках, пакуль не высахне раса, не правяне на сонцы і лёгкім ветрыку збажына, не стане сухім і траскучым, як порах, сцябло жытнёвых каласоў.

А яшчэ ўчора ён быў вольным казаком. Сноўдаўся па вёсцы на чале каманды падлеткаў, пра якіх вясковы комік, а з сённяшняга дня Сцёпкаў начальнік камбайнер Казік Шчур казаў: «Укоцяцца ў сад — яблыкі з яблынямі вынесуць». Яго бацька, брыгадзір Аляксей Трафімавіч, аніяк не зважаў на выхадкі свайго большага. Не да таго яму было. Чалавек нават у сне гаварыў пра сяўбу, касьбу, жніво, пра плугі, бароны, сеялкі... Сына ён заўважыў хутчэй за ўсё выпадкова:

— Не хочаш прагуляцца заўтра з кійком на поле?

Гэта азначала: збірайся і ідзі без лішняй гаворкі. Але Сцёпка ёсць Сцёпка — прыкінуўся някемлівым:

— Сена разбіваць?

— Не, не сена. Казік Шчур пакажа, што.

— На камбайн... з кійком?!

Уявіў, як заўважаць яго раптоўнае знікненне сябры.

Можа, нарэшце адчуюць, што значыць застацца адным, без атамана.

Яна — таксама.

О, яна будзе сумаваць, кідацца ў роспач, праліваць азёры слёз, а ён паглядзіць на яе дакорліва і скажа:

«Ты сама гэтага хацела».

«Ты мяне не так зразумеў. Ты наогул нічога не разумееш».

«Не, я ўсё вельмі добра разумею».

«Сцёпачка, пачакай!»

«Позна».

«Я кахаю цябе! Кахаю!»

«І я цябе... кахаў».

Ён пойдзе, а яна будзе глядзець услед вачамі, поўнымі несусветнай тугі, не ведаючы, што ён проста ганарлівец і задавака, якіх мала, і што праз хвіліну пашкадуе аб зробленым.

У рэшце рэшт усё адбудзецца іначай, і Сцёпка пра гэта добра ведае.

«Ты сама гэтага хацела»,— скажа ён ёй.

«О, каб толькі гэтага!»

«А чаго яшчэ?»

«Ну, гэта не мне казаць, не табе слухаць».

«А ўсё-ткі?»

«Сказаць?»

«Але».

«Я хацела б, каб у цябе было трохі меней рабаціння. Асабліва, каб яго не было на вушах».

Сцёпка гляне здзіўлена на яе, пастараецца непрыкметна праглынуць горкі камяк у горле і яшчэ раз пераканаецца — правільна думаў, калі заракаўся ніколі не жаніцца...

Прыслухаўся да гукаў, што даносіліся з вуліцы. Звонка ўдарыў струмень вады аб бляшанае дно вядра. Нехта набіраў ваду з калонкі перад іх хатай. Забомкала абухом па бервяне сякера. Сусед паднаўляў хлеў.

Ракатаў у полі трактар. Усё гэта нечакана заглушыў запознены спеў пеўня. Зноў ударыў струмень вады аб бляшанае дно — нехта набіраў другое вядро. Усё такса-ма бомкала абухом па бервяне сякера і аддалялася спакваля ракаценне трактара. За вёскай на шашы вырас раптам гул машыны, правёў у прасторы з захаду на ўсход роўную лінію і знік сярод шматлікіх гукаў вясковай раніцы.

Сцёпка адчуў сябе адрэзаным ад усяго свету, чужым усяму і ўсім, страшэнна адзінокім. Недзе — на вуліцы, у вёсцы, у наваколлі — нешта адбывалася: чылікалі вераб'і, свісталі шпакі, клекатаў бусел, тарахцелі жалезнымі абадамі па бруку калёсы, нокаў на коней ездавы, праязджалі грузавікі, прамчаўся дырэктараў «козлік», чуліся знаёмыя і незнаёмыя галасы.

Зусім нечакана ўспомніў, што гэтай ноччу лётаў у сне.

...Ён нёсся, падскакваючы і махаючы рукамі, як крыламі, па вузкай сцяжынцы паўз бераг ракі. У месцы, дзе бераг абваліўся і сцяжынка перарывалася, моцна адштурхнуўся ад зямлі і, падхоплены неадольнай сілай, узняўся ў паветра. Ён ляцеў над купамі кустоў на лузе, над стагамі сена, і чамусьці было яму не страшна, а лёгка. Адважыўся і перасек рэчку. Заўважыў, як адлюстраваўся-мільгануўся ў вадзе яго цень. Незвычайнае адчуванне бязмежнай волі ахапіла Сцёпку, і ён узвіўся на вышыню, з якой была відаць уся вёска. Кружыў, быццам бусел, над агародамі, садамі, стрэхамі хат, верхавінамі дрэў. Убачыў здалёку стракаты натоўп каля магазіна. Знайшоў сярод яго родныя постаці маці і бацькі. Памкнуўся наблізіцца, але спалохаўся, што заўважаць, пачнуць паказваць пальцамі, крычаць ад захаплення, прасіць прызямліцца... Убачыў лавачкі на страсе сваёй хаты (пячнік клаў комін і забыў зняць). Рашыў спыніцца на момант. Але калі ўстаў, каб узля-

цець, адчуў, якім раптам цяжкім стаў, спалохаўся — і імгнення забыў, што трэба, каб ляцець...

Незвычайнае адчуванне бязважкасці ўсё яшчэ жыло ў ім. Ён нават злавіў сябе на прымхлівым жаданні як-небудзь даведацца пра сакрэт палёту. Пастарацца ўспомніць або проста папытаць у свайго брата.

Міколка, вядома, не раўня свайму даўгалыгаму (маці казала: «Расце, як жэрдка, на лес гледзячы») і канапатаму (вяснушкі буйныя: рукой пагладзь — зачэпішся) брату-засоню. Прачнуўся ні свет ні зара (Сцёпка чуў праз сон, як малы асцярожна пералазіў цераз яго, як на дыбачках краўся па непрыбітых дошках да дзвярэй). Падаіў разам з маці карову. Выгнаў у статак. Бег следам амаль да Пеўневага лесу. Глядзеў заваражана, як пастух стусінай страляе, як трубіць-напамінае гаспадарам: «Тру-ру-ру! Тры рублі, і абед, і падпасвіч!» Потым блытаўся ў маці пад рукамі («Памочнік расце»). Можа, пацягнуўся ўжо на вёску. Скончыцца ўсё тым, што соннага малога знойдзе дзе-небудзь на прыступках саўгаснага свірна нехта з бацькавых ездавых, прывязе дамоў і перадасць з рук у рукі маці.

Сцёпка збрыкнуў з сябе коўдру. Сеў на край ложка. Але не апранаўся, чакаў яшчэ чагосьці. Дачакаўся — рыпнулі ў хаце дзверы, і на падворак выйшла маці:

— Сцёпка, уставай!

Не пачула адказу. Знайшла побліз сябе каменьчык і кінула па страсе. Раптам зазлавала:

— Каму я кажу? Уставай!

Зноў затарахцеў па гонце каменьчык.

— Што гэта за хлопец! На работу спозніцца... Паснедаць не паспее...

Сэрца ў Сцёпкі сціснулася ад жалю.

— Уставай! Чуеш ці не? Бацька зараз з нарада прыйдзе!..

Незадаволена буркнуў:

— Ну, чаго вы? Устаю!

Апрануў выцвілае, амаль фіялетавае, з аддудыранымі каленямі, закароткае на яго трыко, сунуў ногі ў вятроўкі, узяў у рукі кашулю і загрукаў дошкамі. Маўляў, сапраўды ўстаў. Расчыніў дзверы, ступіў на прыстрэшак. Пра такія дні Казік Шчур звычайна казаў: «Той каецца, хто ўчора памёр». Чыстае, яшчэ ўсё сіняе неба, цёплае і ласкавае сонца, свежае і вострае, быццам у мароз, паветра. Прастор і воля! Далёкі, амаль нерэальны лес, сонечныя палі са збажынай і зялёныя — цёмныя з бульбай і святлейшыя з канюшынай, сады на сядзібах з лёгкімі галінамі летніх і густымі асенніх яблынь, агарод з патаптаным, быццам выгаралым, гурочнікам, з выкапанымі разорамі бульбы каля хлява. Усё такое знаёмае і роднае! Выбірай, што даспадобы,— ляці, калі ўспомніш сакрэт палёту, якім валодаў яшчэ нядаўна ў сне, або проста спускайся па лесвіцы на вузкую сцяжынку паміж кветак у расе. Стаў на прыстрэшку, трымаючыся рукамі за шчыток, быццам сапраўды вырашаў — ляцець ці ісці.

Стукнулі веснічкі, але за хатай не відаць было, хто ўвайшоў. Хутчэй за ўсё бацька. Угадаў: прайшоў бацька, хаця самога яго яшчэ не было відаць. Досыць пачуць яго кашаль, надрыўны, гучны, каб пазнаць, што ён належыць заядламу курцу... і гаспадару гэтай сядзібы.

«Што гэта за гаспадар,— казаў аднойчы Казік Шчур,— што не курыць! Прачнецца, соваецца па двары, а яго і не чуваць. А курца — ого! — далёка чутно. Выйдзе з хаты ды як пачне адкашлівацца — усіх падыме: свінні завішчаць, карова голас падасць, гусі-куры-качкі гвалт узнімуць, кот будзе церціся каля ног, суседзі наперабой здароўкацца...»

Акрамя ўсяго іншага, у Сцёпкавым бацьку (ён нарэшце паказаўся з-за хаты і прайшоў па двары да хлява) можна было без асаблівай цяжкасці пазнаць брыгадзіра-палявода, ці, як кажуць на вёсцы, загадчыка.

Толькі брыгадзір мог хадзіць у такую суш у касцюме, няхай сабе ўсяго картовым, пабялелым на плячах і добра-такі пакамечаным, з кішэняў якога тырчаць блакноты з перарэзанага напалам агульнага сшытка, ручка і алоўкі, у ялавых ботах, якім не страшна ні пясчаная Страліха, ні топкі Казагляд.

Бацька быў не адзін. Следам спяшаўся, раз-пораз падцягваючы ледзь не пад пахі задоўгія штаны, Міколка.

Да малога пераходзілі ў спадчыну не толькі Сцёпкавы абноскі, але і звычкі. Сцёпка і не ведаў, што яго ўплыў зайшоў так далёка. Гэта ён адзін час валачыўся ўсюды за бацькам, куды б той ні пайшоў: на нарад, на поле, на сход. Нездарма яго празвалі тады Трафімавічам, і калі самога Аляксея Трафімавіча не было, а ён быў тэрмінова патрэбен, звярталіся жартам да Сцёпкі.

Потым ён чуў, як дзеці, нешта не падзяліўшы, сердавалі на яго брата: «У-у, дзе ўжо нейкі — Трафімавіч!»

Неўзабаве ўсіх Расохаў аб'ядналі ў адно — Трафімавічы.

Прынамсі, атрымоўваць зарплату прыходзілі ўсе разам: Сцёпка займаў чаргу, а калі яна падыходзіла, паказваўся бацька з Міколкам і распісваўся за сябе, за старэйшага сына, які працаваў усё лета — ганяў варон з кукурузнага поля, абганяў бульбу, вартаваў некалькі дзён бурты, за жонку, якой, як і ўсім жанчынам, выдзелілі паўгектара кармавых буракоў на душу, за Міколку, якому ўчотчык запісаў паўдня за праполку проса — малы пацёгся быў за школьнікамі на саўгаснае поле.

Бацька зайшоў у варыўню і неўзабаве выйшаў са скруткам тонкай вяроўкі з гіркай на канцы — стагі мераць. Завярнуў да хаты. Міколка следам за ім. Заўважыў Сцёпку. Нічога не сказаў, але хлопец зразумеў: марудзіць больш нельга.

Сцёпка збег па драбінах — па лёстках, быццам па прыступках. Крануў рукой вяроўку для бялізны, нацягнутую паміж лесвіцай і агароджай,— кроплі расы сыпанулі ў траву, а адна з іх бомкнула па шырокім лісце сланечніка. Асцярожна, каб не абрасіцца, прыўзняў навіслы над сцяжынкай куст вяргіні. Выскачыў на падворак, ляснуўшы дзверцамі з агарода.

На гэты час з хаты высунуўся Міколка, падпаясаны Сцёпкавай адмысловай папружкай з латуннай спражкай, на якой быў выціснуты якар. Сумеўся, угледзеўшы брата.

— Каму казаў,— зазлаваў Сцёпка,— не чапай папружкі, бо будзеш бедны?!

Малы заморгаў вейкамі, пачырванеў і моўчкі завярнуў у хату.

Сцёпка памыўся без асаблівай ахвоты, набіраючы ў рот вады з вядра, што стаяла на лаўцы, апрануў квяцістую, хлопцы казалі, бабскую, рубашку і таксама рушыў у хату. Як ведаў, брат паспеў настроіць супраць яго бацькоў, сам жа прыкідваўся, што плача.

— З'явіўся! — сказала маці.

— Чаго вы, мама?

— Чаго-чаго! Багацця ніяк не падзеліце! Папружкі шкада!

— Шкада!

Міколка заводзіўся-заводзіўся і раптам уголас і, здаецца, напраўду зарумзаў.

— Ну, зацягнуў песню! — не вытрымаў бацька (ён сядзеў за сталом і пісаў ведамасці).— Чаго і што? Цэлую лужыну наплакаў! Хату затопіш. Паплыве, як карабель па моры.

Міколка ўсміхаўся праз слёзы — усё-ткі плакаў, але не здаваўся,— ківаў недаверліва галавой:

— Угу!

Сапсаваў усё Сцёпка — прамармытаў незадаволена:

— Папружку яму дай, потым яшчэ што...

Бацька ўраз спахмурнеў:

— Хопіць, можа! Разныўся — папружку-папружку... Я хутка знайду табе папружку!

Маці заступілася:

— Чаго прычапіўся да дзіцяці?

— Дзіця! Гэта дзіця школу канчае...

— Ну, чаго вы, мама?

— Чаго-чаго! Бацька, называецца — не, каб даць хлопцу адпачыць перад школай. На работу ўладзіў...

— Ага, уладзіў.

— Ну, мама!

— Да цёмнай ночы, быццам дарослаaму, варочаць. Сам за работай свету не бачыць, дык і дзіця хай не бачыць.

— Ага, не бачыць.

— Людскія дзеці на рэчцы цэлае лета вылежваюцца, а свае кожны божы дзень на работу ляцяць.

— Мо гультаёў гадаваць?

— Баішся ты вельмі!

— Баюся!

Маці пайшла на кухню, загрукала дзверцамі буфета. Несла на стол патэльню з яечняй-каўзунняй, высыпала з чыгунка ў місу маладую бульбу, ставіла талерку з агуркамі і смятанай і прыгаворвала:

— Людзей яму мала... Каня прасіць — адкуль і бяруцца... А на поле ісці — людзей няма! Куды дзяюцца — не разумею...

— Станеш на маё месца — зразумееш.

— А што — не спалохаюся! — Да маці вяртаўся, як казала бацькава сястра, цётка Таня, яе «сібірскі аптымізм» — Сцёпкава маці была сібірачка.— Яшчэ так усё закручу, што толькі трымайся!

Сцёпка зірнуў на Міколку — малы заціскаў сабе далонню рот, твар яго пачырванеў ад натугі, а вочы смяяліся.

— Гляньце на Міколку!

Маці зірнула — і засмяялася. Бацька таксама павесялеў:

— Нарабіў дзялоў, мы расхлёбваем, а ён смешкі строіць. Снедаць думаеш?

— Ага.

— А мыцца?

— Ага.

— Ага-ага! Як гусак! — перакрывіў малога бацька, зняў з сябе пінжак, павесіў на кручок доўгай, на паўсцяны, вешалкі і пайшоў на кухню.— Што — усё? Вочы працёр — гэта ты называеш мыцца?

Пакуль яны жартам спрачаліся, Сцёпка паснедаў. Выбраўся з-за стала і выйшаў на падворак. Выразаў з вудзільна кіёк, зрабіў з газеты капялюш з казырком. На поле пайшоў напрасткі — цераз агарод. Стараючыся не набраць у вятроўкі пяску і не намачыць аб расу штаны, ішоў разорай паміж усё яшчэ высокім і густым бульбоўнікам. Успомніў, як аднойчы, гледзячы на ката Ваську, які ішоў па версе частаколу, сам рашыў абысці, трымаючыся за лёсткі, па верхняй папярэчыне ўсю сядзібу. Не адолеў і чвэрці адлегласці: надакучыла перастаўляць ногі па вузкіх і слізкіх жэрдках. Успомніў, што палічыў гэта тады адзнакай свайго бязволля і слабасці духу. Весела хмыкнуў сабе пад нос. Ухапіўся за альховыя колікі і перамахнуў на другі бок агароджы.

## II

Ласкава свяціла сонца, радаваў вока адкрыты прастор палёў, вуха лашчыў шолах прыдарожнага лазняку, ціхі, быццам святло лямпачкі з-пад столі, спеў жаўранка, аглушальны, з усіх бакоў строкат конікаў. Сцёпка Расоха бадзёра крочыў па сцяжынцы, якая раз-пораз перабягала з боку на бок пыльнай палявой дарогі. Збіваў кіем галоўкі кветак, ссякаў сцяблінкі сухога быльніку, доўга, ажно кій пазеляне́ў, ваяваў з цэлай план-

тацыяй асоту. Нарэшце дабраўся да ўтрамбаванага мінеральнымі ўгнаеннямі ўсіх відаў, як бетанаванага, скрыжавання дарог. Зірнуў у адзін бок, у другі. Перад ім была Высокая дарога. Патаптаўся на месцы, быццам не ведаючы, куды ісці. Азірнуўся на далёкі зялёны востраў вёскі.

Адразу за канавай, густа зарослай кустамі і ажыннікам, пачыналася застаўленае радамі копаў і разлінаванае слядамі машын жытнёвае поле. Недзе за горкай, за шырокай палосай нязжатай збажыны, у другім канцы яго таіўся не бачны пакуль што камбайн.

Уявілася, як каля камбайна ходзіць туды-сюды Казік Шчур, як пазірае раз-пораз на гадзіннік і праклінае свайго памочніка. «Дзе ён падзеўся? Без яго кія я не тое што жыта жаць, але і матор завесці не магу. Гэты хлопец сарве мне ўсё жніво. Ну, не буду я Казікам Шчурам, вядомым на ўсю акругу вынаходцам-самавукам, калі не знайду выхад!»

Мабыць, знайшоў-такі: неўзабаве пачуўся рэзкі выхлап паветра і магутны рык дызеля.

Сцёпку давялося тэрмінова выдумляць прычыну свайго спазнення: «Скажу: «Дырэктар саўгаса запыніў. Прычапіўся: маўляў, на такіх, як ты, трымаецца ўся эканоміка саўгаса, і мы ўскладваем на цябе вялікія надзеі...» Не, лепей скажу: «Трое невядомых заступілі дарогу. Патрабавалі, каб вывеў са строю камбайн — солі ў бак насыпаў, свячу выкруціў, кола пракалоў цвіком... Гаварылі ўсё пра нейкага «сябра-суперніка», якога Казік, калі не спыніць, як піць даць абставіць у спаборніцтве». Ат, проста скажу: «Напаў на ажыны каля Высокай дарогі».

Пашкадаваў, што не мае часу, каб сапраўды пашукаць ягад, і падумаў, што іншым разам пастараецца прыйсці раней. Пакінуў скрыжаванне.

Канава з левага боку мяльчэла і хутка скончылася нізкім і неверагодна густым лазовым кустом. Дарога

пайшла ржышчам і непрыкметна знікла — разбеглася на безліч шырокіх і вузкіх, ад машын і ад калёсаў, каляін. У канцы поля нарэшце паказаліся чырвоны верх бункера і брызентавы казырок над мосцікам. Памацнелі гул матора і шум малатарні.

Сцёпка даўно ўжо знайшоў вачамі наперадзе, наўзбоч поля, адзінокую дзічку, знакамітую буйнымі, амаль свойскімі, грушамі. Да яе ён і накіроўваўся па шырокім следзе — «елачцы» ад пярэдняга кола камбайна. У рэшце рэшт было б ненатуральна прайсці поблізі і не пацікавіцца, які сёлета ўраджай на ёй. Здалёк выдавала, што груш шмат — уводзіла ў зман круглае і цёмнае на фоне сіняга неба лісце. Зблізку адкрывалася іншае. Нехта ўжо дабраўся сюды: пакалечанае голле, паабіванае лісце, патаптаная трава і рэдкія, яшчэ зусім зялёныя, грушкі на самай верхавіне. Падабраў у траве некалькі паданак, сухіх і цвёрдых, леташніх. Раскусіў адну і адразу выплюнуў. Астатнія шпурнуў у ржышча. Абышоў дрэва навокал, знайшоў высока на галіне некалькі груш і спароў іх кіем. Выціскаў зубамі сок, ад якога перакошвала рот, рэшту выплёўваў. Хутка набіў аскому.

Пайшоў, асцярожна ставячы ногі сярод іржышча, насустрач блізкаму ўжо камбайну. Казік Шчур заўважыў яго, спыніўся побач і выключыў малатарню. Звонкім голасам юнака — гэтаму ўражанню адпавядаў вострыя зірк жывых вачэй, маладжавы твар, рэзкія рухі і танклявая нават у камбінезоне постаць — прывітаў:

— Здароў, Сцёпа!

— Здрасце!

Казік вытыркнуўся з-пад тэнта, зірнуў на сонца і заплюшчыў вочы:

— Ну і смаліць! — Злез з мосціка, бадзёра загаварыў.— Значыць, прыбыў! Легкавата адзеўся. Вечарам будзе не тое што холадна, але і не горача. Ну, нічога, закаляйся! Я цябе мігам увяду ў справу. Перш-на-

перш — ці ведаеш, хто я такі? Не, не ведаеш! Я не абы-хто, а дырэктар камбайна. Ты, значыць,— памочнік дырэктара,— весела падміргнуў.— А зараз ідзём сюды,— адступіў на некалькі крокаў, а за ім і Сцёпка.

Выявілася, што камбайн, які Сцёпка бачыць перад сабой, называецца СК-4У. «У» — азначае «ўдасканалены». Але не такі ўжо ён дасканалы. Напрыклад, сёлета, калі жыта скрозь палегла,— не дзіва, гэтулькі навальніц прайшло! — гэта машына мала чаго варта. Ходзіць амаль увесь час на самай малой хуткасці — першай паніжанай. У суткі выдае максімум дзесяць — дванаццаць тон зерня. Але ж не сярпом жаць, не касой касіць. Або як у адной казцы расказваецца — страляць па-над зямлёю з гармат. Акрамя ўсяго гэтага, часта забівае барабан. І не таму, што жыта густое ці вільготнае або шырыня захопу жняяркі вялікая. Проста палеглая збажына кладзецца па каласку на правы бок жняяркі, на дзельнік, збіраецца — копіцца — расце, яе нарэшце чапляе граблінамі матавіла і скідвае на палатно. Усё гэта падхоплівае транспарцёр, імчыць у барабан і забівае яго. Камбайн спыняецца, а яго «дырэктар» лезе ў жняярку цягаць, шморгаць, ірваць па саломінцы — вызваляць барабан. Тэхніка на мяжы з фантастыкай. Сам Казік Шчур налаўчыўся прыкмячаць той момант, калі матавіла вось-вось зачэпіць сабранае на дзельніку калоссе і тармозіць. Але хіба ўсочыш за ўсім: за полем, за жняяркай, за маторам, за малатарняй, за бункерам, за капніцелем?

— Карацей, патрэбен памочнік! Як ты, Трафімавіч, глядзіш на гэта? Адабраеш, але не зусім. Ну, нічога! Работка ў цябе — не бі ляжачага. Прыстройвайся ззаду жняяркі і не давай калоссю збірацца. Усё проста. Сам бы рабіў, але няма каго за штурвал паставіць.

Сцёпка нявесела слухаў, а пад канец і зусім замаркоціўся: «Во папаўся! Лепей бы Казік паздзекаваўся — трансмісію загадаў прынесці, іскру ад свячы ў іржы-

шчы знайсці, як прыпаручаць такое». Моўчкі павярнуўся і падыбаў на сваё месца, усім выглядам паказваючы: яму ўсё гэта не падабаецца, але ён чалавек падначалены і падпарадкоўваецца загаду. Наскуб з капніцеля ахапак саломы, паклаў на скрынку, умасціўся сам. Сумна пасміхаўся, заўважаючы, як Шчур, відавочна, збіты з панталыку яго дзіўнымі паводзінамі, ускочыў на мосцік і адразу ўхапіўся ўключыць малатарню, быццам схаваўся за яе шумам.

Успомніў пра «Трафімавічаву акадэмію». Так называлі ў вёсцы паляводчую брыгаду яго бацькі. Усіх, хто правінаваціўся, трапіў на дыван да «таты» — дырэктара саўгаса,— адсылалі да Аляксея Трафімавіча на перавыхаванне. Сталыя паляводы («штатнікі») сустракалі іх з'едлівымі жартамі або радаснымі воклічамі, гледзячы па тым, хто трапіў да іх і ў каторы раз. Найчасцей гэта былі механізатары, народ, на думку Расохі, ненадзейны і сапсаваны бясконцымі прывілеямі і выгодамі, якія давала ім дырэкцыя. Зрэдку — служачыя. Гэтыя нудзіліся па сваіх запыленых гросбухах, залітых фіялетавым чарнілам сталах і чорных нарукаўніках і стараліся, як умелі, хутчэй вярнуцца назад. Брыгадзір прымаць прымаў («Усё-ткі рабсіла!» — смяяўся Казік Шчур: між іншым, таксама быў праштрафіўся), але асаблівага захаплення не выяўляў. Яму патрэбны былі працаўнікі, а не падзённікі, якія на вілы і граблі глядзяць коса і вялікага спрыту ў працы не паказваюць.

З Сцёпкам Расохам адбылося адваротнае: з палявода ў трапіў у «механізатары», стаў качагарам на верталёце, як гаварылі звычайна ў вёсцы пра падобны занятак, але ў межах той жа славутай «Трафімавічавай акадэміі». Ён паспеў ужо выдумаць тлумачэнне нечаканаму павароту ў сваім лёсе: у тэхніцы XX стагоддзя з'явілася навінка і нехта ў рэшце рэшт павінен яе асвоіць, выпрабаваць ва ўмовах павышаных цяжкасцяў, сярод

якіх трэба не забыць спёку — яна ўжо давала сябе адчуць, перасечаную мясцовасць — выбоіны на кожным кроку, неверагодны шум і нездаровы настрой выпрабавальніка.

Смех смехам, а Казік Шчур — аўтар гэтай навінкі — быў самым сапраўдным вынаходцам. Першыя яго спробы, як ён сам расказваў, спасцігла няўдача. У дзяцінстве нехта паказаў яму сапсаваны гадзіннік, і ён, думаючы, што варта толькі захацець, як справа пойдзе на лад, узяўся адрамантаваць, а праз хуткі час прынёс жменю калёсікаў і шурупчыкаў. «Гэтаму гадзінніку не хапала двух камянёў: на адзін пакласці, а другім зверху стукнуць». Мабыць, дасягнуў усё-ткі немалога ўмельства, раз па вёсцы хадзіла ўпартая чутка, быццам ён, калі давялося, з веласіпеднай рамы зрабіў самагонны апарат.

Летась Казік сапраўды склаў цэлы трактар, няўклюдны, смешны, аднак склаў. Лётаў на ім па ўсім наваколлі — нездарма «Спадарожнікам» ахрысцілі. Вазіў усё, што можна вазіць,— за прычэп служылі звычайныя калёсы. Садзіў і абганяў бульбу. Пампаваў з калодзежа ваду на грады. Ставіў тэлевізійныя антэны. Траляваў лес. А восенню прыстроіў да яго бульбакапалку, таксама самаробную, і выехаў у поле на выпрабаванні. Дзесяці метраў не прайшоў, як пачуў лямант:

— Стой! Стой!

І голас жонкі:

— Няхай яе, з тваёй капалкай! Паўрада бульбы збаёдаў!

Азірнуўся: ззаду амаль канаву вырыў. Бульбу гэтак закапаў, што аддураліся шукаць. Спакойна растлумачыў:

— Усё проста: не разлічыў канструкцыю!

Пакуль усе — быў там і Сцёпка са сваёй камандай — стаялі навокал і глядзелі, як ён рэгулюе глыбіню ворыва, расказаў анекдот пра рацыяналізатараў:

— Прыходзіць у адзін калгас інструкцыя: павысіць прадукцыйнасць працы. Старшыня выклікае брыгадзіра: маўляў, так і так, думай. Той ламаў галаву, ламаў, прыдумаў: «Касец косіць у адзін бок, назад каса ідзе ўхаластую. А што, калі касіць на абодва бакі?!» Сказана — зроблена. Прысабачылі да касавільна яшчэ адну касу. Старшыня паглядзеў-паглядзеў і таксама мазгамі раскінуў: «А што, калі прыспасобіць касцу ззаду граблі, каб адразу і касіў і заграбаў за сабой?!» Прыспасобілі. Даходзяць чуткі да раённага начальства. Тое на «козлік» — і на луг. Касцы яшчэ толькі пыл на дарозе ўгледзелі, як ірванулі хто куды: «Уцякайма, браткі, бо прычэпяць спераду ліхтар і прымусяць касіць у дзве змены!»

Цяпер на Казікавым трактары яго пляменнік возіць падлеткаў на танцы ў суседнія вёскі.

Сцёпка Расоха не гадаў, не ведаў, што стане ахвярай рацыяналізатарскай фантазіі Казіка. Але вось жа стаў!

Жняярку, а разам з ёй скрынку, на якой ён ліпеў, даволі моцна кідала з боку ў бок. Салома саслізгвала, і хлопец спакваля аб'язджаў на край. Ногі яго матляліся над іржышчам, якое бегла і бегла роўнымі радочкамі з-пад жняяркі і прыемна паколвала ступні. Адной рукой Сцёпка трымаўся за край рамы, другой, у якой быў кій, не даваў калоссю збірацца на дзельніку. Збажына паўзла і паўзла на дзельнік, ён лёгенька, адным кончыкам кія скідваў яе на палатно жняяркі.

Хутка выявілася недасканаласць сядзення — скрынкі для інструменту і запчастак. Было нязручна, нізка, цесна. Сядзець даводзілася бокам да жняяркі. Зацякалі рукі, млелі ногі. Увесь час карцела перамяніць паставу. Нарэшце Сцёпка не вытрымаў — пабег да капніцеля па салому. Выхапіў жмут, паклаў на скрынку, сеў. Заўважыў, што на дзельніку сабраўся добры сноп жыта. Шпурнуў яго кіем на палатно і спахапіўся. Але позна:

калоссе хутка і пагрозліва рухалася да барабана. Казік рэзка затармазіў. Завыў, затарахцеў, завішчаў барабан, накручваючы з ліхаманкавай хуткасцю на сябе салому. Праз сілу глынуў. Загула, затрашчала малатарня. На гэты раз справілася з незапланаванай нагрузкай.

Камбайн рушыў далей. Сцёпка стараўся, і пэўны час усё ішло нармальна. Але вось ён зноў стаў круціцца на месцы. Стаў наўколенцы, аднак хутка адчуў, што амартызацыя не разлічана на яго калені, і сеў, звесіўшы ногі з другога боку скрынкі. Падкурчыў іх: нязжатае жыта сцягвала яго. Неўзабаве зразумеў: найлепшая пазіцыя тая, якую займаў з самага пачатку. Пакуль перасядаў, на дзельніку імгненна набегла калоссе. Адкінуў яго і насцярожана, але адначасова і зацікаўлена сачыў, як транспарцёр нясе яго да барабана, слухаў, як нешта загрукатала ў малатарні. Раптам скеміў, што неабавязкова раз за разам махаць кійком. Ён пазбягаў слова «працаваць»: смешна было называць працай яго бязглузды занятак. Трэба вызначыць нормы саломы, якую можа прапусціць барабан. Эксперыментатар, не горш за свайго начальніка, Сцёпка назбіраў калосся столькі, што давялося паднатужыцца, каб прыўзняць яго кіем і скінуць з дзельніка. Пакуль ён важдаўся, снапок разросся да крытычнай велічыні. Барабан забіла.

Казік выключыў малатарню, паволі сышоў з масціка, знік за камбайнам. Адчуваючы сваю няўклюднасць і нехлямяжасць, лез Сцёпка ў жняярку цягаць, клычыць, ірваць салому з барабана. Не заўважыў, як паабдзіраў пальцы. Абкруціў адарванай з папяровай шапкі палоскай газеты. Кончык зацінуў паміж пальцамі. Доўга важдаўся, шморгаючы па сцяблінцы. Хутка справа пайшла весялей — салома палезла цэлымі пукамі.

Між тым Казік Шчур пахаджваў, быццам нічога ніякага, каля камбайна, стукаў ключамі і, здаецца, нешта насвістваў. А можа, гаварыў сам з сабою. Калі га-

варыў, то, вядома, пра Сцёпку: «Ну шэльма! Круціцца-верціцца, садзіцца-ўстае. Муляе яму! А мо па заданню «сябра-суперніка» працуе? Бач ты, завербаваўся!» Завяршыў свой вымушаны тэхагляд. Узабраўся на капітанскі мосцік. Зірнуў навокал і збіў далоняй кепку на бровы. Сцёпка па-свойму разгадаў гэты рух: «Ё-маё! Ні канца ні краю! З такім напарнікам, як мой, няйначай зазімуем!»

Сцёпка з скрынкі перасеў на раму жняяркі, адсунуўся на яе вугал і зірнуў на сябе вачамі Казіка: «Канца няма яго выдумкам! Рацыяналізатар не горш за мяне. А адказваць за ўсё буду я». Мабыць, угадаў: Казік незадаволена пакруціў галавой. Сцёпка паказаў, што трымаецца за раму моцна.

Пасля першага штуршка зразумеў: ехаць, седзячы на раме, увогуле можна. Але неўзабаве выявілася новая акалічнасць: рама, хаця і была даволі тоўстай трубой, рэзала ў сцегняк
і. Праўда, можна было абвінаваціць і самога Сцёпку. Напрыклад, у недахопе цярплівасці і ўседлівасці. Ён неспакойна чакаў новых штуршкоў і спадзяваўся больш на амартызацыю ўласных рук, на якіх кожны раз прыпаднімаўся. Не вытрымаў усё ж — скочыў на дол і памчаў да капніцеля па салому. Гісторыя паўтаралася: пакуль уладкоўваўся, на дзельнік нехта падкінуў ахапак каласоў. Крыло матавіла ўжо чыркала па ім граблінамі. Паспрабаваў аддзяліць кіем частку, але частка пацягнула за сабой усю ахапку. Заскрыгатаў барабан, загуў матор. Малатарня, на момант здалося, змоўкла, быццам захлынулася. Казік, хаця са спазненнем, але затармазіў — Сцёпка ледзь не ўпусціў з рук сваю драўляную зброю. Спалохана ўявіў, што адбылося б, каб кій ускочыў у барабан.

Трэск, стукат, грукат! Камбайн разносіць на кавалкі. Вылятаюць гайкі, балты, восі, транспарцёры, трансмісія. З матора валіць пара, круціцца па інерцыі матавіла, сыплецца з паваленага на бок бункера зерне, адне-

куль з-за воблакаў вяртаюцца — покаюць у ржышча — ключы, адвёрткі, свечы, пракладкі, зорачкі. З-пад гурбы шатуноў, крывашыпаў, шнэкаў, рэшатаў і пакурочанай бляхі выбіраецца Казік Шчур. Камбінезон на ім целяпаецца сінімі клочачамі, а на шыі матляецца ланцуг-караліі. У руках яго — гаечны ключ «51 на 56», самы вялікі, які толькі ёсць. Ён урачыста, быццам усё жыццё чакаў гэтага моманту, крочыць да паверджанага ў пыл памочніка. Сцёпка дарэмна прыслухоўваецца да таго, што адбываецца ў яго целе: ні болю, ні ран, ні нават драпіны. Неразумнае цела лічыць, што найбольшая небяспека мінула, гучна і радасна сігналізуе, што яно жывое, больш таго, цэлае і здаровае. Прыкідвацца — стагнаць, курчыцца — немагчыма, проста сорамна. I Сцёпка рад ужо таму, што ляжыць на зямлі, што запылены, брудны, няшчасны. На языку ў яго круціцца: «Ляжачага не б'юць! Ляжачага не б'юць! А ляжачага не б'юць!» Побач з Казікам узнікае змарнелы, зарослы шчацінай, з вострым бляскам неверагодна блакітных вачэй брыгадзір, глядзіць на сына і, не пазнаючы яго, праходзіць міма, плаўна, быццам у кіно з замаруджанымі здымкамі, перастаўляючы ногі, праз поле, кусты, канавы, поплаў...

Штуршок вярнуў Сцёпку з забыцця. Ён радасна азірнуўся навокал. Працаваў камбайн і ад зыркага сонечнага святла здаваўся нейкім незнаёма-новым. Над рулём стаяў Казік Шчур і засяроджана сачыў за полем перад жняяркай. Паглядзеў удалячынь і, мабыць, заўважыў грузавік — адразу азірнуўся на бункер. Сцёпка са свайго месца нічога не бачыў, акрамя сцяны жыта перад вачамі, раскіданых па полі коп ды цёмна-зялёнай палоскі прыдарожных кустоў.

Нарэшце наперадзе паказаўся ЗІЛ-150 — «трамбыль», па вызначэнню шафёраў. Пафарбаваны, быццам легкавік, у блакітны колер, ён быў прыкметны здалёку. Баркун, які на ім ездзіў, не раз каяўся, што выбраў

фарбу, з-за якой нельга было ні захалтурыць, ні правы парушыць. Адразу ўсё станавілася вядомым. Сцёпка быў згодзен: Баркуну падышла б якая-небудзь больш змрочная фарба. Яму наогул пасавала ўсё грувасткае. Той жа ЗІЛ — непаваротлівае стварэнне з шырачэзным буферам, прасторнай кабінай, ёмістым кузавам, густым гулам матора і сіпеннем паветранага тормаза,— падыходзіў надзвычайна. Сцёпка аднойчы заўважыў Баркуна ў кабіне «газіка» і спачатку не паверыў сваім вачам, а потым спалохаўся: быць бядзе! Бяда сапраўды здарылася — Баркун задушыў курыцу.

Між тым Баркун ужо нешта даводзіў Казіку. Той ківаў няпэўна галавой і адхіляўся ад свайго субяседніка, які налёг бесцырымонна на яго і перашкаджаў упраўляцца з камбайнам. Сцёпкі ён усё яшчэ не заўважаў. А калі заўважыў, не таіў свайго незвычайнага ўзбуджэння — адразу закрычаў Казіку нешта на вуха. Сцёпка, вядома, не чуў, што ён гаварыў, але здагадваўся: «Гы-гы... Што гэта за хлапец? На чорта ён табе? Гы-гы... Няўжо калоссе адкідае? А яму за гэта плоцяць? Дурань нейкі! Сама на рэчцы загараць, а ён тут парыцца. Я не я буду, калі ён больш за гадзіну тут вытрымае. Збяжыць як піць даць. Я збег бы».

Казік устаў паглядзець на бункер. Бункер быў поўны. Баркун, прыпадняўшыся на пальчыкі, таксама зазірнуў. Раптам пачаў махаць рукамі — паказваў вагаўшчыку, які сядзеў у кабіне, каб заводзіў матор і пад'язджаў, але ўбачыў, што толку з гэтага не будзе, злез з мосціка і пайшоў да машыны. Камбайн спыніўся. Сцёпка скочыў з рамы, размяў замлелыя ногі, падышоў да жыта. Выбраў самы буйны колас, адшчыкнуў. Расцёр яго аб далонь, выдзьмухнуў асцюкі. З цікавасцю разглядаў празрыста-жоўтыя цвёрдыя зярняты. Высыпаў у рот. Жаваў і слухаў, як бразгае на супрацьлеглым баку камбайна элеватар і як шуміць, разбягаючыся па кузаве, зерне.

## III

Пагрузка-разгрузка нарэшце скончылася. Баркун заваліўся дрыхнуць у салому, якую нацягаў пад машыну (яго ЗІЛ браў два бункеры зараз), а Сцёпка спакойна сеў на скрынку. Недалёка наперадзе быў паварот, і ён хутка спазнаў задавальненне ехаць проста так і разглядаць усё навокал.

Калоссе нахілялася да камбайна, стукалася аб борт жняяркі, даставала да Сцёпкавай спіны, але на дзельніку ўжо не затрымлівалася, акрамя асобных каласкоў, якія траплялі ў куток паміж бортам і стойкай для матавіла. Пстрыкала з-пад вятровак іржышча, паміж пальцамі заставаліся кветкі рамонкаў, васількоў і белай канюшыны, білі па руцэ, якой трымаўся за раму, каласкі. Махаў слабымі крыльцамі над збажынай жоўты матылёк, выпырхвалі наперадзе з жыта дробныя птушкі, кружыў над далёкім лесам «кукурузнік». Млела пад паўдзённым сонцам жытнёвае поле.

Побач марудна і пагрозліва круцілася вялізарнае пярэдняе кола і вымінала ў іржышчы шырокі след. Вось яно гэтак жа спакойна і ўрачыста, як ішло па роўнаму, скацілася ў неглыбокую ямку. Жняярку падкінула, і яна чыркнула днішчам па зямлі, зрэзала, як бульдозерам, дзёран. Сцёпка падняў ногі і пастукаў адна аб адну, вытрасаючы з вятровак пясок. Ад лап, якія віселі пад жняяркай, быццам лыжы ў самалёта, і захоўвалі яе ад удараў, застаўся шырокі бліскучы след.

Мякка хадзілі нажы і рэзалі, і рэзалі, і рэзалі беспярапынна сцябло, шырока махала крыламі матавіла і падбірала пад сябе збажыну, адкідвала на транспарцёр, які імчаў яе да барабана, шалёна круціліся калёсы і калёсікі, гладкія і зубчастыя, пасы і ланцугі з боку малатарні, запаўняла капніцель салома, і неўзабаве на поле выпаўзала бухматая капа, а недзе непрыкметна,

быццам ручай скрозь кусты, цурчэла ў бункер залацістае зерне. Грукала, стукала, бразгала, гуло гэтак, што можна было крычаць на ўсё горла, гарлапаніць песні, лаяцца апошнімі словамі, і ніхто, нават Казік Шчур, не пачуў бы. Усё гэта страшэнна падабалася Сцёпку, і ён хутка ўлавіў у грымотах, якія ішлі ад вялізарнага механізма, выразны, амаль музычны рытм:

Рэжу-рэжу,
нахіляю,
мну-ламаю,
растрасаю,
зерне ў бункер
засыпаю.

Камбайн рухаўся даволі раўнамерна, і нават частыя прыпынкі перад шырокімі, быццам нехта вялікі качаўся, лапінамі палеглага жыта не парушалі рытму, які чуў Сцёпка, а наадварот, рабілі яго яшчэ больш выразным:

Рэжу-рэжу,
рэжу-рэжу...

Казік Шчур, заўважыў яго памочнік, працаваў амаль увесь час стоячы і толькі зрэдку, быццам скідваў у сябе празмернае напружанне, садзіўся на сваё месца. Ён пільна сачыў за полем перад камбайнам і імгненна рэагаваў на ўсе змены на ім: набіраў хуткасць або скідваў, паднімаў жняярку або апускаў, павялічваў шырыню захопу або змяншаў.

Сцёпка ўжо ведаў: меркаю душэўнага настрою яго начальніка служыць кепачка. Паказвалася наперадзе выбоіна, камень, падазроная купіна, дзялянка густога або зарослага травой жыта — кепачка адразу аказвалася насунутай на бровы. Асабліва дапякала палеглае жыта. Казік амаль да адказу апускаў жняярку — ззаду заставаўся бачны Сцёпку шырокі бліскучы след ад лапы-полаза, пераходзіў на першую хуткасць і,

вядома, нацягваў кепачку на самыя вочы. Аднак бязлітасныя нажы зразалі толькі сярэдзіну сагнутага ў дугу сцябла, і каласкі ападалі на дол.

Сцёпка часам, ідучы паўз жыта, сарве каласок. Проста так сарве, не з жадання нашкодзіць. Круціць-верціць яго ў руках, а потым недзе па дарозе, калі гуляць надакучыць, не ведае, што з ім рабіць, не разумее, навошта наогул сарваў. Выкінуць — шкада, а назад да сцябла таксама не прыставіш. Кінуць, а ён будзе ляжаць адзінока сярод дарогі, растаптаны конскімі капытамі, расціснуты жалезнымі і гумавымі коламі, пусты і лёгкі, будзе гніць пад дажджом і прэць пад сонцам, бездапаможны перад варонамі і вераб'ямі, мышамі і мурашкамі. Уявіць Сцёпка ўсё гэта і каецца, што сарваў без патрэбы, і нясе той каласок, пакуль не згубіць, забыўшыся пра яго.

А лапіны палеглага жыта сустракаюцца занадта часта і дзе-нідзе пераходзяць адна ў адну, злучаюцца ў адзін вялікі масіў. І вось у Сцёпкавым уяўленні ўзнікла размова, з якой ён быццам бы звярнуўся да Казіка:

«Дзядзька Казік, гэта ж столькі дабра на глум ідзе!»

«Нічога не зробіш, Сцёпа».

«Няўжо нічога? Якое-небудзь прыстасаванне, накшталт вілаў, каб хоць трохі прыпаднімала каласы? Проста спосаб нейкі?»

«Думалі. Па тэлевізары, мо бачыў, коласапад'ёмнік паказвалі, нешта сапраўды на вілы падобнае, мацуецца пад нажамі, а ў газетах пра граблiны пісалі, але не прамыя, як у нас, а загнутыя. Думаеш, мы не спрабавалі іх прымяняць? Памагае, вядома, але не вельмі. Хіба ты нешта сканструіруеш?»

«Што — я!»

«Хапіла б кемлівасці, думаю. Іншыя нават не заўважаюць, як зерне гіне, а ты вось падмеціў».

«А што, калі проста арганізаваць школьнікаў? Няхай збіраюць каласкі!»

«Ну вось, а казаў! Праўда, пакуль піянеры, дык Матруна тры разы гэта поле аббяжыць з кубінскім мехам. Назбірае і курам, і на брагу. Так што дабро не загіне!»

Між тым лапіна канчалася, і на жняярку зноў накочвалася хваля збажыны. У вушах зноў гучала вясёлая музыка, падобная да той, якую часам наладжвалі хлопцы пад Сцёпкавым дырыжорствам і якая насіла гучную назву «Сімфонія ля мажор нумар чатыры»,— лупілі хто па чым папала, вадзілі палкамі па штакету, лямантавалі, рагаталі, свісталі.

Камбайн зрабіў паварот, і Сцёпка нечакана трапіў у густую хмару пылу, копаці, смецця — усяго таго, што вылятала, высыпалася, вытрэсвалася з дзюрак і дзюрачак вялізарнага агрэгата. Зашпіліў на ўсе гузікі рубашку, заплюшчыў вочы, зацiснуў пальцамі нос, пакуль не зразумеў: марныя спробы! Расплюшчыў вочы: на штанах, на рубашцы — тонкі пласт пылу, саломінкі, асцюкі... Глянуў на Казіка: той весела шчэрыў зубы і нешта крычаў. Вядома, падбадзёрваў: маўляў, трымайся, Сцяпан Аляксеевіч, помні, што ты з слаўнага роду Расохаў, а радзіма цябе не забудзе...

Але Сцёпка быў ужо не ў стане разумець жарты. Невядомая сіла пагнала яго думку да вываду: над ім здзекуюцца — даюць у рукі кій і кажуць, што ён змагаецца за ўраджай, садзяць на скрынку і называюць гэта навінкай тэхнікі атамнага веку, нарэшце збіраюць усю копаць, якая толькі ёсць на свеце, і акунаюць у яе. Скочыў з скрынкі і, не зважаючы на тое, што ржышча калола ў ногі, памчаўся без агляду ад камбайна.

Першае парыванне неўзабаве сцішылася, і Сцёпка зірнуў наперад больш-менш асэнсаваным поглядам. Убачыў, як далёка яшчэ бегчы па адкрытай прасторы да цёмна-сініх на жоўта-зялёным фоне кустоў і якія, на самай справе, малыя, каб хавацца за імі, копы, што яшчэ нядаўна здаваліся вялізнымі і бухматымі. Успом-

ніў, што праз увесь час будзе бачны Казіку Шчуру, і адразу ўсё змянілася: учынак здаўся гнюсным, а сам ён — вартым пагарды.

Раптам заўважыў, што ад пачатку да канца сваіх уцёкаў знаходзіўся пад прыкрыццем камбайна і што Казік не мог бачыць, як ён ганебна бліскаў пятамі паміж копамі. Спыніўся, паглядзеў у адзін бок, у другі, зрабіў некалькі нерашучых крокаў услед за камбайнам. Зноў спыніўся. Нечакана рвануў з усіх сіл наперад. Выбег на шырокі свежы след ад пярэдняга кола камбайна, насціг капніцель і па вузкай, мітуслівай каляіне, праробленай у ржышчы маленькім заднім колам, пераскочыў на шырокі след справа, з боку, дзе сядзеў Казік. Трэба было паказаць, што ён не збег, а ўсяго толькі прагульваўся, азіраў мясцовасць або нават правяраў, ці спраўна працуе камбайн.

Казік неўзабаве азірнуўся. Ён, вядома, не чакаў такога сюрпрызу, ссунуў на патыліцу кепачку і толькі тады паверыў сваім вачам. Пасияшыў адвярнуцца, каб схаваць сваё здзіўленне і радасць. А Сцёпка, па сутнасці, таксама рады сустрэчы, усё-ткі пакараў сябе: «Эх ты! Вось і вер пасля такога табе!» Незадаволенне самім сабой нечакана перанёс на надвор'е, на поле, на брыгадзіра.

Надвор'е! Сонца смаліць без літасці і жалю, і вочы дарэмна блукаюць, шукаючы цянёк і халадок. Вецер, замест таго каб нагнаць воблакаў і абвеяць успацелае цела, паварочвае ўсё смецце ад камбайна ў бок Сцёпкі. Воблакі плаваюць сабе недзе над даляглядамі, і ніводнае не адважваецца перасекчы неба над полем.

Поле! Вялізнае, няроўнае, калючае!

Брыгадзір! Наіўны, смешны, бездапаможны! Спадзяецца, што Сцёпка выратуе ўраджай. Быццам нічога на свеце не ведае. Сцёпка чуў, а ён няўжо не чуў, што летась вагаўшчык Зносак разам з Баркуном у суседняй брыгадзе не адзін бункер саўгаснага жыта ўла-

дзілі. Зносак яшчэ хваліўся па п'янай лавачцы: «Папілі мы — дай божа! Каб бралі грашыма, азалаціліся б — смела маглі матацыкл з люлькай купіць!»

Між іншым, Зносак зноў вагаўшчыком. Расохава суседка, цётка Прузына, пачуўшы гэту навіну, сказала: «Такі ніколі не прападзе! Пры любым начальстве прыстроіцца. Здаецца, трохкапеечны, а тым часам свептам круціць. От жа, усё ўсім вядома, і нічога не зробяць! Галоўнае — не адзін. Як сваякі, адзін за другога стаяць. Ён, другі, трэці... Паспрабуй раскаці той клубочак!»

«Трохкапеечны» Зносак выдаваў заўсёды сябе за рубель. Быў у суседнім калгасе ўчотчыкам. Бегаў раненька па падвоканнях, тарабаніў у шыбы: «Цётка Сарафіна! Бабка Аўдоля! Андруха! Выхадзі!» Вырас да ўпраўляючага — была адзін час такая пасада, «прышый кабыле хвост», нешта накшталт пасрэдніка паміж старшынёй і брыгадзірам. Шукаў якога-небудзь занятку — у канцы вёскі пераймаў баб, якія, замест таго каб ісці на луг, беглі ў ягады, і адбіраў вёдры і кашы. Тады і зрабіўся на векі вечныя Зноскам. Іначай і не ведалі, як Зноскам называць. Пасля таго як калгас далучылі да саўгаса, перакінуўся ў сантэхніка. Перастараўся — абпырскаў хімікатамі лазняк паўз бераг ракі кіламетры на два. Спаліў і лазняк, і траву, патруціў усё жывое. Нарабіў шкоды на паўтары тысячы рублёў. Трапіў у няміласць — апынуўся ў начных вартаўніках. Прыйшоў у рэшце рэшт да вываду: «Усе — зладзеі!»

І вось Зносак зноў у ход пайшоў — у вагаўшчыкі ўбіўся. Але ён сапраўды не адзін.

Баркун — наступны, хто падстаўляе пад бурны струмень зерня свае дзіравыя рукі: «Усё неяк само сабой атрымліваецца. Развесіш па кутках кузава мяхі, каб зерне на дарогу не высыпалася, прыедзеш, глядзіш: у кожны мех нешта і трапіць. Адзін рэйс — адзін мех. Гы-гы...»

На чарзе — прыёмшчык Другачонак.

У кожнага ёсць улюбёнае слоўца. У Сцёпкавага бацькі — «праўда»: «Праўда, прыходзім мы. Праўда, сустракаюць...» У Казіка Шчура — «усё проста»: «Усё проста: бяром змеявік, да аднаго канца прыстройваем бітон з брагай, пад другі падстаўляем бутлю...»

У Другачонка — «скідка»: «Усушка, утруска — адно, а скідка — другое. Узяць зерне. Дождж — сірочыя слёзы. А зерню многа не трэба: ваду ўцягвае, як цукар. Я быў спецыяльна вядро з вадой каля засека на ноч пакінуў. Што ты думаеш? На другі дзень — сухое вядро. А прымі я без скідкі?! Без штаноў застанешся. Узяць засмечанасць. Кажаш, нічога страшнага: асцюкі, божыя кароўкі, стракозы... Прымі, а праз суткі ўзваж, колькі пудоў распаўзецца? Узяць вільготнасць. Зерне, не сакрэт, да кандыцыі, да малочна-васкавой спеласці не дайшло, а мы яго жнём. Аяё! Без скідкі ніяк нельга!»

А Сцёпкаў бацька галаву ломіць, як павялічыць ураджайнасць! Уласным сынам ахвяруе!

Камбайн адыходзіў усё далей, і самі сабой замаруджваліся крокі. Раз-пораз Сцёпка парываўся ісці хутчэй, але кожны раз непрыкметна пераходзіў зноў на ціхі крок. Здавалася, быў блізкі да таго, каб зусім спыніцца і потым рынуцца наўцёкі або, наадварот, наўздагон.

Нечакана за спінай зафорскаў ноздрамі конь і пачуўся голас вадавоза Валерыка Мішурына:

— Дарогу сланам султана!

Азірнуўся: проста на яго ішоў і, здаецца, не пазнаваў Каштан, на якім ён два тыдні працаваў на бульбе.

— Тпру! — наставіў перад конскай мордай рукі і раптам заўважыў, калі толькі не здалося, як у глыбіні вялізных і сумных вачэй Каштана прамільгнула іскрынка радасці. Конь пацягнуўся да яго мысай, дыхнуў гарачым паветрам.

— Каштан, Каштан,— гладзіў яго кастлявую морду Сцёпка і ціха ўсміхаўся, гледзячы, як ад дотыку рукі ўздрыгвалі прутка вушы. Хацеў нешта сказаць Валерыку, але не паспеў: з брычкі скочыў бацька, якога ён чамусьці не заўважыў:

— Згубіў што?

— Не.

— З Казікам пасварыўся?

— Не.

— А чаму не на месцы?

— Пыл.

— Дзе ты яго бачыш?

— Унё!

— Гэту пудру ты называеш пылам? Садзіся зараз жа на брычку — і марш да камбайна!

— А вы?

— Што я! Я хутчэй дайду, як вы даедзеце.

Засмяяўся і пайшоў — зашамацеў ботамі па ржышчы, быццам сапраўды чакаць, пакуль Сцёпка ўзбярэцца на брычку, Валерык кране лейцамі, а Каштан заварушыцца — значыць, марнаваць дарэмна неверагодна каштоўны час.

Цётка Прузына казала аднойчы Сцёпкавай маці: «Каму невядома, што брыгадзіру хадні багата! Твой Расоха за дзень шаснаццаць разоў («Чаму іменна шаснаццаць?» — здзіўляўся Сцёпка) усё аббяжыць, усюды пабывае».

Казік Шчур пра тое самае казаў іначай: «Трафімавіч сваю справу ведае туга: калі гаспадар сеў, то работнік лёг, калі гаспадар лёг, то работнік заснуў».

Увогуле Сцёпкаў бацька меў рацыю: хлопцы не спяшаліся. Сцёпка, перш чым адысці ад каня, паспрабаваў забіць хоць аднаго авадня, якіх шмат кружыла навокал Каштана, а таму нават не было чым адмахнуцца — абрэзаныя на шыньёны хвост і грыва толькі-толькі пачалі адрастаць. Паправіў набэдрыкі, якія аб'-

ехалі на бок, пайшоў да брычкі. Хацеў спытаць: «Як жыццё?» Але раптам усміхнуўся і спытаў:

— Колькі дзён пражыў?

— Пяць тысяч дзвесце семдзесят адзін! А ты?

— Пяць тысяч дзевяцьсот дзевяноста тры!

Абодва зарагаталі.

Нядаўна, тыдні два таму назад, сышоў быў на Сцёпку даволі дзіўны і рэдкі настрой — ад чалавека тады адыходзіць усё дробнае і часовае, здаецца непатрэбным і варожым, і чалавек застаецца адзін на адзін перад Вечным Бясконцым Сусветам.

Пачаў Сцёпка з таго, што злёгку засумаваў: лета ішло да свайго канца, хутка ў школу, апошні клас... Усё звыклае і, здавалася, такое ўстойлівае ў яго жыцці раптам зрушылася з месца, паплыло, закруцілася віхрам. Адчуванне імклівасці, хуткаплыннасці часу, імгненнасці ўсяго добрага і прыгожага ахапіла яго душу. Уявілася раптам, што вось так і ўсё жыццё пройдзе, як кароткае, бліскучае імгненне, і настане ўсім вядомая і нікім не зразуметая неабходнасць. Стала трывожна і жудасна.

Паспрабаваў ператварыць усё ў жарт. Уявіў сябе нерухомым, халодным, чужым усяму, як валун сярод зжатага поля. Для большай переканаўчасці лёг на лаўку, на якой сядзеў, выпраставаў ногі, усклаў рукі на грудзі, заплюшчыў вочы, затаіў дыханне — і не вытрымаў. Смех разабраў. Мярцвяк, называецца: лаўка для яго вузкая, вочы пад павекамі бегаюць, пра думкі і казаць няма чаго — носяцца ўлукаткі!

Няхай, хто хоча, памірае! Ён будзе жыць, і жыць, і жыць. Жыццё вялікае, быццам поле ў маленстве,— пакуль пяройдзеш, вечнасць праміне. Яму ўсяго шаснаццаць з нечым год, а здаецца, даўным-даўно жыве на свеце. Адзін год — і той — цягнецца-цягнецца... Летам цяжка верыцца ў тое, што была і што будзе зіма, зімой — лета. Цэлых трыста шэсцьдзесят пяць дзён! Гэ-

та калі адзін год, а калі... пяцьдзесят? Ліхаманкава перамножыў і... здранцвеў ад нечаканасці: лічба аказалася ашаламляльна лаканічнай — васемнаццаць тысяч з нечым. Гэта тады, калі ён па-свойску абыходзіўся ў сваім уяўленні з мільёнамі, мільярдамі, більёнамі. А яму здавалася, што сума атрымаецца сама менш шасцізначнай. Мабыць, занадта шмат сэнсу ўкладваў ён у кожны пражыты дзень, што зрабіў такі промах. Не, пяцьдзесят год мала! Шэсцьдзесят! Але і новая лічба здалася не менш мізэрнай. Семдзесят! Дваццаць пяць тысяч пяцьсот пяцьдзесят дзён адпускае лёс на долю чалавека. Усяго!

Як і прадчуваў, сябры ўспрынялі ўсё як выдумку і ператварылі ў гульню — гады пачалі пераводзіць на дні, потым на гадзіны, хвіліны, секунды. У выніку атрымоўваліся касмічныя сумы, якія ўражвалі, смяшылі, супакойвалі. А ў наступныя дні ўрачыста пыталі адзін у другога: «Колькі дзён пражыў?» Сцёпка — таксама. Быццам і жыў, каб хутчэй павялічыць лічбу. Нават незадаволеным прыкідваўся: «Як марудна ідзе час!» Ад нецярпення браўся вылічваць, колькі дзён будзе, калі ён скончыць школу, калі прыйдзе з арміі, калі жэніцца. Далей Сцёпка і лічыць не хацеў, такім усё ўяўлялася аднастайным і нецікавым, быццам жыццё заканчвалася.

Гульня гэта праз некалькі дзён надакучыла, забылася, але рахунак, што называецца, быў адкрыты і падлік дзён адбываўся як бы сам сабою.

— Паехалі? — перастаў смяяцца Валерык.

— Пачакай, я вады нап'юся,— адкрыў бітон Сцёпка: на яго нечакана найшла вялікая смага.

Набраў вады ў кружку, напіўся. Рэшту выліў сабе за каўнер. Закруціўся, быццам яго казыталі. Зачарпнуў яшчэ з паўкружкі і выліў на галаву. Лопаў рукамі па плячах, па спіне, па баках, фыркаў, як конь. Кроплі, што засталіся на дне кружкі, вытрас на спіну Каш-

тана. Скура, куды трапіла вада, уздрыгнулася, а Каштан сам па сваёй ахвоце рушыў з месца. Плюхнулася з бітона вада і абліла ногі Валерыку.

— Тпру! — у адзін голас закрычалі хлопцы.

Закрылі бітон, уселіся. Валерык тлумачыў:

— Дзе ён табе на месцы ўстоіць — столькі заедзі!

— Каштан і сам па сабе вельмі завадны.

— Ага! Яго біць не трэба — досыць дубцом па аглоблі сцёбнуць.

Сцёбнуў — і Каштан адразу прыбавіў ходу.

Пакуль яны гэтак растабарвалі, Казік нажаў бункер, і па яго сігнале пад'ехаў Баркун. Сцёпка нарэшце ўбачыў, хто прымацаваны да іх камбайна вагаўшчыком. З кабіны, згледзеўшы начальства, высунуўся Зносак. «Лёгкі на ўспамін»,— сумна падумаў хлопец. Але ні Баркуна, ні Зноска ім не ўдалося заспець. Распусцілася супоня, і пакуль завязвалі, Баркун пагнаў машыну.

Каштан, як толькі наблізіліся да камбайна, пачаў касавурыцца і стрыгчы вушамі і, як ні стараўся Валерык скіраваць яго бліжэй, вярнуў убок. Сцёпка скочыў з брычкі і ўзяў яго за вуздэчку. Падвёў да самага мосціка. Гладзіў па холцы, па спіне і глядзеў, як Казік заліваў ваду ў радыятар, як потым напіўся сам і як бацька, стоячы на мосціку, прымаў з рук Валерыка вядро з вадой і перадаваў Казіку — быў паслухмяны і стаpанны, быццам таксама памочнік камбайнера.

Валерык Мішурын паехаў, а Сцёпка адразу аціх, стаў рахманы і, мабыць, страшэнна нецікавы. Моўчкі пасунуўся на сваё месца. Зашпіліў на ўсе гузікі рубашку, наставіў каўнер, насунуў на вочы капялюш. Безуважна сачыў за работай механізмаў, азіраў жытнёвае поле і доўга разглядаў якія-небудзь не вартыя ўвагі драбніцы. Раптам убачыў, што на мосціку адбываецца нешта сур'ёзнае: яго бацька трымае ў руках жмут саломы і гаворыць, Казік слухае і, здаецца, згаджаецца,

а можа, апраўдваецца. Ва ўяўленні адразу загучалі галасы:

«Што, Трафімавіч, зерня шмат у коласе застаецца? Нічога не зробіш! Страты непазбежны».

«Трэба нешта рабіць. Інакшай навошта ўсё: клопаты, перажыванні...»

«Я вас, Трафімавіч, разумею: працавалі, стараліся, пакутавалі, а тут... такое».

«Няўжо нічога нельга прыдумаць?»

«Яно-то можна... Напрыклад, зернявыя дэкі адрэгуляваць, зазоры зменшыць. Але гэта палка з двума канцамі: работа пойдзе марудней. Значыць, зноў страты».

«Будзем разважаць так: у каласку застаецца, у сярэднім, па тры зярняці. На адзін квадратны метр прыпадае, прыкладна, пяцьсот каласкоў, а на адзін га — пяцьсот тысяч. Паўтара мільёна зярнят застаецца ў саломе. Два цэнтнеры збожжа, калі не больш».

«Асыплецца мо дзесяць цэнтнераў!»

«Думаеш?»

«Мо і менш, хто яго ведае! Быў бы Казлякоўскі, той бы хутка вылічыў на сваім «Феліксе»: «Нам-нам-нам-нам! Вам-вам! Нам-нам-нам-нам! Вам-вам!» Глядзіце, Трафімавіч, самі».

«Я думаю так: колькі асыпаецца, мы не ведаем, а колькі ў коласе застаецца, падлічылі. Значыць, трэба зрабіць нешта, каб зерне вымалочвалася чысцей».

Казік спыніў камбайн, выключыў малатарню, пайшоў падкручваць нейкія аднаму яму вядомага прызначэння балты, падцягваць ланцугі, спрабаваць, наколькі свабодна круціцца барабан. Сцёпка, поўны ўвагі і жадання памагчы, стаяў побач, і падаваў ключы.

— Разумееш, Сцёпа, у каласку зерне застаецца. Вінаваты, вядома, я. Але што я зраблю? Зменшу зазор паміж барабанам і дэкай. Усё проста. Але важны вынік. А вынік: зерне будзе вымалочвацца як мае быць, затое малатарня менш прапусціць саломы. Значыць,

будзем совацца па полі, як сонныя. А ты — кажаш — тэхніка! Тэхніка — адно, а кадры — другое. Паслаў бы твой бацька сюды не цябе, а каго іншага. Слабейшага духам. Але, але! Што было б?! Ён бы пасля першага круга задаў лататы. Па сакрэту скажу: думаў, збяжыш. Зусім выпусціў з памяці: ты ж на вёсцы самы галоўны атаман. Яно праўда — хадзіць гэтулькі год у начальстве ды быць дурным!

З мосціка ўжо гукнуў, каб Сцёпка бег да яго:

— Акуляры вазьмі!

— О-о, матацыклісцкія! У мяне дома такія самыя.

— Вось і добра! Паходзіш сёння ў маіх, а заўтра свае возьмеш.

Сцёпкаў бацька глядзеў на абодвух і ціха ўсміхаўся. Пасля таго як камбайн прайшоў колькі метраў, пайшаў да капніцеля праверыць вымалат. Казік павярнуўся і паглядзеў яму ўслед, але адказ, мабыць, быў станоўчы, бо супакоіўся і працягваў кіраваць машынай. Сцёпка — цяпер праз акуляры — бачыў, што яго бацька пайшоў праз поле ў бок дарогі. Хаця шкельцы ў акулярах былі простымі, свет усё ж бачыўся праз іх іншым. Ён быццам аддзяліўся, аддаліўся ад Сцёпкі, і нават пыльная завіруха ад малатарні ўспрымалася як нешта староннее, падобна дажджу за акном. Сцёпка быццам фатаграфаваў: позірк — і ў кадры Казік Шчур на мосціку, адчуў, што на яго глядзяць, павярнуў галаву і ўсміхнуўся. Позірк — і ў кадры дзельнік. На яго напаўзае калоссе, але з другога, знешняга, боку жняяркі, і адразу саслізгвае. Позірк — і ў кадры калышацца жытнёвае мора, за яго высокімі хвалямі-перакатамі відаць далёкія цёмныя кусты, а над усім гэтым — бязмежны купал блакітнага неба.

На самым павароце камбайн спыніўся: бункер быў поўны, а Баркуна — ні слуху ні духу. Казік яшчэ нейкі час спрабаваў раўняць зерне ў бункеры, рассоўваў яго па кутках і праехаў колькі метраў. Потым забраў-

ся на малатарню, паўглядаўся ўдалячынь і выключыў матор:

— Абед, Сцёпа!

## IV

Не паспеў Сцёпка атабарыцца ў аблюбаванай непадалёку ад камбайна копцы, як пачуўся густы бас «зілаўскага» матора і сіпенне паветранага тормаза. Казік таксама заўважыў грузавік, завёў матор і хацеў уключаць элеватар, але яго спыніў Баркун — выскачыў на хаду на падножку і закрычаў:

— Стой! Стой!

Падагнаў машыну, заглушыў матор, выбраўся з кабіны. Буркнуў:

— Што мы, не людзі?! Абед!

Казік раптам лёгка згадзіўся:

— Абед дык абед.

Растрос капу, пад якой сядзеў Сцёпка, разаслаў газету, пачаў даставаць з абшарпанага чырвонага чамаданчыка правізію: хлеб, яйкі, агуркі, соль, бутэльку малака.

— Закуска е!

— Гарэлка будзе! — запэўніў Баркун. Заўважыў Сцёпку, які не ведаў, што рабіць: сядзець — значыць, напрошвацца на абед, адысці — таксама нязручна.

— А ты — што?

— Гэта — Сцёпа! Мая правая рука.

— Аваднёў ад камбайна адганяе? А, успомніў: на жняярцы сядзіць! Ты, хлапец, што — не абедаеш?

— Не.

— Святым духам жывеш?

— Ага.

— Нажывеш на сваю галаву. Хаця я ў тваіх гадах такі самы быў.

— Які — такі?

— Ідэйны.

— У-у!

— Вось табе і «у-у»! Думаў, як і ты, скончу школу, стану... адным словам, героем. На што-небудзь меншае не згаджаўся. Жаніўся — і ўсё геройства пабаку. Зараз мой прынцып: еш — пацей, работай — зябні, на хаду паціху спі.

— Што ты прыстаў да хлопца? — заступіўся Казік.

А Сцёпка глядзеў на Баркуна, як на нейкае вялікае дзіва. Так, перад ім быў даўні знаёмы, валасаты, як вусень, змрочны, нягледзячы на тое, што бялявы, нелюдзімы адзінюк хутаранін. Але і ў яго, выяўляецца, было дзяцінства. Сцёпка разгубіўся.

— Цябе, хлапец, што — без абеду пакінулі? Ты — чый? Чакай, сам успомню! Брыгадзіраў? Точна! Тады проша пана сядаць!

— Сядай, Сцёпа!

— Пайду пагляджу, чаго гэта Зносак у кабіне засеў. Накладныя выпісвае, ці што, на яшчэ не зжатае жыта?

Сцёпка прысеў з краю, азірнуў «абед» і адчуў, што ў жываце салаўі спяваюць. Хутка з'явіліся Зносак і Баркун. Апошні радасна («Чаго ён такі — на ўзводзе?» — здзіўляўся Сцёпка) гаварыў:

— Кажу, ідзём, а ён упіраецца. Адна рама ў чалавека, а абедаць не хоча. Мо грэбуеш нашай кампаніяй?

Казік стрымана маўчаў, Сцёпку наогул не варта было прымаць у разлік, і Зносак вырашыў заступіцца за сябе сам:

— Есці я — ага! Абы было што!

— І выпіць таксама не дурань! — выткнуўся наперад з паўлітрай самагонкі яго спадарожнік. Паклаў на газету хлеб, абшчыпаны з усіх бакоў, і кавалак аблепленага ў паперу сала.

— Калі ставяць, чаму не выпіць.

— Пагода такая, што пазыч, але выпі,— памякчэў Казік.

Баркун тым часам разліваў гарэлку. Сцёпка ўпершыню бачыў яго такім увішным і раней часу замаркоціўся — зразумеў, што адмовіцца, калі прапануюць выпіць, не ўдасца.

— У бутэльцы, калі хто не ведае,— найшла на Баркуна гаварлівасць,— пятнаццаць «буль». Табе, Казік, колькі «буль» зрабіць? Тры досыць! Акурат па берагі. А табе? Таксама. І ты, хлапец, выпі. Не п'еш? Пара прывучвацца. Цяпер не п'е толькі хворы. Па «марусьчын паясок» даволі будзе. Пускай, Казік, па сонцу! Давай, вагаўшчык, мо спрытней важыць будзеш! І ты, хлапец, куляй! І я — лыкну шклянку.

Сцёпка, які толькі што глядзець не мог без агіды на шклянку з мутнай вадкасцю і выразнымі, як на фотаздымку, слядамі пальцаў на шкле, раптам адважна выліў гарэлку ў рот, патрымаў момант і глытнуў. Не разбіраючы, ухапіў палоску жоўтага з краю сала, піхнуў у рот і стаў жаваць, кусаючы шмат хлеба. Успомніў, што на твары яго ўсё яшчэ заставалася грымаса грэблівасці, з якой прымерваўся да шклянкі, і намаганнем волі зняў яе. Раптам адчуў сябе не вельмі складаным «механізмам»: загадаў сабе стаць спакойным і стаў, зараз загадае развесяліцца — і сапраўды развесяліцца. Раскрыў ужо нават рот, каб умяшацца ў гаворку, сказаць што-небудзь наіўна-вясёлае, але ўспомніў, хто побач, і ўстрымаўся.

У жываце стала цёпла, хмель ударыў у галаву, і «механізм» разладзіўся: рухі сталі недакладнымі, язык — непаваротлівым, рукі і ногі — цяжкімі. Ён супрацiўляўся: скрыгатаў зубамі, уціскаў пазногці ў руку, цёр пальцамі скроні, стараўся глянуць навокал цвярозымі вачамі. Але навакольныя прадметы страчвалі сваю нерухомасць і выразнасць, хісталіся і раз'язджаліся на састаўныя часткі. Сцёпка зусім забыўся

на агурок, які сунуў яму ў руку Баркун, і грыз, і грыз, і грыз скарынку, адчуваючы, як пах хлеба забівае смярдзючы дух самагонкі. Ён ясна чуў аднекуль здалёку галасы — размова ішла пра яго:

— Разабрала хлапца. Практыкі не мае.

— Усё проста: выгаладаўся, аслаб — як-ніяк работа, спёка...

— Не закусваў. Храбрыўся, што-то я!

На момант апрытомнеў — зірнуў навокал цвярозымі вачамі. Заўважыў проста так, на ўсякі выпадак, паставу кожнага: Казік Шчур сядзіць, апіраючыся рукамі на калені, у адной руцэ трымае агурок, у другой — скрылік сала, глядзіць на Баркуна, які стаў наўколенцы, каб быць вольным у рухах — усё-ткі арганізатар стала, слухае яго гаварню і заліваецца раз-пораз смехам, хаця смяяцца няма над чым, задаволены Баркун яшчэ больш стараецца; Зносак ляжыць на баку, выцягнуўшы доўгія ногі, паварочвае ўсё галаву, пазіраючы насцярожана на абодвух, нервова сцёбае дубчыкам па халявах хромавых ботаў і час ад часу любоўна папраўляе афіцэрскую фуражку каля сябе.

Баркун тым часам дзейнічаў:

— Па румачцы, па маленькай, чым пояць лашадзей! Казік, што ты за чалавек! Усё табе смешна. Я кажу, нашто шклянку рукою закрываеш? Работа — не воўк. Ты піць не пі, але наліць дай і з намі чокніся. О, о так! От не люблю, калі хто выпендрываецца! Ну, як сабе хочаш. Давай, вагаўшчык! О ў каго трэба вучыцца! Яму хоць слоік нацурболь — не адмовіцца.

— Такая сабачая пасада! Навучыўся! — зарагатаў Казік.

Зносак зірнуў на яго няўцямна, але прамаўчаў: нешта перашкаджала яму ісці на абвастрэнне. Сцёпка палічыў — боязь. Колькі ён ведае, Зноску, як ні пяўся той, ні разу не ўдалося ўзяць верх над Шчурам, наадварот, Шчур заўсёды выводзіў яго на чыстую ваду.

Днямі было. Разгаварыліся мужчыны пра каларадскага жука, што неймаверна распладзіўся за апошні час. Меркавалі так і гэтак. Маўляў, год высакосны, бульбу на тым самым, што летась, полі пасадзілі, мінеральныя ўгнаенні на карысць лічынцы пайшлі... Казік жа Шчур глыбакадумна заўважыў:

— Лухта ўсё гэта: год, поле, угнаенне. Тут, хлопцы, трэба з другога боку зірнуць. Усё проста: ворагі ў нас е? Е! Палкі ў кола ставяць? Ставяць! Каларадскі жук — іх работа!

Дзіўна, але ўсе раптам забылі, з кім маюць справу, і новую версію прынялі ўсур'ёз. Больш таго, самога Казіка давялі да крыку:

— А я кажу: шкодніцтва!

Акурат Зносак наскочыў. Вушы, як ганчак, наставіў: лічыў сябе вялікім спецыялістам па частцы варожых падкопаў. Спытаў ціха ў суседа:

— Ён — пра што?

Той ледзь стрымаўся, каб не ўсміхнуцца:

— Кажа, што каларадскага жука турысты завезлі.

Зносак імгненна апынуўся наперадзе:

— А мо не?

— Што — мо не? — насцярожыўся Казік, і мужчыны змоўклі.

— Турысты — больш няма каму!

— Якія турысты?

— Якія, якія! Што каларадскую заразу прывезлі!

— А-а,— здагадаўся Казік і павесялеў. Мужчыны насцярожана чакалі, што будзе далей. А Казік паддаў жару: — Можа, нават з самалёта закінулі.

— А што ты думаеш!

— Або з лятаючымі талеркамі,— дадаў Казік і зарагатаў, а за ім — астатнія.

Сцёпка раптам падхапіўся на ногі, пахіснуўся («Заседзеўся — ногі здранцвелі!»), памкнуўся ісці, але Баркун не пусціў проста за здорава жывеш:

— Ты, хлапец, будзь побліз! Дзела ё!

Дзіўна, але ён — усё-ткі атаман! — згодна, без знаку гневу або агіды, матнуў галавой. На тое каб раскрыць рот, не меў ні сілы, ні жадання. Пабрыў, не разбіраючы дарогі, да бліжэйшай капы, намерыўся быў заваліцца ў яе, але заўважыў другую, якая здалася большай і мякчэйшай. Падхапіў шапку з галавы, разагнаўся і скочыў на верх капы, скаціўся і памчаў да наступнай. Яшчэ да адной і яшчэ.

Хмель, здаецца, пачаў праходзіць. Азірнуўся на мужчын: яны былі заняты сур'ёзнай размовай — Баркун падсунуўся блізка да Казіка, і Зносак ужо не ляжаў, а сядзеў. Гаварыў Казік. Сцёпка паспрабаваў уявіць, пра што ён гаварыў, але фантазія працавала слаба. Раптам на вочы трапіўся жэст, які Казік паўтарыў,— узняў руку з саломінкай у ёй і пачаў маляваць кругі ў паветры. Адразу ў вушах загучаў яго звонкі голас:

«Трактар — што? Усё проста: чатыры колы і матор! Я от думаю... Сцёпка падказаў...»

«Які Сцёпка? Гэты?!»

«Але, але! Не думайце, што ён такі спакойны. Галава ў яго варыць. Кажа: «Дзядзька Казік, я чытаў: матацыклетны матор можна пад верталёт прыстасаваць. От бы зрабіць! Лётаў бы, куды хацеў. Як у сне». Спярша падумаў: фантазія! Аж бачу: не дае яна мне спакою! Перад вачамі жыта калышацца, а я на самалёты зазіраюся. Ты нешта пра шклянку пляцеш, а я пра верталёт думаю і сам сваім думкам пасміхаюся. Не, разважаю, не я буду, калі не зраблю. Іначай — сорамганьба! Перад Сцёпкам... і наогул. Выйдуць з яго людзі! Быць не можа!»

«Хто яго, чорта бацьку, ведае!»

«Гэта яшчэ віламі па вадзе пісана!»

«Выйдуць, выйдуць! Хлопец не тое што некаторыя...»

Схамянуўся: ад імя Казіка Шчура загаварыў пра самога сябе — хваліць пачаў... будучыню... Баркун і Зносак маюць рацыю: яшчэ нічога невядома. Прынамсі, мяркуючы па яго паводзінах, цяжка сказаць штонебудзь пэўнае.

Як пра нешта незвычайна далёкае, недасягальнае, прамільгнуў успамін пра яе, чыё імя ён нават у думках баяўся называць.

Паспяшыў вярнуцца да прамовы Казіка Шчура. Наўрад ці будзе ён «выступаць» перад Баркуном, тым больш раскрываць душу. Хутчэй за ўсё, Баркун выкарыстаў зручны момант — сказаў, якая такая ў яго справа, а Казік дзеля прыліку ўпарціўся, размахваў рукамі...

Зараз яны ўтрох сустрэнуць яго і скажуць:

— Выбірай!

Сцёпка сарваўся з месца і кінуўся бегчы. Выскачыў проста да дзічкі. Сеў у траву і застагнаў. Успомніў бацькавы словы: «Не хочаш прагуляцца з кійком на поле?» Прагуляўся ўжо! Збіў аскому! Можна каго іншага пасылаць — Міколку, ката Ваську... Апрытомнеў: «З глузду з'ехаў, ці што? Не трэба было піць... На бацьку нечага напаў. Што, ён вінаваты, што работы па горла, а рабіць няма каму?»

Перад вачамі стаяў бацька, змораны, разгублены, у нязграбным пінжачку, з вечнай папяросай у зубах. Казік жартаваў: «На вёсцы е толькі два курцы: Расоха і стары Гарулькевіч — курыць, аж дым з вачэй ідзе!»

Маці казала: «Іншы раз здасца: выйшаў чалавек з дому вясной, а вярнуўся восенню». Сам бацька толькі пасмейваўся ў адказ: «Табе ж выгадна: на адной ядзе колькі эканоміі!»

Ворыва, касьба, жніво — што?! З усіх бакоў цярэбяць. Вагон з угнаеннем нечакана прыбыў — брыгадзір, давай грузчыкаў; камісія, з раёна пазванілі, пры-

язджае — брыгадзір, шукай чалавека штакет паўз вуліцу бяліць; месяц канчаецца — гані справаздачу... Давай, давай, давай! Нехаця хітрым станеш — ад камісій у поле збяжыш. Яго выклікаюць у Глуск, а ён едзе ў Глушу, да сястры ў госці. Жартуе: «Неразборліва напісана». Каля жыта ідзе — здаецца, глухне ад шолаху калосся: перад вачамі зерне з элеватара свішча. Як дзіця, радуецца грукату малатарні: заглушае шум пераспелай збажыны, што асыпаецца на дол. Уздрыгвае, як ад удару, ад нечаканага штуршка, ад таго, што пачуе нейкія перабоі ў маторы або рэзкі гук з нутра малатарні. На языку адразу: «Аварыя?» Каля камбайнера ён цішэй вады, ніжэй травы. Думкі яго — шэрыя да аднастайнасці: «Хмара? А жыта! Ноч? А жыта! Камбайн? А жыта! Жыта, жыта, жыта...»

Можа, таму ён часам бывае нервовы і празмерна рэзкі, проста несправядлівы ў ацэнках: «Што — моладзь? Школу скончыў — ён на палявыя пойдзе? Калі не паступіць, на завод не ўладкуецца — у механізатары падасца. Ахапак сена пагрузіць — дваццаць хвілін будзе ворсацца, але ўхопіць-такі пад'ёмнікам. Усё трымаецца на старых, а іх на брыгаду — па пальцах адной рукі пералічыш. Затое робяць — можна не правяраць. А маладыя — за жалязякамі нічога не бачаць. Для іх няма нявырашаных праблем. Хлеб? У магазіне — чатырнаццаць капеек буханка. Дах над галавой? У горадзе бясплатна даюць. Адно што чарга. Машына, матацыкл — слова скажы толькі: кіне ўсё і пабяжыць глядзець...»

Зрэшты, што Сцёпка ведае пра свайго бацьку? Тое, што ён да вайны ў Якуціі золата шукаў, а ў 1943 годзе на Верхнім Данцы з акружэння вырываўся. Не Сцёпку, а яго бацьку будзілі сярод ночы: «Трафімавіч, з раёна прыехалі! Клічуць!» Не ў Сцёпкі прасіліся: «Трафімавіч, закіньце слова за мяне перад вышэйшым начальствам, можа, мне, старой, палёгку дадуць — ад

гэтых кармавых буракоў аслабаняць». Не Сцёпку і бурчаць на свой цяжкі лёс!

Ён падняўся з зямлі, збіў кіем з верхавіны некалькі груш, быццам па іх і хадзіў, пабрыў да камбайна.



Баркун сустрэў падазроным зіркам:

— Уцячы хацеў?

— Ага.

— Я жартую. Слухай сюды! Дзела плёвае! Упрасіў мяне адзін чалавек з Сімонавічаў дастаць мех жыта. Ад цябе што патрабуецца? Каб ты пра ўсё гэта — ні гу-гу. Ясна?

Ва ўяўленні Сцёпкі гэта размова выглядала іначай:

«Маю гарэлку піў?»

«Піў».

«Маё сала еў?»

«Еў».

«Папаўся, субчык!»

Казік Шчур уключыў элеватар, і Сцёпка, каб адчапіцца ад Баркуна і адысці ад змрочных думак, палез у кузаў. Развешаў па кутках мяхі, закрываючы шчыліны паміж бартамі, адкінуў уніз жалезны латок элеватараў. Шухнуў порсткі струмень жыта, стукнуўся аб дно кузава і рассыпаўся, быццам сонечны зайчык. Імкліва расла гурба. Асобныя зярняткі рыкашэцілі ад дошак, паколвалі скуру на нагах і порскалі ў падстаўленую далонь. Сцёпка як стаяў, так і абрынуўся на варухлівую гурбу зерня, якая пад ім распаўзалася, рассыпалася ва ўсе бакі. Па папяровай шапцы, плячах, руках сек калючы і прыемны дождж. Прысыпаў мяхі па кутках і пачаў плаваць, рассоўваючы зерне па кузаве. Падстаўляў далоні пад струмень і падносіў збожжа да вачэй. Чаго-чаго там ні было: нейкія зялёныя казюлі, якія пстрыкалі ва ўсе бакі, марудлівыя божыя кароўкі,

нават конікі павольна выцягвалі тонкія ногі з сыпучай масы, зерне пустазелля, падобнае на аўсянае, травінкі, асцюкі, галоўкі кветак. Усякія казяўкі поўзалі па адзежы, па голых руках, лезлі за каршэнь, казыталі ўспацелую скуру. Мабыць, мае рацыю Другачонак, падумаў Сцёпка, робячы скідку на божых каровак.

Зерне засыпала кузаў, грузлі ногі, і кідацца з кута ў кут, разграбаць, раўняць станавілася ўсё цяжэй. А элеватар усё ляскаў і ляскаў і выкідваў коўш за коўшом. Сцёпка ўжо ледзь спраўляўся з наплывам варухлівай масы, ледзь паспяваў перапыняць нечаканыя струменьчыкі, што беглі да бартоў. Заўважыў, як, стоячы на коле, памагаў яму Баркун,— быццам хворы, перасыпаў жыта злева направа і справа налева. Струмень нарэшце аслаб, а неўзабаве зусім знік. Сцёпка закінуў латок на верх трубы. Выцягнуў падол рубашкі з штаноў, вывернуў закасаныя рукавы, за якія набралася зерне. Абтрос з сябе казявак. Зняў вятроўкі, пастукаў імі аб борт, надзеў і выскачыў з кузава.

Баркун перахапіў яго.

— Давай, хлапец, наверх! — Сцёпка не адразу здагадаўся, пра што ён.— Глядзі!

Бяссільная злосць і раздражненне, хутчэй на сябе самога, чым на Баркуна, ахапілі Сцёпку. Нешта трэба было рабіць — не згаджацца, пратэставаць. Раптам заўважыў, што Баркун трымае ў руках тры мяшкі, калі не ўсе чатыры:

— Дзядзька, а вы ж казалі — адзін!

— Правільна, казаў. А чые гэта, цікава? Вагаўшчык, твае?

— Чаго ты?

— Сам бачыш, дзе адзін, там і два, а дзе два, там і тры! На адзін больш, на адзін менш — хіба гэта важна? Ну, давай!

«Што — давай?!» — хацеў запярэчыць Сцёпка і выказаць адным духам усё, што накіпела на душы, але

Баркун павярнуўся да яго спіной, і гэта збіла хлопца з панталыку — ён пабаяўся патраціць запал дарэмна. Адчуваў, як у грудзях нешта адбывалася — быццам дзве сілы змагаліся: адна штурхала ісці наўздагон Баркуну, другая цягнула да камбайна. Другая перамагла: Сцёпка сышоў з месца, забраўся на верх бункера. Нікога навокал не было відаць, і ён спакойна сеў, звесіўшы ногі і пазіраючы ўніз на валтузню заклапочаных мужчын. Падмывала жаданне паздзекавацца — гукнуць, што нехта паказаўся на даляглядзе, але адразу ахоплівала абыякавасць: «Няхай што хочуць робяць!» Агледзеўся навокал і забыў на кароткі час пра ўсё нядобрае і прыкрае. Далёка на ўсе чатыры бакі праглядваліся палі і сенажаці, пералескі і вёскі. Неба здавалася вялізным і высокім. У душы ўзнікла нешта новае, падобнае да адчування, якое ён перажываў у сне, калі лётаў. Спускацца ўніз не хацелася.

Аперацыя, здаецца, завяршалася. Баркун прыпаручыў напаследак Зноску закрыць мяхі саломай, і той заклапочана стараўся. Замаскіраваў і адбегся, каб агледзець капу здалёку. Ухваліў:

— Сам чорт не знойдзе!

Баркун тым часам завязваў шнурок чаравіка, стоячы, як бусел, на адной назе. Завязаў, тупнуў нагой і нечакана сказаў:

— Па адной дошчачцы яшчэ магу прайсці!

Зносак зразумеў яго:

— У сталовую заскочым: кажуць, піва бочкавае прывезлі.

— У-у, зладзюгі! — не вытрымаў, прашаптаў Сцёпка. Раздражненне самім сабой ахапіла яго з новай сілай. Заўсёды няўрымслівая яго фантазія цяпер адмаўлялася служыць яму і, замест таго каб падказаць нейкі выхад, падсоўвала прымітыўныя ідэйкі: «Паедуць — перацягні мяшкі пад другую капу. От будзе! Павязуць — развяжы па дарозе і высып зерне ў кузаў, а пу-

стыя мяшкі перадай у кабіну. І нічога яны табе не зробяць! Нарэшце — шапні бацьку пра ўсё гэта!»

Баркун і Зносак ад'ехалі далей, каб чакаць, калі напоўніцца другі бункер. Сцёпка раптам падумаў, што зусім забыў пра Казіка Шчура, дзе ён і што з ім. Аказалася, спаў пад камбайнам.

— Гарэлка дзейнічае як на каго: адным карціць сілай памерацца, другім хочацца спяваць, трэцім рупіць вывернуць душу... Мяне адразу на сон хіліць.

Чаго можна чакаць ад чалавека, які ў такі час спакойна дрыхнуў, падумаў Сцёпка. Павярнуўся ісці на сваё месца, але Казік спыніў; у яго наступала другая стадыя ап'янення — развязваўся язык:

— Пачакай! Даб'ём мы гэты клінок, нікуды ён ад нас не дзенецца! Адпачывай! — пазяхнуў, пацягнуўся.— У руках ламота — выпіць ахвота. Эйч, прайдзісветы, упаілі мяне, а самі паўбункера агрэблі! А ты што такі сур'ёзны? Ёсць з-за чаго перажываць! Мы не пабяднеем, а яны не разбагацеюць. У рэшце рэшт, не ўсё яшчэ скончана. Ну, вось ты і павесялеў!

Сцёпка зірнуў, не разумеючы, на свайго начальніка: «Хто павесялеў? Чаго?» Пабрыў моўчкі на сваё месца.

Неўзабаве, аднак, усё пайшло на добры лад. Да камбайна прымчаўся бензавоз, на якім працаваў першы Казікаў сябар і самы смешны, на думку Сцёпкі і яго аднакашнікаў, чалавек на вёсцы — Іван Буйнавіцкі. Разам з ім на поле прыехаў і Сцёпкаў бацька — прывёз абед.

— Прагаладаўся?

— Я ўжо абедаў.

— Калі гэта ты паспеў?

— Дзядзька Казік пачаставаў.

— Ёсць што ўспамінаць! Не есць ваш Сцёпа нічога. Галадоўку аб'явіў!

— Значыць, робіць слаба, раз слаба есць! — ска-

заў Буйнавіцкі і кінуў на Сцёпку востры позірк блакітных і, здавалася хлопцу, вельмі хітрых вачэй.— Даўней гаспадар, перш чым работніка наймаць, глядзеў, як ён есць.

Сцёпка тым часам разблытаў вузел:

— Частуйцеся!

— Нам каб што іншае! — падміргнуў Буйнавіцкі Казіку, але яблык узяў. Узяў і Казік.

Бацька адмовіўся:

— Еш!

— А чаго ты, Сцёпка, такі чорны? — прыжмурыў Буйнавіцкі вочы.

— На сонцы пачарнеў,— сказаў Казік.

— Мабыць, не мыешся? Нічога страшнага: мядзведзь таксама два разы на год мыецца.

Сцёпка набіў поўны рот ежай і толькі вінавата ўсміхаўся.

— Рубашка, штаны — што футра... Сапраўдны мядзведзь!

Дапякло.

— Гэта асцюкі і ваўчкі.

— А я, грэшны, падумаў: наўмысна хлопец урабіўся ў мазуту, каб выглядаць гэтакім сталым механізатарам, накшталт Казіка або мяне.

— А чым не механізатар? Скажы, Сцёпа, га?

— Не слухай яго, Сцёпка! Ён табе ўсю біяграфію сапсуе. Механізатара знайшоў! Чалавек мо вялікім начальнікам будзе. Куды вы, Трафімавіч, яго мяркуеце скіраваць?

— Сам няхай думае. Школу ж, можа, канчае!

— Маўчыць. Мабыць, нешта сур'ёзнае задумаў. Ну, Сцёпка, паедзеш у горад — не забудзь махорку з вусоў атрэсці: там «Беламоры» будзеш раскурваць.

— Я не куру.

Буйнавіцкі відавочна страчваў цікавасць да размовы: пазіраў на Казіка, які залівае гаручае ў бакі і бі-

тон, прывязаны на версе малатарні. Пайшоў памагаць. Вярнуўся зноў энергічны і вясёлы: — Не мулка на раме сядзець? Слухай, Казік, не работа — хлопцу гэтак ліпець!

— Я ўжо думаў. Заўтра сядзенне прывару.

— Чаму заўтра? Я ж мо не толькі гаручае развожу, я яшчэ — «тэхдапамога»! Зварачны апарат вунь стаіць. А ты думаў!

— А сядзенне?

— Сядзенне — не праблема: каля кузні на кожным кроку валяюцца. Я спачатку вам гісторыю адну раскажу, а потым злётаю па сядзенне. Слухайце, Трафімавіч, пра гэты самы газазварачны апарат. Машына ў мяне, самі бачыце, ніякі ЗІЛ не дакажа. Як трэба, я на ёй магу хату перавезці. Зімой за два рэйсы ўвесь двор заваліў дрыўмі. Ага, прыязджае з абласной газеты карэспандэнт. Што яму які-небудзь каларадскі жук! Яму сенсацыю падавай — пачын, працоўны подзвіг, іначай і гаварыць не хоча. Гэта на вёсцы! Навялі яго на мой бензавоз... Яшчэ лыбіцца, прайдоха! Твая, Казік, работа?

— А што?

— Ды нічога. Значыць, заяўляецца той карэспандэнт. Спрытны, вёрткі. За сорак чалавеку, а ён усё юнака з сябе строіць. Смех у яго нейкі, не да месца: «Хі-хі-хі!» А вочы халодныя. Адразу міма мяне — да апарата: «Газазварачны?» — «Не,— кажу,— самагонны». Глянуў востра, але стрымаўся. Запісвае: «Бензавоз — «тэхдапамога». Шафёр-універсал. Авалодаў прафесіяй газазваршчыка ў вольны ад работы час». Паказвае: «Так?» — «Так». Знік. Я азірнуцца не паспеў. Думаў, мо схаваўся дзе пабліз — такі спрытнячок!

— Адпомсціць ён табе за самагонны апарат.

— Як?

— Напіша артыкул ад твайго імя. А ты ж ведаеш, які ў нас народ дападкі: за смехам з мехам ганяецца.

— А ганарар прышлюць?

— Чаму не! — сказаў Трафімавіч: атрымаў ужо аднойчы тры рублі і тры капейкі.

— Тады парадак. Чатыры рублі дванаццаць капеек мне хопіць.

Буйнавіцкі памчаў на вёску, Казік палез заводзіць матор, а Сцёпка, застаўшыся адзін на адзін з бацькам, сказаў:

— Нейкія яны падобныя.

— Усе добрыя людзі падобныя. Таксама, як і злыя. Дзіва што не падобныя! Яны нават на цаліну некалі разам ездзілі. Казік Шчур тады палаяўся з механікам. Давялося заяву аб звальненні па ўласным жаданні падаваць. Згаварыліся ўпотай ад жонак і завербаваліся. Праз месяц заявіліся — з галодным бляскам у вачах, у пінжачках з чужога пляча, але вясёлыя. Па вёсцы пранеслася навіна: «Цаліннікі прыехалі!» Хадзілі ўсюды разам як спрэжаныя. Пацяшалі ўсіх выдумкамі пра свае прыгоды: як тапталіся ў Саратаве — да цаліны так і не дабраліся — на галоўнай вуліцы перад вітрынай гастранома — хацелі шыбануць каменем, каб пасадзілі на пару тыдняў у турму за хуліганства, бо надта згаладаліся і колькі начэй не спалі, а ў турме, як-ніяк, кормяць і спаць ёсць дзе, але не пабілі — не было сілы сагнуцца і падняць той камень; як прадавалі на «барахолцы» пінжакі і чаравікі і ледзь не сталі сваімі людзьмі сярод жулікаў; як Казік хацеў прыстаць у прымы да адной удавы, але паставіў непрымальную ўмову — усынавіць Буйнавіцкага... Апошняе расказвалі пры Казікавай жонцы.

— Слухайце вы іх! Чорных, вашывых, без капейкі ў кішэні — нехта дурны іх у прымы возьме!

Сядзенне з-пад коннай грабалкі, якое неўзабаве прывёз Буйнавіцкі, прыварылі да жняяркі, а зверху прыкруцілі да рамы дротам. Але нядоўга Сцёпка раскашаваўся на ім. На падмогу Шчуру хутка прыкаціў

на сваім камбайне Гарулькевіч, які скончыў жаць каля Палянскага саду. Адразу заўважыў Казікава новаўвядзенне. Аляксей Трафімавіч абрадаваўся выпадку хоць чым памагчы камбайнерам і сказаў:

— Будзе вам, Гарулькевіч, памочнік!

У хуткім часе Валерык Мішурын прымчаў на поле Косціка Лапатуна. Таго захапілі проста на рэчцы: яшчэ не паспелі высахнуць валасы і было мокрае крэсла штаноў. Пануры і маўклівы, ён быў не падобны на сябе самога, звычайна мітуслівага і гаваркога, сапраўднага лапатуна.

— Ну, гэты доўга не набудзе! — упэўнена сказаў Казік, праводзячы хлопца позіркам.

Паўкруга не прайшлі, як убачылі: наўздагон спяшае, размахвае рукамі Сцёпкаў бацька, воддаль ад яго цiснецца да коп Лапатун.

— Сцяпан, памяняйцеся месцамі! — загадаў бацька.

Гэта была відавочная несправядлівасць.

— Не буду мяняцца!

— Ну, і ідзі дамоў!

Пайшоў.

— Сцё-опа! — гукнуў Казік, і ў яго голасе пачуўся дакор: апомніся, я цябе не пазнаю, няўжо ты той самы грозны атаман, якога баяцца ўсе сабакі ў вёсцы?!

Сцёпка, быццам ад самага пачатку не ўцякаў, а проста заходзіў на пасадку, апісаў круг у напрамку камбайна Гарулькевіча. Ён зноў сядзеў на скрынцы. Свае абавязкі выконваў без асаблівай ахвоты і жадаў толькі аднаго, каб ніхто не ўмешваўся ў яго горкі роздум аб тым, «што то дзеецца на свеце». Рашыў, што Лапатун, які ён ні ёсць абармот, меў рацыю, калі збег: Гарулькевіч, не тое што Казік Шчур, не абцяжарваў сябе лішнім клопатам аб тым, каб чыста ўбраць ураджай,— трымаў жняярку праз увесь час высока, так што Сцёпка раз-пораз аб'язджаў з нахіленай скрынкі,— і кіра-

ваўся прынцыпам: болей газу — меней ямаў, што спачатку весяліла, потым пачало раздражняць. Паступова нават афарбоўка Гарулькевічавага камбайна, якая мала чым адрознівалася ад афарбоўкі машыны Казіка Шчура, здалася непрыемна бляклай і нейкай невыразнай.

Лёс, аднак, злітаваўся над бедным хлопцам. Яго паклікалі і папрасілі Казік Шчур і бацька «падскочыць у кузню», сказаць кавалю, каб вытачыў болт.

— Бачыш, Сцёпа,— гаварыў Казік, быццам парады чакаў,— лапа целяпаецца пад жняяркай, на адным балту ліпіць...

Сцёпка слухаў, быццам сапраўды збіраўся даваць параду, і міжволі ўсміхаўся: заўважыў, як адразу затужыў, панік галавой, адышоў убок Лапатун. Раптам востра адчуў, наколькі важна для яго ехаць у вёску не ў кабіне, побач з Баркуном і Зноскам, а ў кузаве. Мала спадзеючыся на Баркунова запрашэнне, усё ж паспяшыў забрацца ў кузаў і сесці, упёршыся нагамі ў пярэдні борт, на гурбу зерня.

Цяжка гружаная машына мякка перавальвалася з калдобіны ў калдобіну, не трэсла, не тузала. Нарэшце выскачылі на «варшаўку». Шум ветру ў бярозавых прысадах, далеч палёў і лугоў, вузкая палоска асфальту і нарэшце хуткасць — Сцёпка падумаў, што, напэўна, у такія хвіліны ў птушак вырастаюць крылы. Паваротка, бязлюдная вясковая вуліца, нямыя вокны Сцёпкавай хаты, пусты падворак — пачуццё палёту хутка знікла.

Каля гаража Баркун прытармазіў. Сцёпка ў момант апынуўся на зямлі. З краю вялізнага двара, загаджанага плямамі ад машыннага масла, бруднымі анучамі, заржавелымі ланцугамі, абадамі, лемяхамі, з'езджанымі да дроту пакрышкамі, дзіравымі кабінамі і чорт ведае яшчэ чым, стаяла хата з невялікім агародчыкам пры ёй. У адной з дзвюх яе кватэр жыў Зносак. На лаў-

цы перад сенцамі нікога не было, і гэта занепакоіла Сцёпку.

Мінулы год яго ўразіў да болю малюнак: на лаўцы бабулька, старэнькая, сухенькая, галава правалілася паміж плячэй, у сіняй з белымі кветкамі паркалёвай кофтачцы і бякла-карычневага колеру шаўковай спадніцы да пят, адвярнулася ад усяго свету, уткнулася ў куток паміж сенцамі і плотам. Вяртаўся з вёскі, яна ўсё гэтак жа сядзела, хаця б зварухнулася. І назаўтра, і штодзень, і сёлета. Але сёлета плот аднеслі, і бабулька ўяўлялася ўжо не такой закінутай.

— Дзе ж гэта бабка? — ледзь не ўголас падумаў Сцёпка.— Мо памерла?

Раптам убачыў яе. Старая перастаўляла ногі крокаў за дваццаць ад хаты ў заплылай пяском канаўцы — здалося, не выберацца — і нешта — варушыліся вусны — шаптала. Падышоў бліжэй і ўбачыў, што яна не шэпча, а крычыць — ва ўсякім разе, ёй самой здавалася, што крычыць на курэй: «Кы-ыш-ш-ш!» Певень адышоўся на крок ад яе, не баіцца, глядзіць задзірыста.

— Э-э, дык бабка жывая! — узрадаваўся Сцёпка.

Падумаў, якім, мабыць, хваравіта чулым, далікатным павінен быць той, хто жыве побач з ёй, але прыгадаў Зноска — гэта была яго маці — і расчаравана ўздыхнуў.

Ішоў па распаленым на сонцы шырокім пляцы да расчыненых варотаў кузні. Стаў у парозе. На ўтрамбаванай глінянай падлозе, на вярстаце каля акна, на чорнай вадзе ў балеі каля кавадла ляжала яркае сонечнае святло, і вочы не адразу разгледзелі ў паўзмроку горан з вялізным чалеснікам, які таіў у сабе слабы агеньчык, такарны станок каля забітага дошкамі акна, паліцы з інструментамі ў кутку. Ноздры казытаў лёгкі пах паленага жалеза і вугалю, вочы шчыпаў непрыкметны едкі дымок. З двара ў кузню ўвайшоў ка-

валь. Не выказваючы асаблівай радасці з прычыны Сцёпкавага прыходу, спытаў:

— Трыхфімавічаў, здэцца? Бацька прыслаў? Не. А што? Ага, ясна. Пойдам шукацьмем.— Вывалак з-пад вярстата на святло драўляную скрыню, загрукаў жалеззем.— Нічога падхадзячага. Будам думаць, што рабіцьмем.— Выбраў з лому жалезны прут.— Гэты падыдзе.

Уключыў рубільнік электрычнага нагнятальніка паветра. Узяў прут у абцугі, сунуў у жар. Патрымаў, выцягнуў і паклаў на кавадла. Пайшоў цокаць па ім малатком на доўгай ручцы.

Сцёпка заварожана сачыў за яго рухамі і шкадаваў толькі аб тым, што дзядзька такі маўклівы і што, можа стацца, больш не скажа ні слова. А ён так нязвыкла хораша гаворыць: будам, хварба, вельма, давацьмуць, гультае... Глядзеў на бялявы твар каваля, на шырокія светлыя бровы, на дакладныя рухі рук, лавіў вострыя і спачатку насцярожаныя позіркі і ўсміхаўся, успамінаючы, як на вёсцы казалі, што ён, калі трэба, можа выкаваць жалезны зуб, а то і цэлую сківіцу.

Каваль (Сцёпка з малых год пераканаў сябе, што Каваль — яго прозвішча, і заўсёды здзіўляўся такому супадзенню) апошні раз лёгенька абстукаў амаль гатовы болт, сунуў у балею, панёс да станка наводзіць разьбу. Узяў у Сцёпкі гайку, паспрабаваў, ці падыходзіць. З-пад гайкі выпаўзла тоненькая бліскучая стружка. Здзьмухнуў яе і падаў болт Сцёпку. Той хацеў неяк выказаць сваё захапленне і адчуваў, што нічога такога не трэба рабіць, тым больш што на языку круціліся словы, якія маглі пакрыўдзіць: «Вельма, вельма, вельма добра!» Падзякаваў і выйшаў на святло.

Дамоў, як меркаваў спачатку, рашыў не заходзіць. Успомніў пусты падворак. Ішоў па вуліцы, пад вербамі паўз сажалку, міма магазіна з расчыненымі насцеж дзвярамі, міма цэлага горада скляпоў да свірна, дзе па-

вінна была разгружацца машына. Здалёку ўбачыў: Баркун яшчэ толькі з'язджае з вагі. Павярнуў на не далёкую адсюль рэчку.

Стрымліваўся, каб не пабегчы. Раней часу радаваўся сустрэчы з хлопцамі, якія звычайна такой парой былі на рэчцы. Але людзей на беразе было мала, а хлопцаў наогул ніводнага. Здзівіўся, потым скеміў: карыстаюцца ў яго адсутнасць воляй.

Каля хісткага, у дзве дошкі, з абламанымі балясінамі мосціка боўталіся малыя, і сярод іх — Міколка. Ён ужо заўважыў брата і спяшаўся насустрач.

— Я плыў-плыў, потым бачу: ты ідзеш! Эх, я давай паварочваць назад! А я ўжо да трэцяй стойкі магу даплыць! Паказаць? — І, не чакаючы згоды, нырнуў з мосціка, ажно трусы ледзь не згубіў. Засаромеўся, падцягнуў іх, забыўшы, што на тым месцы глыбока — яму з галоўкай. Хлебануў вады і заплёхаў «па-сабачы» да берага.

— Плывец!

Сцёпка крочыў да «мужчынскай», як называлі самае глыбокае месца на рэчцы. Распранаўся на хаду. Гукнуў брату, каб сцярог болт і акуляры, сам скочыў у ваду. Плаваў, ныраў, плёхаў рукамі і нагамі — перажываў незвычайную асалоду пасля пылу і гарачыні купацца ў рэчцы. Міколка тым часам разглядаў праз акуляры наваколле:

— А я цябе бачу!

Сцёпка толькі ўсміхаўся на блазноту. Нарэшце задаволіўся. Дакладней, падумаў, што спозніцца. Выбраўся на бераг, паскакаў на адной назе, потым на другой, выліваючы з вушэй ваду. Выкруціў, не здымаючы з сябе, трусы. Апрануў рубашку, штаны, сунуў ногі ў вятроўкі. Раптам скеміў:

— Міколка, прынясі з дому яблыкаў!

— Добра! — Міколка аддаў болт і акуляры і пабег. Праз некалькі крокаў спыніўся: — А дзе ты будзеш?

— Каля сушылкі. Толькі ты хутка, а то машына пойдзе!

Малы рвануўся бегчы і зноў спыніўся:

— А якіх лепей — жытнікаў ці кісла-салодкіх?

— Абы-якіх!

Той панёсся з усіх ног напрасткі цераз выган.

Разгрузка падыходзіла да канца, і мала было надзеі, што брат паспее абярнуцца ў два бакі. Грукатаў элеватар, паднімаючы збожжа на другі паверх свірна. Усё часцей чуўся скрыгат драўляных шуфляў аб дно кузава. Баркун драмаў у цяньку пад машынай, а Зносак, мабыць, дзесьці бегаў. Сцёпка забраўся ў кузаў, сеў на борт, пазіраючы раз-пораз у канец вуліцы. Ужо знялі мяхі з куткоў, падмялі кузаў, ужо Баркун ворсаўся, заводзячы матор, і падаспеў Зносак, а Міколка ўсё не паказваўся. Машына кранулася з месца, аб'ехала свіран, выкіравалася на вуліцу, і тады з-за павароту на мост каля сажалкі выбег Міколка. Рукамі ён падтрымліваў абвіслую з усіх бакоў рубашку. Раптам збянтэжана спыніўся. Баркун і не падумаў збаўляць хуткасць, хаця бачыў, што малы махае рукамі — «галасуе». Сцёпка разгубіўся і, замест таго каб пастукаць па кабіне або гукнуць, пабег да задняга борта з намерам скочыць на хаду.

Баркун неспадзявана затармазіў — Сцёпка ледзь утрымаўся на нагах — і разам са Зноскам пайшоў у магазін. «Піва піць»,— здагадаўся Сцёпка і скочыў на зямлю. Брат ішоў да яго, упарта гледзячы ўбок: ён так стараўся, а яны... На носе ў яго Сцёпка заўважыў скручаныя з дроту акуляры, выцер рукою лоб, каб схаваць усмешку. Не падымаючы вачэй, якія ў яго былі на мокрым месцы, Міколка даставаў з-за пазухі яблыкі і перадаваў брату. Некалькі штук закацілася за спіну, і ён сагнуўся, намагаючыся дастаць іх. Сцёпка прыйшоў на дапамогу — запусціў руку за рубашку, дастаў яблыкі, потым зноў запусціў руку, быццам яшчэ

нешта там заставалася, і давай казытаць брата. Той незадаволена здрыгануўся, потым завішчаў і закруціўся на месцы. Нарэшце развесяліўся:

— Ну, Сцёпка! Ай, ну!..

## VI

Сустрэлі іх вясёлымі воклічамі:

— Лапатуна па дарозе не бачылі?

— Збег?

— Збег! — чамусьці радасна паведаміў Аляксей Трафімавіч.

— Не вытрымаў выпрабавання! — дадаў Казік і расказаў: — Пад'язджаю я да павароту, дзе пачынаюцца чорныя смерчы. Думаю: што то будзе? Не паспеў міргнуць вокам — няма майго хлопца! Гляджу: выбягае з-за камбайна. На мяне азірнуўся і як копнуў! Толькі пяткі падскокваюць.

Сцёпка смяяўся разам з усімі і лавіў сябе на горкай думцы, што прыкладна так, з такімі ж смешнымі падрабязнасцямі маглі расказваць і пра яго.

Заняў сваё законнае месца. Агледзеўся. З кузава машыны, калі ехаў цераз поле, палоса нязжатага жыта здавалася нешырокай. Зблізку ўсё выглядала інакш. Глухая сцяна збажыны закрывала паўгарызонта, і над ёй на другім баку поля на кароткі час паказаўся бункер камбайна Гарулькевіча. Поле ўсё яшчэ здавалася бяскрайнім, і, мабыць, таму так востра заўважаліся прыкметы недалёкага вечара. Сонца паказвала нешта каля пяці па абедзе. Неба абступілі з усіх бакоў воблакі, памацнеў вецер. Праўда, спёка спадала марудна, і гэта азначала, што жаць можна будзе і з наступленнем цемры. Парыла.

Казік заўважыў:

— На дождж паказвае: хмары навокал, як цыганы, ходзяць...

Адразу ўсё ўбачылася ў новым святле: сапраўды пагрозліва насоўваліся хмары, па жыце прабягалі цёмныя цені і хадзілі хвалі, было душна. А яны так спяшаліся, так стараліся зжаць жыта на гэтым полі сёння, каб на наступны дзень распачаць працу на іншым полі. Дождж мог парушыць усе іх планы. Сцёпка трывожна ўзіраўся ў хмары, сачыў за іх рухам. Успомніў, што раніцой быў момант, калі з надзеяй шукаў на небе якіх-небудзь прыкмет, якія б абяцалі дождж, абы не ісці на працу. Падумаў яшчэ, што днём жадаў, каб камбайн часцей спыняўся і можна было адпачыць. Цяпер кожны прыпынак нерваваў.

Адзін з такіх прыпынкаў здарыўся акурат насупраць той капы, якую кожны раз, калі праязджалі міма, невядома дзеля чаго, Сцёпка вывучаў і запамінаў. Адразу прыгадаліся Казікавы словы, што яшчэ не ўсё скончана, і стала зразумела: Казік спыніўся ў гэтым месцы нездарма і, вядома, спадзяваўся, што Расоха якнебудзь натрапіць на мяшкі са збожжам. Сапраўды, Аляксей Трафімавіч пастаяў, як звычайна, за спінаю Казіка, паглядзеў, што той робіць, потым пайшоў, сеў у капу. Але гэта была другая капа.

Усё адбылося нечакана: на поле ўз'ехаў знаёмы блакітны грузавік, праскочыў каля капы і незнарок развярнуў яе. Баркун вылез з кабіны і спакойна пасунуўся да камбайна, не зважаючы на сігналы, якія падаваў яму Казік.

Сцёпка хуценька забраўся на мосцік, каб бачыць усё, што вось-вось здарыцца. Надзеў акуляры.

Ага, Баркун заўважае Казікаву жэстыкуляцыю, але разумее яе па-свойму — усміхаецца і падміргвае: маўляў, ведаю — старыя жарты наконт восі ў коле. Раптам паварочваецца, трывожна азірае машыну, глядзіць на Сцёпку, потым на поле і робіць шырокі крок наперад, але адразу ж спыняецца, пазіраючы заварожана, як брыгадзір устае, рассоўвае паперы ў кішэ-

ні, прыкмячае разварушаную капу, разглядае яе: няўжо мяхі са збожжам? Можа, проста валун? Падыходзіць, адкідае салому. Да яго набліжаюцца мужчыны. Баркун і Зносак нечакана паварочваюцца і разам падазрона азіраюць Сцёпку. Той напускае на сябе загадкавы выгляд, пасвіствае і тарабаніць пальцамі па каленях. Казік усё гэта заўважае і ўсміхаецца. Адразу прымае сур'ёзны выгляд твару і нешта шэпча Баркуну. Той спалохана ўздрыгвае, глядзіць бесталкова на след ад кола ўласнай машыны ў іржышчы. Зносак яшчэ нічога не ведае, дробненька перабірае нагамі, быццам і спяшаецца, і адначасова ідзе на адной лініі з астатнімі, нават крыху адстае. Раптам апярэджвае ўсіх, падлятае да капы, спрабуе скрануць верхні мяшок:

— От, гэта ўлоў!

— А чым не ўлоў! — азірае мужчын брыгадзір.

— Дзе ўлоў? — прабраўся да мяшкоў Сцёпка: яму надакучыла быць назіральнікам. Здзівіўся: — Ого!

Баркун сказаў, быццам пазайздросціў:

— Чыстая работа!

— Невядома толькі, чыя.

— Па почырку пазнаць можна,— падказаў Баркун.

— Па почырку — вялікая птушка!

— Такое пад сілу і малой,— умяшаўся Зносак.— Матруна пры жаданні за адну ноч можа паўбункера перанесці.

— Вось іменна — ноччу! — папраўіў яго Казік.— Матруна тут ні пры чым. Падазрэнне можа быць толькі на нас трох. Правільна, Трафімавіч?

— Не само ж усё зрабілася!

— А Гарулькевіч? — напомніў Баркун.

— Ці нажаў ён хоць на гэтым полі тыя тры мяхі? — не згадзіўся Казік.

— Ну, мне гэта жыта сто год не трэба! Зноска ногі кормяць, а табе красці — тое самае, што з уласнай клеці браць: плацяць жа за тоны і за га.

— А чаму і не ўзяць часам з уласнай клеці? — быццам здзівіўся Казік.— Усё проста: бярэш кусмень сала, нясеш яго да той самай Матруны і атрымліваеш бутэльку чыміргесу.

— Пляцеш, сам не ведаеш што! — зазлаваў Баркун.— Тут падсуднае дзела!..

— А каго судзіць? — выткнуўся Зносак.— За руку нікога не злавілі!

— Вось тое і яно, што не злавілі! — нехаця згадзіўся Аляксей Трафімавіч і сумна азірнуў мужчын.

У галаве Сцёпкі раптам пацямнела: позірк бацькі, здалося яму, быў поўны бязмежнай скрухі і маўклівага дакору, і гэта адносілася таксама і да яго. Усё, што перажыў ён за гэты неверагодна доўгі і цяжкі дзень, узнялося ў яго душы і выбухнула нястрыманым абурэннем самім сабой і ўсім, што ён рабіў у гэты момант. На вочы хлопцу трапілі рукі Зноска: той абхапіў імі завязаны верх мяшка і цягнуў, намагаючыся паставіць мяшок невядома для чаго на папа. Далікатныя, тонкай касці рукі Зноска пабарвавелі і дробна калаціліся ад натугі. Пачуццё нянавісці асляпіла Сцёпку: у яго свядомасці ажыў нечакана чуты ў дзяцінстве расказ пра тое, як аднойчы неўзабаве пасля вайны дзве дзяўчынкі хадзілі прасяваць праз сіта зямлю з-пад малатарні, спадзеючыся здабыць хоць трохі зерня, як прыбег раз'юшаны Зносак — ён хадзіў тады ўчотчыкам — і стаў таптаць кінутыя перапалоханымі малымі сіты і як дагнаў адну дзяўчынку, абхапіў рукамі за шыю, адарваў ад зямлі і сціснуў так, што яна страціла прытомнасць...

Голасам, які перастаў яму падпарадкоўвацца, Сцёпка спытаў у Баркуна — быццам парады папрасіў або высветліць нешта хацеў:

— Дзядзька, а... а чаму вы не скажаце праўду?

Той зірнуў на яго з нянавісцю:

— Якую такую праўду?

Але са Сцёпкам нешта адбылося: ён стаў страшэнна ўпарты і нездагадлівы і, гледзячы нявіннымі вачамі на Баркуна, дамагаўся свайго:

— Ну... праўду?

— Як ён не разумее! — здзівіўся Казік.— Праўду-матку!

— Ат, была не была! — найшла на Баркуна адвага. Але расказваў ён доўга і цьмяна, як раніцой, «туман яшчэ стаяў над рэчкай і чуваць было плёханне шчупакоў у старыцы», да яго зайшоў сімонавіцкі Навічонак, быццам пакурыць і перакінуцца парай слоўцаў, як сабраўся ісці назад і раптам, «ужо ў парозе быў», вярнуўся і на прамілы бог стаў прасіць дастаць мех жыта: маўляў, адзінае дзіця сваё ў людзі пускае і хоча справіць вяселле не горш за іншых, і як ён, Баркун, доўга ўпарціўся, адгаворваўся, раіў быццам бы пападысці да Аляксея Трафімавіча і зрабіць усё па-людску...

— Паставіць паўлітэрку, забяспечыць закусь...— у тон яму сказаў Казік і зарагатаў: — Чаго ж ты яе не данёс па адрасе?

— З такімі, як ты, данясеш! — агрызнуўся Баркун.

— Значыць, я вінаваты? — падступіўся да яго Казік, але ўмяшаўся Аляксей Трафімавіч і не даў разгарэцца сварцы.

— Усё зразумела! Дамахляваліся!

Зносак забег наперад:

— Трафімавіч, пачакайце! Чуеце, Трафімавіч?..

— Грузіце мяшкі на машыну! Толькі не развязваць — зважым і запішам у акт...

Ах, як спрытна падступіліся Баркун са Зноскам да мяшкоў, як стараліся — быццам спадзяваліся ўлагодзіць брыгадзіра. Баркун без доўгіх спрэчак падставіў плечы і амаль подбегам павалок узвалены на яго мех

да машыны. З гарачкі тужыўся сам без дапамогі перакінуць яго цераз борт. Зносак, гледзячы на яго, пазайздросціў.

— Спрытны, падла! — І да Казіка звярнуўся: — Давай?

— Давай! — насмешліва зірнуў той.

Павалаклі другі мех разам. Смешна было глядзець, як хутка перабіраў нагамі Зносак: здавалася, не ён мех нясе, а мех — яго. Трэці, апошні мех прыцягнуў Баркун. Скочыў у кузаў памагаць Сцёпку ўкладваць. Моцна штурхнуў яго плечуком.

— Эйч ты які! — Паспяшыў супакоіць: — Малайчына! Так і трэба!

Сцёпка паводзіў сябе ў гэты момант бессаромна, можна сказаць, нахабна. У час разгрузкі сядзеў дэманстратыўна на прыступках мосціка і, склаўшы рукі, пазіраў, як поўзае па кузаве, соваючы зерне па кутках, Зносак і як любоўна раўняе збожжа, стоячы на коле і налёгшы грудзямі на борт, Баркун.

— Бачыў, Сцёпа? — бадзёра спытаў Казік, калі машына і брыгадзір разам з ёй адправіліся з поля.

— Бачыў.

— Дык болей не ўбачыш!

На душы Сцёпкі раптам стала светла-светла. Ён азірнуўся навокал. Дзень дагараў. Хілілася на захад сонца. Каля самага далягляду цямнела палоска ні то далёкага лесу, ні то навальнічнай хмары. Вылятalі з жыта перад самым камбайнам дробныя птушкі. Казік расказваў, што аднойчы нават курапатка паднялася — сядзела, пакуль нож не дастаў, трапіла пад матавіла і звалілася на транспарцёр. Ён затармазіў, але было позна: ад курапаткі засталося толькі акрываўленае патрушчанае цельца.

Падала і падала зрэзанае нажамі калоссе. Выла і грукатала малатарня, гуў матор. Была загучала знаёмая мелодыя і раптам абарвалася:

Рэжу-рэжу,
нахіляю,
мну-ламаю,
мну-ламаю,
мну-ламаю.

Сцёпка азірнуўся і ўбачыў, што адбылося — саскочыў ланцуг. Замахаў Казіку рукамі. Наступіла нязвыклая цішыня, якую парушаў толькі блізкі гул Гарулькевічавага камбайна. Потым да слыху дайшоў шэлест каласоў, строкат конікаў, шоргат ног па ржышчы.

— Чортавы шнэкі-дэкі! — бурчэў Казік.— Шнэкі-дэкі-транспарцёры — вось і выйшлі камбайнёры!

Падышоў Гарулькевіч.

— Курым?

— Ага, думаеш, Казік, як той шафёр,— залез пад машыну, прывязаў рукі да кардана і робіць выгляд, што рамантуе. А сам спіць!

Памаўчалі. Зноў загаварылі, але ўжо зусім аб іншым. Хмара, якая толькі што здавалася астраўком лесу на даляглядзе, захапіла паўнеба і няўхільна расла.

— Дасць дык дасць!

— У Сімонавічах ужо дае! — узбуджана гаварыў Сцёпка.

— Вось табе і агранамія! Вось табе і тэхніка! Вось табе і на!

— Краем пройдзе!

— Яшчэ горш: нахіліцца — і цераз край як ліне!

— Усё можа быць.

— І хмары находзяць, і сена намокне, і дзе той Расоха — няма і няма! — успомніў Казік старую вясковую байку.

Калісьці стары Шчарбіцкі на лузе пад час навальніцы гэтак бедаваў: хмары находзяць, а брыгадзіра няма, і няма, і невядома, што рабіць — зграбаць сена ў копы ці бегчы хавацца пад стог. «Пасляваенныя людзі! —

смяяўся потым Буйнавіцкі.— Без каманды кроку не ступяць!»

Хмара, чорная і жудасная здалёку, зблізку аказалася не такой ужо страшнай, тым больш што сапраўды прайшла краем, скінуўшы ў пыл, на гарачую бляху камбайна, на брудную адзежу людзей некалькі дробных кропель.

— Няма чаго глядзець — паехалі! — накіраваўся Гарулькевіч да сваёй машыны.

Казік і Сцёпка таксама пайшлі кожны да свайго месца, але неахвотна — марудзілі расставацца з грандыёзным відовішчам. Сцёпка ўвесь час азіраўся: сядзець спінай да хмары было неяк ненатуральна і страшна. Над вёскай вісеў блішчасты шлейф дажджу, нема зіхацела маланка, і запознена даходзілі да слыху скрозь шум і ляскаценне малатарні раскаты грому. Зрабілі паварот, і камбайн рушыў проста пад арку з дзвюх, адна пад другой, вясёлак. Хмара адыходзіла ўсё далей на ўсход. Але яшчэ доўга трывожна гойдалася збажына, і па ёй прабягалі хвалямі цені.

Раптам камбайн спыніўся: бункер быў поўны. Даўно замоўклі сігналы-папярэджанні, змяніліся гудкамі-загадамі, гудкамі-просьбамі, хутка пачуліся пагрозы, зноў просьбы, потым — адзін суцэльны аднастайны гудок: «пі-і-і-і-і...» Баркуна ўсё не было. Казік заглушыў матор, пачакаў Гарулькевіча, паказаў, каб не спыняўся, аб'язджаў, і пайшоў залёг у капу. Сцёпка ўзабраўся на бункер. Дарога, па якой ён ішоў на поле, пуставала. На Высокай дарозе таксама нікога не было. Ад няма чаго рабіць перасыпаў з далоні ў далонь зерне, выбіраў з адзежываўчкі.

Заўважыў з супрацьлеглага боку поля машыну, але пакуль што маўчаў: Баркун павінен быў паказацца на Высокай дарозе. Нарэшце пазнаў:

— Дзядзька Казік! Едзе!

— Усё-ткі едзе.

— Але чамусьці з другога боку.

— Як ведаў, што ў Сімонавічы пакоціць. Ну, пачакай жа!

Сцёпка заставаўся наверсе і тады, калі машына пад'ехала. Слухаў, як апраўдваецца Баркун:

— А-я-ей! Які дождж! Што з вядра! Проста град! У кабіну і то дастаў. У Сімонавічах з аборы паўдаху знесла: шыфер сарвала, пабіла, паглуміла. А-я-ей! Але ж і дажджыска залёг! А тут, гляджу, каб капнуў.

— Капаў.

— Ат, сірочыя слёзы! У нас, брат, як стусінай, свістаў.

— Вы ў Сімонавічах адседжваліся, а мы паўгадзіны стаялі,— сказаў Сцёпка.

— Ты, хлапец, не мяшайся! А што, калі б заселі на гэткай дарозе ў гразь? Што тады? То-та ж і яно! — нечакана падабрэў: — Трафімавіча няма?

— Ты ж з ім толькі што гаварыў!

— Калі?

— Ну, са Сцёпкам!

— Кінь, Казік, жартачкі строіць!

— А я не жартую. Чым не Трафімавіч?

— Ну, няхай сабе Трафімавіч.

— Расохава парода. І крошкі ад бацькі пабраў.

— Як ты, цараахламонамаць, не петрыш! Тут за жывое бярэ...

— Мікалай, што ты з імі звязваешся? — высунуў з кабіны галаву Зносак.

Сцёпка ледзь з бункера не зваліўся: у Баркуна ёсць імя — Мікалай! Можа, яшчэ і Міколкам хто-небудзь называе?!

— Расоха ўнё бяжыць,— працягваў Зносак.

На поле спяшаўся брыгадзір. Казік сустрэў яго:

— Бог, Трафімавіч, усё-ткі за нас: не даў зглуміць дзень! Папярэдзіў толькі — сыпануў жменю дажджу.

— За нас... Адно каб не ўрачы! — згадзіўся Трафі-

мавіч. Стаў на падножку машыны, рассоўваў зерне, колькі мог дастаць, і Сцёпка, які памагаў разгружаць, быццам выпадкова, стараўся даць яму работы — падсоўваў гурбу ў яго бок. Заўважаў, як бацька ласкава і асцярожна разграбаў зерне, і, гледзячы на яго перабіты куляй сярэдні палец правай рукі, адчуваў, як парацiскае горла шчымлівы жаль: «На Верхнім Данцы зачапіла. У акружэнне трапілі. Думалі, хана! Навокал — узгоркі, ні дрэўца, ні кусціка. Усё спалена. Куды ні сунемся — танкі. Добра, лейтэнант адзін талковы быў з намі. Кажа, хлопцы, прападзём, калі будзем такім натоўпам соўвацца па стэпе. Разаб'ёмся на групкі і будзем прабівацца. Праўда, пайшлі мы, пайшлі і выйшлі да сваіх...»

Падумаў, калі сённяшняй ноччу прысніцца сон, то ў ім абавязкова будзе жытнёвае поле, вясёлыя людзі і шмат сонца. Хмара, якая нечакана з'явіцца на даляглядзе і якая сваімі абрысамі будзе напамінаць то Баркуна, то Зноска, пройдзе краем, і бачна будзе, як светла і цёпла там, дзе Сцёпка, яго бацька, Казік Шчур, Іван Буйнавіцкі, Міколка.

Але да ночы было яшчэ нямала часу. Усе-ткі неспакой, што дня не хопіць, каб нарэшце «схапіць тое жыта» двума камбайнамі, не даваў засяродзіцца на працы. Сцёпка нават захапіў сябе на прымхлівым жаданні скінуць калоссе з дзельніка намаганнем волі, сканцэнтраванай у вострым позірку вачэй, замест таго каб проста прымяніць кій. Нервовае напружанне, па назіраннях Сцёпкі, найшло і на яго начальніка: Казік раптам пачаў блытаць рычагі і ўключаў хуткасць, калі трэба было націскаць на тормаз. Наогул, было прыкметна, што гэта поле ён ужо разлюбіў. Яму патрэбен быў размах і прастора, а тут нейкі шматок, на якім ні павярнуцца, ні разагнацца.

Зрэшты, хапала пакуль што і тут занятку: жыта раптам пайшло такое густое, што здавалася — нехта,

п'яны або бяспамятны, пасеяў два разы па адным месцы. Казік адразу нацягнуў на вочы кепачку. Малатарня выла і захлыналася ад бурнай плыні збажыны. Быў момант, калі Сцёпка спалохаўся, што не справіцца са сваёй задачай. Рукі, асабліва правая, пачалі дрэнна слухаць яго. Калоссе, якое раней ад аднаго дотыку лёгка збягала з дзельніка, нечакана пацяжэла, і Сцёпка напружваўся, каб перакінуць яго на транспарцёр. Не, думка аб уцёках больш не прыходзіла да яго, але страх, што ён не вытрымае, проста сіл не хопіць, не-не, а захопліваў яго. Вельмі ж блізка падышоў хлопец да мяжы, за якой пачыналася абыякавасць. Але калі нешта загрымела ўнутры малатарні і Казік выключыў матор, замест палёгкі ўзнікла трывога.

Казік, страшэнна сярдзіты (Сцёпку, аднак, мроілася, што ён прыкідваецца і вось-вось не вытрымае — усміхнецца), рэзкі і немнагаслоўны, корпаўся каля «шнэкаўдэкаў».

За спінай у яго стаяў разгублены ад сваёй вымушанай бяздзейнасці Сцёпкаў бацька і раз-пораз паспешліва ўступаў дарогу сыну, які бегаў шукаць у скрынках ключы, гайкі, пракладкі. Напружанне было такое, што, калі Казік нечакана хутка завяршыў рамонт, брыгадзір недаверліва спытаў:

— Як, усё?

— Усё, Трафімавіч! — засмяяўся Казік.

Ноч насоўвалася няўмольна і хутка, і заставалася нейкая вартая жалю палоска, на якую заўтра прыйдзецца патраціць не менш як паўдня. Прыйшоў ужо і стаў воддаль начны вартаўнік — стары Шчарбіцкі, той самы, які бедаваў некалі на лузе, што хмары находзяць, намочаць сена, а брыгадзір, замест таго каб загадаць, што рабіць, ходзіць невядома дзе. Ён, мабыць, вымеркаваў, што да ночы не скончаць і ён чэсна адаспіць сваю вахту ў капе пры камбайне; непаваротлівы і тоўсты ў сваім кажусе, быццам на зімоўку сабраўся, а на самай

справе вёрткі і сухарэбры, дзед глядзеў няўхвальна і строга.

Перад вачамі — салома, салома, салома. У галаве — пустата, у роце — сухасць, і на язык назойліва лезла адно і тое ж: «Сіла салому ломіць... Сіла салому ломіць...» Сонца было на адным узроўні з верхам дзічкі, цяпер асабліва прыкметнай на фоне ружовага захаду. Зрабілі яшчэ круг — і сонца дакранулася лініі далягляду. Яшчэ круг — і ўжо відаць толькі верхні край яго. Але, каб не палоска лесу за шашой, яно было б відаць яшчэ напалову. На ўсходзе хутка цямнела, і быў момант, здалося, што гэта нядаўняя хмара, вызваліўшыся ад свайго цяжэразнага грузу, вярталася, быццам злачынца, каб паглядзець на справу сваіх рук.

Дзень пяць тысяч дзевяцьсот дзевяноста трэці адыходзіў у небыццё.

Ноч прынесла з сабой такі жаданы днём халадок. Сырасцю нацягнула сцябліны жыта, і яны ўжо не пстрыкалі, пераломваючыся, а звалкавацелі і мякка абкручваліся навокал пальца. Некалькі разоў забівала барабан, і Сцёпка змогся, цягаючы з яго бесперапынна салому. Гледзячы на яго нецярплівыя і ўсё больш неасцярожныя рухі, брыгадзір падаў яму складанчык. Сцёпка рваў і рэзаў, ламаў і проста раздзіраў салому, садзіўся на сваё месца і махаў-махаў-махаў кіем, а праз хвіліну зноў лез у жняярку вызваляць барабан. Са здзіўленнем заўважыў на далонях мазалі. Вельмі хацелася пакласці рукі на раму жняяркі, [illegible] галаву на рукі і хоць крыху падрамаць. Але ён зноў і зноў прымушаў сябе засяродзіцца на адным — на сваёй працы («Усё-ткі, мабыць, працы»,— зрабіў вывад), і, дзіва дзіўнае, адчуваў, як аднекуль, невядома з якіх рэзерваў, ішла і ішла да мускулаў яго рук жыватворная сіла.

Жытнёвая палоса была ўжо шмат у якіх месцах перарэзана жняяркай, а ў канцы яе даводзілася рабіць вя-

лікі круг ухаластую, каб завярнуцца і зноў падступіцца да яе. Але ўсё яшчэ заставалася некалькі вялікіх кліноў (Сцёпка ўсё дзівіўся, адкуль яны ўзяліся: поле, здаецца, прамавугольнае і жалі быццам бы роўна), і браў неспакой, што наўрад ці ўдасца іх скончыць. Салома панамотвалася ўсюды, дзе толькі што-небудзь круцілася: на матавіла, транспарцёр, ланцугі, зорачкі, на барабан. Можна было, гледзячы на іх, уявіць, што тварылася ўнутры малатарні. Толькі калі палоска жыта звузілася сама болей да трох метраў, так што з'явілася небяспека сутыкнуцца з камбайнам Гарулькевіча, і шмат дзе наогул знікла або абазначалася рэдкімі, быццам на ўзмежку, каласкамі, Сцёпка не крыкнуў, як думаў зрабіць, а выдыхнуў:

— Усё!

Гарулькевіч ад'ехаў у бок, а Казік завярнуўся, пераключыў хуткасць, і камбайн панёсся па полі. Мякка гойдалася жняярка, амаль ухаластую круціліся крылы матавіла, рэзалі нажы, стукала малатарня. Грукат і стукат раптам змоўклі, зароў дызель, камбайн зрабіў паварот і памчаў цераз усё поле да машыны выгружаць свой апошні бункер.

Дамоў Сцёпка паехаў, вядома, на камбайне. Перадолелі ямы і калдобіны Высокай дарогі, выскачылі на шашу. Сцёпка сядзеў на сваім месцы і баяўся заплюшчваць вочы, а іх трэба было заплюшчваць: на святло фар ляцелі матылькі, мошкі, камары і стукаліся аб шкло акуляраў,—ахоплівала пачуццё, якое ён перажываў у сне, калі лётаў над вёскай, і здавалася, што нейкая невядомая сіла сарве яго з месца і скіне на зямлю на поўным хаду.

Казік прыпыніўся каля яго хаты, памахаў на развітанне рукой і паехаў да гаража. Сцёпку б пастаяць, паглядзець услед, успомніць усё, што адбылося за вялікі, быццам год, дзень, а ён адразу прайшоў у весніцы і ледзь не бягом прамінуў падворак. У акне на кухні

гарэла святло, і ён уяўляў, як навокал стала сядзяць і прыслухоўваюцца да гукаў, што даносяцца з вуліцы, маці і Міколка. Дзверы адчыніў не адразу, а перадыхнуўшы. У хаце — нікога! Ледзь не заплакаў ад крыўды. На кухні, за сталом на тапчане, раптам убачыў Міколку: ён, вядома, чакаў брата, чакаў-чакаў-чакаў і заснуў, як быў, нераспрануты, з бруднымі нагамі.

— Эх ты... Трафімавіч! — усміхнуўся Сцёпка.

Падышоў да люстэрка, якое стаяла на стале ў суседнім пакоі. Пашкадаваў, што ніхто не бачыць яго, такога чорнага, з белым пухам над губой і светлымі кругамі навокал вачэй, са скурай, на якой не знайсці было ніводнай вяснушкі, з пераблытанымі і патанчэлымі, быццам павуцінне, валасамі,— сапраўднага механізатара. Захапіў з сабой мыла і выйшаў з хаты. Накіраваўся па слаба асветленай ліхтарамі вуліцы на вёску. Усміхнуўся аграмадзіне свайго камбайна, які стаяў каля гаража сярод двух радоў аўтамашын. Перайшоў мост каля сажалкі.

З сквера даносіліся галасы і смех хлопцаў і дзяўчат і гукі баяна. Каля баяніста, як звычайна, сядзелі дзяўчаты. Сярод іх, вядома,— яна. І, вядома, сумная і маўклівая. Яна чакае яго, Сцёпку.

Сцёпка ўявіў усё гэта і паспяшыў звярнуць на сцяжынку, якая вяла да рэчкі. Перайшоў масцік. На хаду скінуў з сябе адзенне, а каля самай вады азірнуўся і зняў трусы. Чорныя кусты, чорная вада. Сцёпка, які раней і ў думках не трымаў, каб купацца такой парой, адважна рушыў у рэчку. Ад таго, што купаўся так позна і што быў зусім голы, яго ахапіла адчуванне незвычайнага хараства ўсяго навакольнага. Ён раптам пачаў шалёна біць па вадзе рукамі і нагамі, куляцца, ныраць. Потым падплыў да берага, выскачыў з вады, невядома ад каго прыкрываючыся рукой, ухапіў мыла і з разгону скочыў у рэчку. Намыліўся, нырнуў, зноў намыліўся, паклаў на траву абмылак і нырнуў на сярэдзіну рэчкі.

Паплыў да пясчанай касы супраць цячэння, павярнуўся на спіну і паплыў назад, стараючыся не напружвацца і як мага паўней перажываць ласкавасць вады, вячэрняе халоднае паветра, нязвыклую лёгкасць, якая ахапіла цела. Глядзеў на неба, усеянае безліччу зорак, і ўяўляў, што плыве сярод Млечнага Шляху...

Выйшаў на бераг, выцерся адваротным бокам рубашкі, надзеў трусы, падумаў, што наверсе халаднавата, не тое што ў вадзе, і што трэба апрануцца, але ўявіў, як ён будзе сябе адчуваць у сваіх брудных штанах і рубашцы, і закруціў рубашку ў штаны, захапіў мыла і пабег цераз масцік на выган і нацянькі дамоў.

Маці здзіўлена паглядзела на яго, радаснага і ўзбуджанага, але прамаўчала. Пачала ставіць на стол вячэру і тое, што згатавала на абед. Сцёпка тым часам апрануў куртку з моднымі кішэнькамі і латуннымі гузікамі і джынсы, падперазаўся папружкай, абуў замшавыя туфлі. Казаць, што ўсё гэта было куплена на грошы, якія ён сам зарабіў, мабыць, не варта. Прычэсваўся і проста-такі любаваўся самім сабой, увогуле сімпатычным хлопцам. Еў, хапаючы з усіх місак адразу і амаль не жуючы, глытаў — ірваўся хутчэй дапасці да танцпляцоўкі...

— Я пайшоў!

— Куды ты? Зморany, змардаваны?

Засмяяўся.

— Доўга не будзь! Зноў заспіш...

— Не прасплю!

Нарваў у кішэні яблыкаў і пакрочыў на вёску.

Усміхаўся, уяўляючы, як пакажацца ў скверыку, непрыкметна ў цемры абыдзе танцпляцоўку, знойдзе сваіх, спыніцца перад імі і асляпіць святлом ліхтарыка, які захапіў з сабой. Хлопцы пачнуць гырчаць і злавацца:

«Эй ты!»

«Схавай, а то паб'ю!»

Нехта загрэе па ім агрызкам. Тады Сцёпка падыдзе і грозна скажа:

«Зараз кіну!»

Узнімецца галас:

«Сцёпка прыйшоў!»

«Ура!»

«А я думаю: хто гэта смелы — у вочы свеціць. Ну як, добра загрэў?»

«Валерка, пасунься — дай месца чалавеку!»

## Бабуля Аляксандра

Сярод людзей кажуць: старое што малое. За адным і за другім трэба вока ды вока. Але старасць старасці не раўня. Бабуля Аляксандра не ведае дый не ведала, колькі ёй год. Казала, што нарадзілася, калі босымі ўжо не хадзілі. Зімою, значыць. У якім годзе? А хто ж яго ведае! Стары Гадусь пазалетась, жывы яшчэ быў, лічыў-лічыў дый вылічыў: «Гэта мне ўжо без малога сто, Гарасімовічу з Цямшы дзевяноста трэці пайшоў, а Горбель з Сімонавіч маладзей за яго на шэсць год, за мяне, значыць, на дзесяць. Ты, Аляксандра, нарадзілася праз тры гады пасля Горбеля. Так што табе роўна восемдзесят шэсць год».

Але хто скажа, што бабуля Аляксандра разгубіла свой розум і адно замінае маладзейшым? Наадварот, бабуля Аляксандра яшчэ можа пазычыць спрыту каму іншаму. На вёсцы кажуць: «Вунь старая Аляксандра — пад дзевяноста ёй, а яна яшчэ і чарку на хрэсьбінах вып'е і станцуе. Сівізна не ўкарызна. Можна і з кірмаша едучы песні спяваць».

І бабуля Аляксандра жыве. Жыве і помніць, што век — добры чалавек.

— Восемдзесят год — багата. А я як падумаю, дык здаецца, што і не жыла... Даўнейшыя людзі апавядалі. Прыйшла смерць па бабу. Нахілілася да акенца: «Адчыняй, старая! Госця, нязваная, няпрошаная, прыйшла». А баба ў полі. Караладскага жука на бульбе абірае. Смерць — у поле. А баба ўжо ў лузе. Сена ў копы грабе. Смерць — у луг. А баба ўжо каля хаты чаў-

пецца. Хацела смерць назад кінуцца, ды нейкі дзяцюк прычапіўся: «З касой прыйшла, дык не стой — касі!» Прыцемкам усцяглася смерць на ганак, а парог пераступіць — сілы нямашака. Умарылася косячы. Па ночы ачнулася, грукае ў акенца: «Ну, старая, адчыняй!» А баба — даўно ўжо ў полі,— бабуля Аляксандра скончыла расказваць і засмяялася: — Вось як, даражэнькія мае! Не бярэ бабу смерць. Не можа!

Не, бабуля Аляксандра — такую пашукаць!

Дзіўна, але радзей за ўсё яе можна бачыць сярод такіх самых, як сама, старых, што сядзяць дзень у дзень на лавачцы ды пільным вокам прыкмячаюць, што дзеецца навокал. Бабуля Аляксандра, бывае, прысядзе каля іх, паслухае, як скардзяцца яны на гады і хваробы, сама скажа слоў колькі, потым схамянецца: «Што я кажу! Каму тое невядома — старасць не радасць, а маладосць не век». Усхопіцца і падыбае, высокая і сухая, да сваіх бясконцых клопатаў.

Нагаруецца за дзень (што ні кажы — адна, як ёсць адна!), а прыцемкам запаліць святло і на кухні, і ў пакоі (хай ведаюць — і ў яе хатцы людзі жывуць), прымосціцца на печы, азірне пакой, пустыя ложкі, фотакарткі пад шклом, жменьку зязюльчыных слёз за іконай у кутку, задумаецца, непрыкметна задрэмле. Праз паўгадзіны прачнецца, па хаце патупае, вуголле ў печы патаўчэ, юшку засуне і спаць ляжа. А заўтра раненька зноў на нагах.

Брыгадзіра сустрэне. Той здалёк спытае:

— Шчэ жывая, бабуля Аляксандра?

Засмяецца:

— Жывая, жывая.

І зноў цалюткі дзень у клопаце. І зноў кароткі вясновы вечар.

Але вясной што! Адно чакаеш, калі прыйдзе лета і з горада наедуць унукі. У хаце стане тлумна і весела. Тады ўжо клопату — не ацярэбішся.

Усё роўна найцяжэй зімой. Усе бакі адлежыш, усе думкі перадумаеш. А вечар доўгі — усё не канчаецца. Казаць, што сумна адной, дык будзе няпраўда. Бабуля Аляксандра думае, успамінае і ўсміхаецца сама сабе. Яе вяселіць тое, што вось яна, старая баба, косці гудуць, цела ные, спакою просіць, а думкі, бы ў падлетка-дзяўчынкі, з аднаго на другое скачуць. Іншы раз прачнецца, і пакуль не варушыцца, цела не чуе, дзіўнае ў галаву прыходзіць. Быццам яна — маладая, здаровая... Бабуля Аляксандра ніяк не можа змірыцца, што ёй ажно гэтулькі год.

— Даўно паміраць пара. Старога мяшка не залатаеш. Але як узгадаю, куды падзенуцца летам Валіны птушаняты, дык і мяркую: гэту зіму, так таму і быць, яшчэ сяк-так перагарую, а далей — колькі не красуйся, усё туды гатуйся... Што гэта я — памру-памру! Сумна, мусіць, з старым чалавекам гаварыць. У яго адно наўме. Не ведаю, вы сабе як хочаце, я вам не ўказ, а я дык хвіліны не ўтрываю са старымі бабамі сядзець ды пераліваць з пустога ў парожняе. Пасядзіш з хвіліну, а састарэеш на год. Смяюся, вядома. Што старому лежню яшчэ рабіць!..

Нікому не казала бабуля Аляксандра, але сама чула: дасца ў знакі ёй гэта зімка. Дый тое сказаць — сны нейкія бесталковыя набеглі, бы сабак гайня: здаецца, яна ідзе па дарозе і чуе, як гараць падэшвы ног ў гумовіках, як адвальваюцца падэшвы і як яна зябка ступае босымі нагамі па прыхопленай раннім марозам зямлі...

А зіма сапраўды цяжкая выдалася. Яна мала і помніць такіх. Снег наваліўся на вёску яшчэ перад кастрычніцкімі святамі. А праз два дні вецер павярнуў — яго як не было. Новы год ужо на двары, каляды хутка, а снегу няма і няма. Мароз — уночы трашчыць, а ўдзень плюшчыць. Туман, імжа, макрэча. На вуліцу не ткніся — наскрозь працінае. Людзі, як адзін, з сінімі

насамі, з чырвонымі тварамі. Толькі і чуеш: ангіна, запаленне лёгкіх. А тут яшчэ, кажуць, нейкі заморскі грып насоўваецца: у вялікіх гарадах ужо хварэюць на яго.

Не ўсцераглася і бабуля Аляксандра. Прачнулася ранічкай, а голаў не можа ад падушкі адарваць. Што камень. І скажы ты: адно галава забалела, а ўжо ўсё цела, як не сваё. У грудзях коле, паясніцу ломіць, рукі заклёклі. Добра, суседка зайшла, печ прапаліла, вару сагрэла (чай з малінай — лепшага лякарства няма), мяшэчак пяску накаліла (да паясніцы прыкласці — усю хваробу выцягне), размовай павесяліла.

— Я от усё мяркую і аднаго не магу сцяміць: чаго вам, бабуля, старой, адненькай, так трымацца свае хаты?! Здаецца, што яшчэ лепш — жыві сабе ў горадзе, у Валі, на ўсім гатовым, смачным. У цяпле, у дабрэ. Цешся сабе з унукаў ці то бо праўнукаў. Усё неяк з памяці выпадае, што Валя даводзіцца вам унучкай. Ну, ці ж не праўду я кажу, бабуля Аляксандра? Проста розуму не дабяру, чаму вы так у горад не хочаце. Ехаць вам трэба!

Бабуля Аляксандра слухала,ківала галавой, згаджалася і не згаджалася і ўсё думала-думала. Сказала адно:

— Заўтра мая Валя прыязджае. Выхадныя ў яе.

І ўсё паўтарала:

— Не ведаю, як ўжо дзякаваць табе, Кацечка, міленькая. Дай табе божа здароўя! І каб шчасце было і ў лецях, і ў дзецях! Разважыла мяне, старую. А то ляжу і з жыццём развітваюся. Чалавек свой лёс чуе. Дзякуй табе, суседачка!

Назаўтра па абедзе прыехала Валя. Яна сапраўды даводзілася бабулі Аляксандры ўнучкай. Расла пры ёй (маці, дачка старой, памерла ў час родаў) і доўга называла мамай, пазней то мамай, то бабай, а калі выбілася з падлеткаў, пачала заўсёды зваць бабай.

Хто староннi адразу заўважыў бы вялiкае падабенства бабулi i ўнучкi. I не толькi знешняе. Валя i крошкi падабрала ад бабулi Аляксандры. Была яна высокая i моцная, хуткая на рух i лёгкая на слова. Але нейкая нецярплiвая i нервовая. Не было ў яе той душэўнай раўнавагi i супакою, што ў бабулi. Бабуля Аляксандра i пажартуе, i ўсмiхнецца, i любога другога падтрымае добрым словам, а не тое што.

А пра ўнучку казала:

— Не смейцеся, дзеткi! Грэх з чужой бяды смяяцца. Яна ў мяне богам пакрыўджана.

I на роспыты, што з унучкай, скупа апавядала:

— Муж у яе быў, ды кiнуў з дзiцем. Новы адшукаўся. I ад яго дзiця. I той не мужчына, калi гэтак зрабiў, але ж i гэты — нi гневу, нi ласкi. От, адно слова — мужчына ў хаце! Той яе кiнуў, а гэтага яна хацела кiдаць. Я адгаварыла. Кажу: «Сорамна маладой жанчыне аднай жыць». Жывуць!..

Бабуля Аляксандра i цешылася з унучкi, што яна такая ва ўсiм самастойная, не важна, што вялiкай граматы не паспытала, i шкадавала, бо чула душой, як ёй нялёгка даводзiцца ў жыццi, i пабойвалася, бо, што нi кажы, у цяперашнiх маладых на ўсё свой розум.

Разважала:

— От, я ўсё сабе мяркую! Сама, помню, дзяўчынай была. Каб жа я калi гэтак убiвалася! От, здаецца, цяпер, бы той матылёк, лётала, радавалася, што ўсё ў мяне складам-ладам iдзецца! Працавала, гаравала, весялiлася, спявала. Але каб я калi гэтак духам занепадала!.. Свет дзiўны настаў. Кажан свае душы пан. Можа, я чаго не цямлю. Што ж, я калi нарадзiлася?! За царом Гарохам. Але не па сабе робiцца, як пачнеш прыглядацца ды меркаваць: iншы малады гадамi, а нейкi, дальбог, стары розумам. Каторыя бабы кажуць: «Ад навукi гэта! Кнiжкi ды кнiжкi». Маўляў, мазгi сушаць. Хто яго ведае! Нiчога я тутака не параджу. Нявучаная.

Мяркую толькі: цяперашнія людзі шмат ведаюць і шмат чаго прагнуць такога, пра што мы і не здагадваліся ў свае маладыя гады. А чаго ім трэба? Спытай ты іх! Нічога яны не скажуць, бо і самі добра не ведаюць. Людзі змяніліся. І свет змяніўся. Але не гэтак, каб людзям была палёгка. Іншы не жыве, здаецца, а воз за сабой цягне, а на тым возе — куча дзетак, усялякай мэблі... Цягне і азіраецца па баках, ці не абганяе хто... Старому адно дай пагаварыць. Усё як ёсць растлумачыць. Толькі слухай і запісвай. А нічога ж ён не цяміць у гэтай жытцы. Ідзе праз лес, а дрэў не бачыць. Гвалтуе: што гэта, бабы, робіцца?! Так і я — утыкаю нос, куды не след.

Як бы там ні было, бабуля Аляксандра была рада прыезду ўнучкі. Каля яе адразу адчула сябе старой-старой. Дзівілася нават сама з сябе, як гэта яна адна жыве, такая слабая і нягеглая. Ці ж не праўда, у хаце — ані солі, ані запалак: соль яшчэ ўчора скончылася, а сказаць суседцы Каці не адважылася, без таго нарабіла ёй клопату, запалкі ж не патрэбны — у попеле вугалёк гарачы заўсёды знойдзецца. І бабуля Аляксандра слухалася ва ўсім Валю. Калі Валя сказала ляжаць, значыць, трэба ляжаць. Асцярожненька распытвала, каб, крый бог, не ўгнявіць. Больш пра малых, менш пра яе самую. Валя расказвала і таксама цікавілася, што робіцца на вёсцы, хто хварэе, хто памёр, хто выехаў з вёскі, хто прыехаў, хто жаніўся, хто развёўся, хто з кім сышоўся, хто да каго прыстаў... Нечакана сказала:

— Вось што, баба, заўтра ж едзеце ў горад. Няма чаго вам тутака рабіць. Будзеце ў мяне.

Старая ад такой неспадзяванкі толькі і змагла вымавіць:

— Як жа гэта?! Вось так, адразу?..

Валя зразумела яе па-свойму:

— Хату замкнём, курэй хай Каця бярэ...

— А людзі што скажуць: «Здурнела старая Аляксандра! Спалохалася смерці, хоча ад яе ў горад уцячы. Сама ж казала, што яна ўжо даўно кругі вакол яе хаты робіць. Ноччу ў галінку бэзу перакінецца — у акенечка пастукае, у ката ператворыцца — па гары прабяжыць... А апошнім часам хваробу напусціла...»

— От так будзеш вярзці абы-што, то сапраўды скажуць, што здурнела.

— Вельмі ж ты раптам... — не магла супакоіцца бабуля Аляксандра.

Успомніла словы суседкі Каці: «Ехаць вам трэба. У горад. Да сваіх». Усміхнулася сама сабе: «А мо і праўда? Як той стары Шынкевіч. Прадаў-прадаў, што меў, і — у горад, да сына. Колькі таго часу прайшло — ідзе з аўтобуса. Кажа: «Усё! Па горадзе! У горад толькі на базар ды ў госці добра ездзіць». Цяпер жыве ў прымах у роднай хаце. Быццам і гаспадар, але не зусім: жанчына, што купіла яго хату, прыняла яго да сябе і то прымаком, то кватарантам, то блудным сынам заве... Не, ехаць старому чалавеку ў горад тое самае, што трухлявую хату перавозіць на новае месца. Глядзі, што рассыплецца па дарозе».

Але Валя (і старая добра гэта ведала) была не з тых, што гавораць і адразу ўсё забываюць:

— Вось яшчэ! Глупства! Зараз я збяру вашы рэчы. Кажыце, што браць, што не.

Валя чамусьці называла бабулю Аляксандру то на «вы», то на «ты», і гэта таксама не прайшло незаўважаным для старой. Значыцца, яна разумее, што гэта такое кінуць-рынуць усё і сарвацца ў горад. Гады не тыя! Ад такога пярэпалаху можна галавой налажыць.

— Хоць у гасцях раз пабудзеце. Малыя даўно ўсё настаюць: «Чаму баба да нас не едзе?» Кажу: «Бо не любіць вас, мусіць. Бо надта вы шкодныя».

— Навошта ж гэтак! Дзеці ўсё-такі! Верацы.. А мо і праўда ў госці да вас з'ездзіць? Гэта ж я ніколі не бы-

ла ў вялікім горадзе. Спытаюць мяне т а м бацькі, аднавяскоўцы, што т у т а к а робіцца, а я буду кашу ў ступе таўчы — вядомае расказваць, пра сваю вёску.

— Што яна гаворыць?! Там, там!..

Назаўтра яны ішлі па вуліцы. У руках Валі — пашарпаны, перавязаны шпагацінай, пукаты чамадан і сумачка. Бабуля Аляксандра дыбала ззаду, часта спатыкалася, быццам не па роўнай сцежцы ішла, і радавалася, што насустрач траплялася шмат людзей, віталася з кожным і кожнаму тлумачыла:

— У горад еду. Маладыя — усе ў горад, а нам, старым, што... Трэба наравіць сваёй долі.

Нехта пажартаваў:

— Правільна, бабуля Аляксандра, дзеда сабе знойдзеце...

І яна пасля гэтага ўсім казала:

— Можа, дзеда сабе якога заваляшчага-нігадзяшчага пападу...

Хто жартаваў, хто засмучаўся, а хто дык і спалохана пазіраў услед, і амаль усе адыходзілі з невясёлымі думкамі: пусцее на вёсцы...

Бабуля Аляксандра бывала ў горадзе неяк неўзабаве пасля вайны. Бабы ўгаварылі, маўляў, хоць здалёку паглядзіш, як гарадскія жывуць, не нам раўня, што ядуць, у чым ходзяць. Ад горада засталося ўражанне, што гэта нешта падобнае да «нардома» — двухпавярховага драўлянага будынка ў суседняй вёсачцы Паляна: клеткі, катушкі пакойчыкаў, тлум, гармідар — чалавек, здаецца, ніколі, нават ноччу, не застаецца сам-насам. Але розумам яна чула, дый Валя шмат расказвала: людзі жывуць у горадзе і ў вёсцы ім, нават вясковым, сумна. Значыць, нешта цягне іх у тую талачэчу. Што ж, на людзях, кажуць, і паміраць лягчэй!

Дзіўна, але бабуля Аляксандра не скардзілася, не ныла душою. Наадварот, праз усю дарогу да горада весяліла ўсіх і сама сябе, ажно калі прыйшоў час выхо-

дзіць недзе на самай ускраіне горада, у раёне новабудоўляў, усе, хто ехаў, развітваліся з ёю, жадалі вясёлага гасцявання, быццам ведалі яе ўсе восемдзесят шэсць год.

Ішлі ўздоўж вялікага, на тысячу кватэр, дома. Бабуля Аляксандра заўважыла:

— Але ж і хата! Што тая наша абора (так называлі на вёсцы калгасны кароўнік)!

Прайшла колькі крокаў, зноў захоплена загаварыла:

— Увесь наш калгас разам з яго пагалоўем, гаражом і гумнамі ўмясціўся б...

Прайшлі яшчэ колькі крокаў:

— У госці, на работу добра было б хадзіць: ні табе дажджу, ні табе спёкі...

Увайшлі ў кабіну ліфта:

— Кажы, на якую кнопку націскаць. Але ж і хутка, ажно ногі пацяжэлі!

Валя глядзела на бабулю і адно ціха ўсміхалася.

Малыя гвалт узнялі:

— Бабушка приехала! Бабушка!..

...Бабуля Аляксандра даволі хутка асвойталася з гарадскімі парадкамі. Тым больш што Валіны малыя хадзілі за ёю па пятах, усё паказвалі, пра ўсё расказвалі. І яна згаджалася, што ў горадзе жыць сапраўды можна, адно, каб не гэткі шум і каб паветра не такое чаднае. Горш за ўсё, што не было за што рукі зацяць, не было з кім словам-другім перакінуцца. Валі асабліва няма калі балбатнёй займацца, а тыя, хто дзень у дзень зубы тачыў на лавачцы каля пад'езда, стамлялі сваімі бясконцымі абгаворамі: той такі, гэты гэтакі... Сышліся з усяго свету, звоняць, пакуль ахвоту згоняць.

І бабуля Аляксандра ўсё часцей пачала задумвацца, чаго ёй не стае ў горадзе. Як яна ні спрабавала разважыць сама сябе, нічога не памагала. Душа ныла па далёкай, сярод палёў і лясоў, вёсцы. Душа разрывалася

паміж жаданнем быць штохвіліны з роднымі і блізкімі ёй людзьмі, а яны разбрыліся па свеце, і не сабраць іх, не склікаць. А можа, гэта была туга па страчаным назаўсёды мінулым жыцці? Або вечнае імкненне чалавека спыніць час, захаваць хоць на міг тое, што было і чаго ўжо ніколі не будзе? Ці, можа, гэта было раптоўнае адчуванне таго, як хутка імчыцца час: зусім нядаўна яшчэ яна была маладой дзяўчынай, жывыя яшчэ былі яе бацька і маці, а ўжо ў яе ёсць праўнукі? Але, гэта было вострае і такое турботнае ўсведамленне таго, што чалавек нарадзіўся і жыве, не ведаючы, дзе гэта ён, што з ім, куды ён і чаго.

У вёсцы гэтыя думкі таксама зрэдку находзілі на бабулю Аляксандру, але не гэтак бурна і знянацку. Можа, думала яна, цяперашнія людзі таму і пакутуюць, што занадта цвёрда ўведалі сваю часовасць на зямлі і немагчымасць, пры ўсім іх досціпу, нешта зрабіць такое, што перайначыла б ход свету. У вёсцы, нават сённяшняй, час цячэ сабе: зіма-лета, зіма-лета. А тут што зіма, што лета — ніякай розніцы. У вёсцы ведаеш, што калі нарадзіўся, то трэба жыць, а смерць прыйдзе, то што зробіш: прыйшла пара — ідзі з двара. У вёсцы людзі як бы згадзіліся з гэтай неабходнасцю: жывуць сабе, працуюць, гадуюць дзяцей... А гэта людзі як бы бунт узнялі супраць таго, што робіцца на свеце...

— І ні я, і ніхто іншы не навучыць людзей, дзе шукаць сваё шчасце! Кожны павінен сам, сваёй галавой дайсці да яго. Іначай нічога не будзе: чужой ласкай не нацешышся, чужым хлебам не наясіся...

Бабуля Аляксандра раптам ясна-ясна ўсвядоміла: гэта ж да яе прыйшла смерць, раз яна пачала ўжо аддзяляць сябе ад людзей. Тады і надумала вяртацца дамоў. Навошта палохаць дзяцей, Валю?!. Чакала адно моманту, каб неўзаметку выбрацца з горада. Ведала, Валя не пусціць.

Аднойчы яна, натупаўшыся па кватэры за дзень (Валя і яе муж на рабоце, дзеці — хто ў школе, хто ў садзіку), прылегла па абедзе на хвіліну-другую і праз сон пачула дзіўны спеў (потым зразумела, што гэта па радыё перадавалі канцэрт калгаснай самадзейнасці). Здавалася, спявала яе маці. А яна слухала, і радавалася, і палохалася (маці ж даўно-даўно памерла!), і помніла, што гэта толькі сон, і непакоілася, каб ён не абарваўся. А маці спявала, і гэтак жаласна, гэтак горка, што ныла сэрца і самі па сабе цяклі слёзы:

Ой, сарву я ружу-кветку
Дай пушчу на воду.
Плыві-плыві, ружа-кветка,
Аж да майго роду.

Плыла-плыла ружа-кветка
Дай стала кружыцісь.
Выйшла маці ваду браці
Дай стала дзівіцісь.

Ой, чаго ж ты, ружа-кветка,
На вадзе завяла,
Ой, чаго ж ты, мая доню,
Така смутна стала!..

Прачнулася бабуля Аляксандра — у хаце ціха, светла, чыста. І раптам заспяшалася — скідала-скідала ў чамаданчык свой скарб, стала ў парозе, перахрысціла хату, пайшла.

Яна помніла, дзе ўязджаў у горад іх аўтобус, па якой дарозе ішоў, і пакіравала ў той бок. Пешака. Падумала, што калі аўтобус здагоніць, то падбярэ, а яна тым часам пройдзе па дарозе, разважыць сябе хадой.

Выйшла за горад. Ажно спынілася, задыхаючыся ад свежасці паветра, ад прастору, які не ахапіць вокам. Падумала: «За тым лесам — мая вёска. Пайду націянькі».

## Васіль Бацькавіч

Новую раніцу Вася пачаў амаль так, як пачынаў тут свой кожны дзень вось ужо два тыдні. Крокі і ціхія галасы на кухні пабудзілі яго, але ён не расплюшчваў вачэй і адно баяўся, каб гаспадыня, якая ўжо некалькі разоў зазірала ў пакойчык, не заўважыла, як дрыжаць яго павекі. Думаў: «Як гэта ў кіно ўмеюць прыкідвацца нежывымі? У мяне ад аднаго жадання не міргаць вочы яшчэ больш ажываюць, бы праз павекі бачаць».

Потым паспрабаваў успомніць нядаўні сон, які яшчэ канчаткова не знік з яго адчуванняў. Лёгка адмовіўся ад свайго намеру, расплюшчыў вочы, але не ўставаў, чакаў, калі гаспадыня зноў зазірне,— не хацеў, каб яна ўбачыла яго тады, калі ён стане апранацца.

— Шчэ спітэ? — прачыніўшы дзверы, пацікавілася гаспадыня.

— І сплю, і не сплю,— адказаў Вася і прыўзняўся на локцях, паказваючы, што надумаў уставаць.

— То ўставайтэ,— прамовіла гаспадыня і адышла ад дзвярэй.

Зірнуў на гадзіннік, які ляжаў на падаконніку, і спалохана пацягнуўся да яго: акурат той час, калі трэба ўжо выходзіць. Успомніў: «Сёння першы ўрок».

— Ой, не хволюйтэся дарма! Вжэ ж усі нашы вучытіля, навыть і старыі, шчо ўжэ зубы з'ілы на тіму вучытільствы, хволююцця. Усэ будэ добрэ! — праводзіла Васю гаспадыня.

— Ды ўжо ж неяк будзе,— адгукнуўся Вася.

Асцярожна, каб не абрасіцца, ступаў па сцяжынцы ў бульбоўніку. Хацеў скокнуць цераз калючы дрот, працягнуты між двума слупкамі, але ў час прыгадаў, што ён ужо не студэнт і не дома на канікулах. Зняў дрот са слупка, прайшоў і накінуў дрот на месца: «Вось так, народны вучыцель!» Усміхнуўся, успомніўшы аднакурсніка Сяржу Гайко, як той, калі находзіла натхненне, лоўка падрабляў голас дэкана: «Што такое народны вучыцель? Народны — гэта значыць той, хто жыве з народам, хто жыве ў народзе, хто не адрываецца ад народа...» Меншае запас паветра ў грудзях дэкана — цела нахіляецца наперад, правая рука, якой ён узмахнуў, цяжэе, апускаецца, голас цішэе, інтанацыя паскараецца. Дэкан на ўсе грудзі ўздыхае і вымаўляе зноў, ледзь не крычыць: «Народны вучыцель!» На гэтыя словы ідзе палова запасу паветра, і далей чуецца хуткае і доўгае, да хрыпаты ў голасе: «Та! Та. Та-та. Та-та-та-та-та-та-та... Та!»

Зірнуў у адзін і ў другі канец вуліцы, быццам ён быў у горадзе, нікога не ўбачыў і ледзь не ўголас падумаў: «Цудоўна!» Але адразу схамянуўся, быццам на яго зноў глядзеў Гайко, насмешнік і гіронік: «О, цуд, цуд! Пачынаўся новы працоўны дзень. Яшчэ не ўзышло сонца. Быў той час, калі школьнікі сама што бачаць свае лепшыя сны, калі брыгадзір, перад тым як прачнуцца, апошні раз мармытнуў: «Сённечка жніво!» Не спалася толькі маладому настаўніку, які шыбаваў у школу, што была проці клуба на ўзгорку».

Вася перайшоў нізіну і «пашыбаваў» на пясчаны ўзгорак. Ціха, каб не загрузнуць у пяску, які вельмі ж наліпаў на аброшаныя туфлі, ступаў у нечыя сляды («А ты думаў: Палессе — гэта дрыгва, дрыгва, дрыгва, і жывуць пасярод балота дрыгавічы»), баяўся варухнуць шыяй, каб нацягнутая палоска гальштука не

вылезла з-пад паска, локцямі ссоўваў з клубоў штаны, якія не ў час падкараціў.

Нарэшце-такі выплыў на грэбень пясчанай выспы, у якую зарыўся двухпавярховы будынак праўлення калгаса: першы паверх — белы цагляны, другі — драўляны. З аднаго боку знаходзіўся ў фінскім доміку аддзел сувязі, з другога — доўгі прыземісты будынак школы. Пад плотам дзе-нідзе ліпелі кусты пырніку, зямля была цвярдзейшая, і Вася пайшоў лёгка і хутка. У вокнах праўлення паспеў заўважыць свой адбітак. Ацаніў сам сябе: «Аніякай самавітасці! А яшчэ гэта недарэчная ўсмешка. Толькі хто звернецца да яго, усмешка, як паплавок, усплывае наверх. На педпрактыцы крыкне на вучня і тут жа ўсміхнецца: самому смешна, што навучыўся крычаць на людзей, і вучні прыціхнуць, але ўбачаць усмешку і ажываюць».

Праскочыў брамку, пастукаў абцасамі аб парог, азірнуўся і ўвайшоў у цемнаваты калідор. Павесялеў: убачыў стэнд, які абцягваў у першы дзень сваёй работы чырвонай тканінай (іншага занятку пакуль што не было), плакат, які прыбіваў над дзвярыма настаўніцкай.

У настаўніцкай — вясёлы вэрхал. Увайшоў, у парозе прыпыніўся, бы ўсё яшчэ чужаніца.

— Добры дзень! — аббег вачыма ўсіх і збянтэжыўся: атрымалася так, што быццам больш за ўсіх вылучыў увагай дырэктара, здалося, што ўсе, хто быў у настаўніцкай, адзначылі гэта і прыціхлі.

Зрабіў шырокі, быццам цераз канаву скакаў, крок да стала, за якім сядзелі настаўнікі. Паспакайнеў, калі праціснуўся за стол і схаваў за доўгім абрусам ногі. І ўжо да самага званка не выходзіў.

Вася ведаў ужо ўвогуле, што робіцца ў калектыве, і адчуваў, што, хаця размова ішла пра нядаўнюю раённую настаўніцкую канферэнцыю, супярэчнасці, якія свяціліся ў кожным слове, кіравалі кожнай інтанацы-

яй, даўнія. Падумаў: «Як бы там ні было, слухаць усё гэта — непрыемна. Гайко сказаў бы — быццам супакоіў: «Звычайная фракцыйная барацьба!» А мо барацьба дабра са злом? Га?!»

— Хоць раз пахвалілі нашу школу,— сказала завуч Ларыса Канстанцінаўна.

Не знаёмая Васю настаўніца, што сядзела на канапе, мілавідная і, мабыць, капрызная, адразу ж запярэчыла:

— Іх пахвала, як і ганьба, заўсёды суб'ектыўныя. Заўсёды!

— Ну, нельга так казаць, што заўсёды,— не згаджалася завуч.

— А-ай, што там ужо гаварыць! — адмахнулася настаўніца, так і не выказаўшы сваё, набалелае.

Радамір Васільевіч, той самы, які, убачыўшы Васю, сказаў: «Дурны! Чаго ты пёрся ў гэту глуш? Чытаў «На ростанях»? Дык вось — «палеская глуш»!» — не гледзячы ні на кога, раскручваючы аўтаручку, заўважыў:

— Ёсць там за што яе хваліць,— і, каб не слухаць пярэчанняў, маўляў, я сказаў тое, што хацеў сказаць, павярнуўся да Васі: — Ну як, Андрэевіч, справы?

— Як справа, так і злева,— нечакана рэзка адказаў Вася. А то ўжо, мабыць, лічыць пасля той размовы, што ты ды я ды мы з табой.

— Не страшна, Васіль Андрэевіч? — пацікавілася завуч.

— А што там такога?! — за Васю адказаў Радамір.— Першы ўрок — не першае каханне! Так, Андрэевіч? — пацягнуўся рукой да Васі.

Вася міжволі ўсміхнуўся: «Мір, мір, Радамір!»

У калідоры пачуўся шум.

— Сышліся ўжо...

— Зноў гэтыя...

— Так ужо і гэтыя!

Падаў голас дырэктар. «Ён,— падумаў Вася,— вядома, знаходзіцца над бойкай. Ездзіць адно на пасяджэнні ў раён, выбівае школе сродкі, дэфіцыт, ды час ад часу наводзіць парадак і дысцыпліну ў класах». Дырэктар, азірнуўшы спадылба настаўнікаў, спытаў:

— Хто ў нас сёння дзяжурны?

— Яшчэ няма дзяжурных,— абрадаваўся выпадку чым-небудзь заняцца высокі, хударлявы настаўнік і выйшаў уціхамірваць жэўжыкаў. У адчыненыя дзверы адразу ж зазірнула некалькі пар цікаўных вачанят. Вася зрабіў выгляд, што заняты: адгарнуў сшытак і паспрабаваў успомніць план першага ўрока, над якім ён столькі думаў учора. «Літаратура — гэта чалавеказнаўства. Другі пункт...» Зазірнуў у сшытак: «Чалавек — гэта цэлы свет». Хуценька загарнуў сшытак, бо вока падглядвала ўжо далей.

Радамір тым часам нешта надумаў:

— А ў якім жа хоць класе ў яго ўрок?

Ларыса Канстанцінаўна, непрыхільна зірнуўшы на яго, паспяшыла апярэдзіць яго здзіўленне — сказала спакойна, як пра нешта звычайнае:

— У дзесятым.

— Ого! Шанцуе табе, Андрэевіч!

— Шанцуе...— згадзіўся Вася. Падумаў: «А то не! Дарослыя людзі! Дваццаць сем чалавек — дваццаць сем «светаў». Светаў, Алесяў, Ядвісяў... Недзе ж тут недалёка, па суседству, і Лабановіч працаваў...»

Званок, як ні чакалі яго, узрушыў усіх. Вася, дык той ужо ўхапіў класны журнал, свае планы, кніжкі.

— Не спяшайся, Андрэевіч. Хай трохі астынуць...— асадзіў Васю Радамір.

Вася згодна кіўнуў яму галавой: «Чалавек са стажам, вопытны, трэба паслухацца».

Усміхнуўся Ларысе Канстанцінаўне, якая сказала:

— Мы вас пакуль што не будзем трывожыць. На ўрок ідзіце адны,— усміхнулася: — Ну, ні пуху...

— І пух і пер'е будзе,— пацёр шчокі Вася.

У клас ён не ўвайшоў, а ўскочыў: «Зараз, зараз! Зараз упершыню пачуюць твой голас, адчуюць да цябе сімпатыю ці абыякавасць... Што іменна?!» Хутка падышоў да стала, агледзеў клас: «Ого, колькі вас!» Вытрымаў момант, як патрабавалі таго розныя методыкі і парады: «Супакоіліся? Тады можна пачынаць!»

— Добры дзень! Мяне завуць... Я ў вас буду... А з вамі я пазнаёмлюся ў час работы... Сядайце.

Незадаволена падумаў: «Ах, халера! Адкуль узялося гэта: «З вамі пазнаёмлюся потым. Я чалавек справы. Кожная хвіліна для мяне мае вялікае значэнне...»? Як табе не хапае часу на знаёмства! Не добра. Вучні любяць знаёміцца — і саму працэдуру, і тое, што час бяжыць. Каб быў Гайко, сказаў бы, быццам пахваліў: «На гэтым уроку паважаны Васіль Андрэевіч (выразны позірк у бок Васі) прымяніў эфектыўны метад — адразу ўвёў клас у атмасферу творчай працы».

— Што такое літаратура? — пачаў Вася.— Многія думаюць...— і ён пераказаў усё, што памылкова адносяць да вялікай літаратуры.— Літаратура, сапраўдная літаратура — вось гэта.— І ён прачытаў урывак з аповесці Чорнага «Лявон Бушмар», як перажывала маленькая гераіня прыніжанасць свайго бацькі, да якой сам бацька прывык і не толькі не заўважаў здзеку з сябе, але і лічыў, што інакш не можа быць.

Вася і не прыкмеціў, калі адступіўся ад свайго выдуманага двайніка, строгага і патрабавальнага. Гальштук ужо выпінаў на грудзях, на твар выплыла тая самая недарэчная ўсмешка, якую ён так упарта зганяў.

Першую палову ўрока Вася бачыў вучняў быццам на другім баку ракі, тупаючы на сваім, не ведаючы, як перабрацца на той бераг. Сам не заўважыў, як кінуўся ў раку і паплыў... Амаль увесь урок ён прастаяў

каля стала і блізка бачыў толькі дзвюх дзяўчат, якія сядзелі за першай партай і спалохана і адначасова зацікаўлена глядзелі на яго. Расказваў і ў думках напамінаў сабе: «Адно не гавары гладка! Чапляй іх словамі простымі і нечаканымі! Не давай заснуць!» Скончыў. Запытаў:

— Ці ўсё зразумела? Ці ёсць пытанні?

Вучні адразу аціхлі. Сёй-той унурыўся позіркам перад сабой, некаторыя глядзелі дзёрзка і насцярожліва.

— Ну, добра! Пойдзем па знаёмай сцяжынцы. Вось вы, калі ласка... Як ваша прозвішча? Што вы скажаце...

Зазвінеў званок. Вучань раптам ажыў — шырока ўсміхнуўся. Астатнія, быццам і не было таго званка, ніводзін не зварухнуўся. «Баяцца! Нагнаў строгасці... А мо цябе не хочуць бянтэжыць?..» Усміхнуўся:

— Што ж, шанцуе вам... («Чэрці!»)

Зачыняў дзверы за сабой і чуў, як у класе адразу стала шумна: «Мабыць, збегліся ў кучу і абмяркоўваюць: «О!» — «А-ат!» — «Ага!» — «Пабачымо». Увайшоў у настаўніцкую.

— Ну як?..

Хацеў адказаць, але яму падалі пісьмо: «З дому. Нечы незнаёмы почырк...»

Увайшла завуч:

— Ну, Васіль Андрэевіч, віншую з пачаткам. Я толькі што была ў вашым класе. Кажуць: «О — строгі!» А дзяўчаты: «Строгі і сарамлівы!» Адным словам, віншую!

— Дзякуй,— усміхнуўся Вася, разарваў канверт, выцягнуў лісткі. Пісалі суседскія хлопцы — сябры яго малодшага брата.

«Здрасце, Васіль Бацькавіч!

Мы гуляем цяпер у дурня, і той, хто яго атрымае, сказаў твой Колька, павінен напісаць табе пісьмо. Я ўжо адхапіў аднаго і мушу пісаць табе пісьмо. Вось

ты прыходзіш у клас, выклікаеш вучня. У яго дрыжаць каленкі і перасохла ў горле. Ён не вывучыў урок. Ты яму ставіш «кол». Дык вось, малады вучыцель, калі ты будзеш ставіць «калы», то лепш да нас не прыязджай, бо адлупім!

*Косцік».*

«Здароў, Васіль, што ў Кіях сена касіў!

Я таксама зарабіў дурня і пішу табе пісьмо. Калі ты будзеш ставіць вучням двойкі, то лепш да нас не прыязджай, бо мы цябе ўб'ём. А калі прывязеш цукерак, то чапаць не будзем.

Будзь здароў і болей не кашляй!

*Твой друг Пеця.*

Пісьмо скончылася. Ура!!!»

## Эрыка

У яе было сэрца, няхай сабе толькі звычайная, як у многіх механізмах, спружына, але гэта было яе сэрца. І, як усякае сэрца, яно адчувала, хвалявалася, жыло.

Гэта была надзейная, на доўгі век, як і ўсе механізмы, што робяцца немцамі, пішучая машынка «Эрыка».

Сваёй маладосці, калі яна ззяла і пахла чорным лакам і на яе абліччы не было ніводнай драпінкі, калі яна мякка выстуквала лацінскімі літарамі суровы загад нямецкага каменданта, Эрыка не памятала. Ёй да душы была яе работа. А што яна друкуе, што азначае слова «schiessen»[1], яе абыходзіла. Калі яна друкавала гэта слова, паўзунок даходзіў да канца, і Эрыка, баючыся не паспець у час перайсці на наступны радок, зрабіла памылку ў гэтым слове — уставіла «l», атрымалася «schliessen»[2], паўзунок падышоў акурат да канца, і Эрыка тоненька, меладычна дзынкнула — яе рассмяшыла гэта памылка.

Стаўшы трафейнай, ці, як яе хто-ніхто называў, «паланянкай», Эрыка сердавала, што ніхто вельмі не цікавіўся ёю, чужой і незразумелай, занадта яркай і зіхоткай. У яе ледзь не закружылася галава ад знаёмых-незнаёмых пахаў гары і машыннага масла, калі яе перавярнулі і памацалі яе дроцікі і калёсікі рукі чалавека, якія зналіся па розных механізмах. А ён паставіў яе на месца і, паспрабаваўшы, як яна друкуе, сказаў дру-

---

[1] Schiessen — страляць *(ням.)*.
[2] Schliessen — канчаць *(ням.)*.

гому, які пазіраў на яго з надзеяй: «Машына — зер гут!» Чалавек павырываў свінцовыя лацінскія літары, і Эрыцы ўпершыню стала балюча. Потым ён прыпаяў таксама свінцовыя, але найчасцей незнаёмыя літары, зробленыя няроўна і груба.

Эрыка ўжо нядрэнна, калі не зважаць на асобныя памылкі і стамляючую марудлівасць, з якой яна выбірала літары, друкавала на рускай і беларускай мовах. Колькі лістоў яна прайшла ад верху да нізу, а ўсё не разумела, чаму людзей гэтак хвалявала яе праца, бо душу яе запаланіла крыўда на тых, хто, вядома ж, не паважаў яе, называючы Лісты словам з жаночым суфіксам — Лістоўка. Можа, таму Эрыка часта спынялася, і літары на лістоўцы збіваліся ў адну чорную пляму.

З партызанскай яна стала калгаснай. У калгасе, вядома, гаспадароў шмат было — хто сядзе за машынку, той і гаспадар. А ў такім разе не тое што пішучая машынка — трактар распаўзецца на часткі. Ды і што гэта была за работа, калі на ёй дзень у дзень друкавалі нейкія справаздачы, адказы, загады, якія прачытваў па некалькі разоў старшыня, крэсліў якую-небудзь лічбу ці слова, і з-за гэтага даводзілася перадрукоўваць цэлую старонку.

Дзень у рэшце рэшт падыходзіў да канца, і тут змучаная і знерваваная Эрыка пераходзіла ў рукі чалавека, які, тыцкаючы ў клавішы адным пальцам, друкаваў нейкія нікому не патрэбныя блытаныя запіскі:

«Тав. Анцівоніку!

25 студзеня сяго года Вы павінны ехаць на пасяджэнне да 11.00 дня ў Пінск. Макранскія таварышы чакаюць Калечка і едуць з ім у Азярод. Скурыхін чакае ў Пінску або прыязджае ў Азярод. Валішчаўскія чакаюць у Валішчы, Азяродскім ад'езд у 9.00. Быць усім у абавязковым парадку.

Намеснік старшыні калгаса «Раёўка» Лянюк».

Эрыка, здаецца, ведала ўсё, што рабілася ў калгасе, але зразумець што-небудзь так і не змагла. Мабыць, таму яна так абрадавалася магчымасці перайсці на работу ў школу, дзе ўсё было куды прасцей.

Некалькі дзён Эрыка была ў прыўзнятым настроі і такіх памылак нарабіла, што смяяўся і дырэктар, і настаўнікі — усе, хто вучыўся друкаваць. Працы хапала і тут, але Эрыка заўсёды бачыла вакол сябе шмат людзей, асабліва калі друкавала насценгазету. Ад радасці яна [redacted] кожным ударам па клавішы дробненька падскоквала і памалу ад'язджала ўлева. Калі ж яна друкавала вершы школьных паэтаў, то ніколі не спяшалася, каб не нарабіць памылак: разумела, якія далікатныя сэрцы ў паэтаў.

Эрыка ўсё хацела запомніць адзін верш, у якім была белая прастора аснежаных палёў, зорнае неба і здань чалавека, які глядзеў на ўсё гэта. І яна запомніла б, бо друкавала яго некалькі разоў: спачатку ў насценгазету, потым у школьны альманах, нарэшце, для маладога настаўніка літаратуры, але словы верша на стужцы паступова забіваліся другімі, і з кожным разам усё цяжэй было вычытваць іх.

Эрыка гэтак прывыкла да школы, што адразу пазнавала, хто друкуе на ёй.

Дырэктар здаваўся ёй неблагім чалавекам, які клапаціцца аб школе, але ёй не падабалася адно ў ім — імкненне запісаць усё, што ён гаварыў, рабіў, каб ніякая камісія, ніякі інспектар не маглі прычапіцца: усё запісана, значыць, было.

Завуч, наколькі паспела заўважыць Эрыка, была іншай думкі на гэты конт. Гадавыя справаздачы або адказы на розныя запытанні з раёна яна пасля доўгіх спрэчак з дырэктарам друкавала сама або яе муж, таксама настаўнік. Галоўнае, лічыла завуч, і Эрыка была цалкам з ёю згодна,— вучыць, выхоўваць, а не пісаць паперкі. Можа, таму яна часам прасіла падрукаваць

маладога настаўніка літаратуры, які ахвотна згаджаўся,— хацеў навучыцца добра друкаваць.

Важатага і лабарантку Эрыка ведала таксама. Яны друкавалі заўсёды разам: яна чытала, а ён выстукваў адным пальцам па клавішах, у другой руцэ трымаючы папяросу. Эрыка разумела, што трымае іх разам, і трохі зайздросціла ім.

Адзін ужо немалады настаўнік (Эрыка чула, што ён ірвецца да дырэктарскага партфеля) на машынцы любіў друкаваць даведкі, загады, быццам жартам: «Ну, напячатаем мы загад на Сямёна Мікалаевіча (так звалі маладога настаўніка)». Надрукаваўшы, выцягваў ліст з машынкі, любаваўся сваёй работай, паміж словамі «дырэктар школы» і сваім прозвішчам ставіў подпіс і маляваў цыркулем круг — пячатку.

Другі, пажылы ўжо настаўнік (казалі, што ён быў калісьці дзесьці дырэктарам школы, але не змог звесці ў адно расход сродкаў з прыходам), які лічыў сябе самым разумным, бо ведаў усе законы і пастановы, вядома, тыя, што былі на яго карысць, падбіваў штораз «прэтэндэнта на дырэктарскае крэсла» надрукаваць ананімку: «Машынка — бязлікая рэч. Ніякая халера не разбярэ, хто напісаў, а на пісьмо вымушаны будуць зрэагаваць — дадуць вымову або зусім здымуць, і тады ты — дырэктар. Адно ж на сваіх не забудзься»,— весела заканчваў ён.

Валяр'янаўна хаця і настаўніца, але, як звычайная вясковая жанчына, баялася машынкі: можа, паломана, а яна акурат падыдзе, і дырэктар накрычыць. І яна іпла, садзілася на канапу і адчувала сябе проста і лёгка сярод маладых настаўніц — Любові Іванаўны і Любові Пятроўны, якія, зацягнуўшы ўжо і без таго зглумлены перапынак (начальства не было ў настаўніцкай), друкавалі скаргу на Сяргея Мікалаевіча ў таварыскі суд за тое, што ён, малады, цікавы, а самае галоўнае — халасты, аніяк не зважаў на іх. Ён — раз-раз — сту-

каў па клавішах і псаваў усё іх пісанне. Узнімалася валтузня. Яго рвалі за рукі, цягалі за валасы, круцілі вушы. Ён абараняўся. Але рук не хапала абараняцца — ляцелі гузікі, перакульваўся стол, і машынка грымела на дол.

Эрыка ніяк не выяўляла свайго абурэння, і была ў гэтым сэнсе сапраўднай жанчынай: якая жанчына скажа, што яна раўнуе! Ёй толькі карцела парадзіць хлопцу, каб асцерагаўся іх, бо яны, такія злыя, хцівыя, абкруцяць, як бач, і яна сказала б, але змоўчала, бо хавала ў сабе адну таямніцу.

Эрыка бачыла, як аднойчы ён сядзеў за партай побач з дзесяцікласніцай, якая дыктавала, а ён друкаваў, яна нешта не зразумела ў заметцы, і ён нахіліўся да яе (валасы яе казыталі яму вуха), паклаў руку на яе руку, і яна не адбірала рукі, а сумелася, і абое пачырванелі, потым ён надрукаваў вялікімі літарамі: «Я КАХАЮ ЦЯБЕ, ЛЕСЯ!»

Эрыка была тады такой шчаслівай, быццам гэта яе нарэшце пакахалі, і заўсёды потым прапускала стужку ў тым месцы, дзе былі надрукаваны словы: «Я КАХАЮ ЦЯБЕ, ЛЕСЯ!»

Прапускала, каб не забіваць іх словамі абыякавымі і халоднымі.

# Сябры

Сярод трыццаці чалавек «трэцяй гвардзейскай», як называў нашу роту камбат, сяржант Кацілас заўважаўся адразу. Цяжка сказаць, што рабіла яго адметным. Хутчэй за ўсё нішто паасобку. Як бы там ні было, але я дык адчуваў сябе каля яго няёмка. Усё ніяк не мог адвыкнуць ад цывільнага жыцця. Хоць бы сабе сёння: ужо было ўключана святло і прагучала каманда: «Пад'ём!», а я не спяшаў скідваць з сябе коўдру і займаць сваё месца ў страі. Вяла апраўдваўся:

— Па камандзе «Трывога!» я падхаплюся ў імгненне вока...

Вядома, я згаджаўся з усімі, хто казаў на Каціласа, што ён узор таго, як трэба служыць:

— Яніс — мужчына!

А гэта была найвышэйшая пахвала ў нашай роце.

Кацілас прачынаўся, як і патрабавала яго пасада «замкамузвода», раней за нас на дзесяць хвілін. Апрануты, падцягнуты, з усмешкай назіраў за неразбярыхай у момант пад'ёму: хлопцы — хто скакаў з другога яруса ложкаў на дол, часам каму-небудзь на галаву, хто блытаў гімнасцёрку з галіфэ, левы бот з правым, хто выбягаў на месца пастраення паўголым...

Чулася каманда, і агульнае ўзбуджэнне аціхала. Кацілас выходзіў на сярэдзіну, паволі азіраў шарэнгі. Яго позірк спыніўся на мне, і я заўважыў у ім з'едлівую насмешку з майго, мабыць, заспанага і незадаволенага выгляду. І я не вытрымаў:

7 Зак. 1545

— Таварыш сяржант, а мы з вамі — землякі!

Напэўна, я што-кольвек кеміў у чалавечай душы, бо Кацілас не адчуў падману:

— Як гэта?!

Хлопцы насцярожана, усмешліва, абыякава, хто як, пазіралі на мяне.

— Пад адным сонцам парцянкі сушым.

Заўважыў, што жарт не спадабаўся яму, растлумачыў:

— Гэта беларускі жарт такі ёсць!

— А-а...— супакоіўся ён: маўляў, супраць беларусаў я нічога не маю.

Тым не менш не змоўчаў:

— Вас, Вярэніч, хлебам не кармі, дай толькі пагаварыць.

Фіззарадку мы звычайна праводзілі з камандзірамі аддзяленняў. Сам жа Кацілас бег колькі кругоў вакол стадыёна, ішоў у казарму і доўга махаў гантэлямі, потым гойдаўся на брусах, круціўся на перакладзіне, клаўся на падлогу і падымаў штангу. Разважаў быццам сам з сабой:

— Я люблю, каб да поту. Гэта лішняя вада выходзіць.

У мыцельніку, абліваючыся да пояса халоднай вадой, пасмейваўся з мяне, што я адно прыкладваю мокрыя далоні да твару, замест таго каб памыцца:

— Вы, Вярэніч, не любіце ваду. З вады — чалавек, жыццё...

— Вы, таварыш сяржант, хочаце сказаць, што я не люблю жыццё і што я наогул чалавеканенавіснік?

— Не трэба ісці ва-банк, Вярэніч.

Іншым разам я распачаў бы доўгую дыскусію, прыкідваючыся жартаўлівым там, дзе кажу ўсур'ёз, і сур'ёзным там, дзе жартую. Але якая можа быць дыскусія ў мыцельніку!

Кацілас жа, расціраючыся ручніком да чырвані,

ужо расказваў нешта радавому Залiваку, майму суседу па ложку. Я прыслухаўся.

— Мой сябра з Латвii,— казаў Кацiлас,— падпiсаў мне фотакартку: «Без смага баласта...» Гэта па-латышску. А па-руску: без цяжкога баласту, не, мабыць, дакладней — без неабходнага баласту карабель кiдае на хвалях, карабель плыве, куды вецер дзьме...

Я быў бы не я, каб не ўмяшаўся ў размову:

— Кожны шафёр ведае, што гружаную машыну не так шпурляе ў бакi, як парожнюю,— пагардлiва зiрнуў на Залiваку: маўляў, табе тут казаць няма чаго, i вельмi здзiвiўся, калi той нечакана дадаў:

— Заведзены гадзiннiк цяжэй незаведзенага.

Яны зарагаталi, гледзячы на iх, рассмяяўся i я.

Неўзабаве па селектару загадалi: «Рота! Выходзь на пастраенне!» Пастроiлiся перад казармай хутка: якнiяк на сняданак iдзём! На Залiваку накiнулiся: мала што спазнiўся, затрымаў усiх, дык яшчэ ў запявалы палез са сваiм дзяркатым, быццам у падлетка, галаском: «Мы — радысты, мы — асы эфiру!»

— Таварыш сяржант! Навошта гэты глум над нашым слыхам?! — гукнуў я Кацiласу, i ён лёгка згадзiўся са мной. Заспяваў, а мы, хто як умее, падхапiлi:

Эх, все мы парни обыкновенные!
И недаром мы сильны
Той дружбой солдатской верною,
Что побеждала в дни войны.

Што ж, дзень як дзень! Заняткi, як у салдацкай прымаўцы: страявыя i тактычныя, баявыя i фiзiчныя.

Кожны знаходзiўся разам са сваiм аддзяленнем, i Кацiласа я не бачыў да самага полудня. Папалуднаваўшы, iшоў паволi да казармы. Заўважыў на спартпляцоўцы Кацiласа i Залiваку. Голыя да пояса i босыя, яны круцiлiся па чарзе на турнiку. Падышоў:

— Хто ж гэта пасля яды на перакладзiне круцiцца?!

Яны, быццам не чулі, маўчалі.

Раззлаваўся:

— Чакайце! Паказваю: практыкаванне спецыяльна для салдатаў другога года службы! — разбегся, ухапіўся за стойку турніка і, павісшы на ёй, праехаў вакол.— Ну як? Гэта практыкаванне для «старых»! А маладзенькія, зялёненькія «гусяняткі» няхай на перакладзіне працуюць. Ім гэта трэба! Ім яшчэ служыць і служыць!

Першагодак Залівака не ўтрываў:

— «Старым» сама раз цераз «каня» скакаць!

«Эйч, маладзён! — падумаў я.— Знайшоў спосаб уесці!» Пагардліва перасмыкнуў плячыма і пайшоў прэч. Чуў адно, як Кацілас гарачыўся, даводзячы таму, што ён памыляецца, гэтак кажучы пра мяне:

— Вярэніч не такі просценькі, як вы ўсе думаеце!

Ну, каюся, быў такі выпадак: неяк на фіззанятку натрапіў генерал і, хаця меў за пяцьдзесят год, прынамсі, з выгляду, паказваў мне, як трэба скакаць цераз «каня». Абяцаў нават дзесяцідзённы адпачынак, калі толькі адолею яго...

Пасля полудня нечакана атрымалі загад: едзем грузіць лес.

Я згаджаюся з Кацiласам, які кажа:

— Пабудзем на свежым паветры!

— Папрацуем! Што яшчэ трэба чалавеку!

Залівака, як звычайна, не ў настроі. Нічога не зробіш — такі ў яго характар. Кацілас тым не менш спрабуе падвесяліць яго:

— Залівака, дарагі! Бярыце прыклад з Вярэніча!

Я, чуючы гэта, падбіраю жывот і выпінаю грудзі, быццам мне аб'явілі падзяку перад строем.

— Праца ўзвышае чалавека,— кажа Кацілас.

А я ўсмешліва думаю: «Яму можна гэтак казаць. Высокія словы ў вуснах высокага чалавека».

Едзем на аўтамашыне па горадзе. А гэта для салда-

та — ужо радасць. Залівака нечакана перамяніўся, пачаў жартаваць:

— Таварыш сяржант! Спыніце машыну! Што вы робіце? Вунь дзяўчына пайшла, а вы — міма!

Разгаварыўся — аж занадта. Як шмат ён кахаў (як толькі сэрца вытрымала!), колькі дзяўчат не спіць з-за яго начамі (пачынаў лічыць на пальцах). Пра «самае-самае» расказваў як бы нават абыякава:

— Ну, ведаеце, мы ў пакоі адны. Паўзмрок. Віно. Магнітафон. Карацей, як мужчына я дасягнуў свайго...

— А як яе імя? — спытаў я.

Залівака, не прыкмячаючы іроніі ў маім пытанні, адказаў:

— Маша!

— А ты ж неяк казаў, што Саша?!

— А яшчэ раней,— смеючыся, дадаў Кацілас,— яе імя было, памятаецца, Даша!

Усе дружна зарагаталі.

Кацілас жа праз смех гаварыў:

— Ну як, скажыце, Вярэніч, яго пускаць у звальненне аднаго, без нагляду?!

— Дык вось чаму мяне ў звальненне не пускаюць! — дапетрыў Залівака, і ўсе зноў зарагаталі.

— Залівака, ён такі,— падтрымаў я Каціласа,— пра ўстаў забывае, як толькі спадніцу ўгледзіць.

Зноў — рогат. Не таму, што смешна, а настрой такі.

Засталіся ззаду чыгуначны пераезд, складскія памяшканні, горы мінеральных угнаенняў і антрацыту. Грузавік спыніўся каля скіданых у непарадку бярвенняў.

— Браткі, пусціце мяне да работы! — ірваўся наперад Залівака.

А Кацілас ужо камандаваў:

— Адкрывайце барты! Кладзіце лагі! Бярыся за камель! Залівака, не лямантуй, памагай!

Не сказаць, каб умела, але хутка ўскацілі адзін рад

бярвенняў на грузавік. Кацілас узабраўся наверх. Ён і ў гэтай простай справе шукаў спосабу рацыяналізаваць пагрузку. Заносіў канец бервяна, трымаў, пакуль хлопцы ўзвальвалі на прычэп другі канец.

Пайшлі тоўстыя, склізкія, нацягнутыя вільгаццю камлі, што ляжалі на самай зямлі, у неглыбокай канаўцы. Адзін ужо амаль ускацілі на грузавік, як я заўважыў, што лага з боку, дзе быў Залівака і яшчэ адзін хлопец, ледзьве ліпіць і вось-вось выкаўзне з-пад берваньчука. Гукнуў:

— Сцеражыся!

Лага гупнулася на дол, і бервяно хістанулася, паехала ўніз. Каб не Кацілас, які, звесіўшыся з кузава, трымаў рукой камель, і не Залівака, які ажно з твару пабарвовеў ад натугі, яно ўпала б, і хто ведае, што было б. Падбеглі хлопцы і лёгка закінулі бервяно ў кузаў. Як заўсёды, страх ахапіў пасля таго, як прычына для яго мінула. Залівака адно вымавіў працяжна:

— Ну і ну!..

— Ну як, сябры! — зірнуў весела на нас Яніс Кацілас. Звычайна ён першы адыходзіў ад толькі што перажытага і настройваў іншых на бадзёры і жартаўлівы лад.— Працуем?

— Хто працуе, таму і шанцуе! — падтрымаў яго я. Залівака дадаў:

— Хто ззамаладу працуе, той на старасць пануе!

Мы зірнулі адзін на аднаго і засмяяліся.

Назад ішлі пешым строем. Стомленыя, брудныя, маўклівыя. Кацілас ішоў наўзбоч са спакойным выглядам чалавека, які ведае, што ён нездарма пражыў дзень. З адчуваннем сваёй годнасці вітаў старэйшых па званню, якія трапляліся насустрач. Некаторыя з іх нават азіраліся на яго, і я, заўважаючы гэта, міжволі неяк іначай пачынаў глядзець на нашага сяржанта.

Па звароце ў казарму чысціліся, мыліся, рыхтаваліся да вячэры. Кацілас зноў, як і раніцай, мыўся, раз-

дзеўшыся да пояса, з задавальненнем фыркаў і развабажаў нібыта сам з сабою:

— У нас на вёсцы кажуць: «Дзень мой — век мой!» Па-мойму, здорава сказана, га, Вярэніч?

Я ківаў яму галавой, згаджаючыся. Лавіў сябе на думцы, што са мной нешта сталася за гэты час. Прынамсі, мне не карцела цяпер чапляць Каціласа, пасмейвацца над ім. Не, не таму, што стаміўся...

Пасля вячэры быў вольны час. Залівака падшываў каўнерык, чысціў абутак, глянцаваў да бляску гузікі, я марнаваў час, седзячы перад экранам тэлевізара. Каціляс пісаў пісьмо. Зірнуў на мяне, калі я праходзіў міма, і, хоць я яго не пытаў аб гэтым, сказаў:

— З дому пішуць, што на моры каторы дзень стаіць штармавая пагода. А я па пісьму пра гэта здагадаўся: калі яшчэ рыбаку выпадае час пісьмы пісаць!

— Салдату — таксама: пад час трывог і вучэнняў не надта распішашся,— сказаў я.

На вячэрнім пастраенні Каціласа не было: яго выклікаў дзяжурны па штабу. Я стаяў у страі, пазіраючы на камандзіра аддзялення, якога мы, калі побліз не было начальства, называлі па-свойску: «Алёшка». Слухаў, якія каму заўвагі ён даваў, і думаў пра сваё.

Мы ўжо клаліся спаць, калі прыйшоў Каціляс. Зірнуў на нас, быццам сказаў: «Мне б вашы клопаты!»

Засынаючы, я чуў яго спакойны, разважлівы голас: ён зноў некаму нешта тлумачыў, даводзіў...

Не заўважыў, як прыйшоў сон. Снілася, што мы бяжым вакол стадыёна. Уражанне, быццам пад нагамі не калючая гравейка, а лясная тупкая сцяжынка. Каціляс спачатку бяжыць побач, але хутка выходзіць наперад. Я чым далей, тым болей адстаю. А ён ужо недзе далёка і не бяжыць, а ляціць... Пад ім — марскія хвалі, шэрыя і сцюдзёныя...

## Пеўнеў лес

Капалі бульбу, і Цішка, увесь як ёсць у рабаціннi падлетак, з дня ў дзень вятрэў на агародзе. Капалі і сёння, хоць была нядзеля. Наперадзе варушылася на градах з драпачкай у руках маці. Маленькая і тоўстая ад панадзяваных адзежын, яна выдавала здалёк старой бабуляй.

Цішка заўважаў гэта, і душа яго поўнілася жалем. На вочы пападала скурчанае, быццам на агні, лісце яблынь, паміж якога свяціліся буйныя з бурштынавымі падцёкамі яблыкі...

Успаміналася, як заўчора, па абедзе, высока над вёскай ляцеў журботны клін шэрых гусей. Цішка і маці ледзьве знайшлі яго ў зацягнутым смугой небе і стаялі, слухаючы надрыўны крык гусей, пакуль ён не знік сярод шматгалосся вясковага дня.

Глядзеў, як маці выцягвала сухое бадылле з зямлі, як выграбала драпачкай з-пад падважаных бацькам зараней карчоў бульбу, кідаючы насенную ў адзін кош, а драбязу ў другі, і шкадаваў яе нейкай бяссільнай шкадобай, ведаючы, што нічым не можа памагчы, хіба толькі возьме з яе рук цяжкі кош і паднясе яго ў варыўню.

Пачуўся стук веснічак, і на агародзе паказаўся бацька, з вечнай шэрай кепачкай-аладкай на сівой галаве, у запыленых кірзавіках на нагах, апрануты, як звычайна, у выбелены на плячах картовы пінжачок з адтапыранымі кішэнямі, у якіх заўсёды нешта было: зерне курам, яблыкі, іржавыя цвікі, рассыпаная махорка, а то і паўлітэрка. Спакойны і немітуслівы, быццам

бывалы мараходзец, што сышоў на бераг, ён збянтэжыў захопленага самотнымі думкамі Цішку нечаканай прапановай — не загадаў, не папрасіў, а проста, быццам ведаў, што той не адмовіцца, сказаў:

— Паедзем, Ціхан, у Глушу да бабулі.

Сваіх сыноў, а іх пяцёра, Цішкаў бацька называў заўсёды поўным імем, выяўляючы тым самым сваю павагу да іх, быццам здзіўляўся, што столькі іх у яго, і не папіхаў, як некаторыя бацькі: «Грышка, туды! Грышка, сюды!» Гэта маці штохвілінна стыкалася з імі і ў хаце, і каля хаты, мела з імі клопату і тады, калі яны сядзелі дома, і тады, калі пайшлі ў школу, і магла асабліва не цырымоніцца, бо пакуль перабярэш кожнага па імю і па бацьку, то забудзеш, навошта патрэбен каторы. У ласцы была хіба толькі малая Інка, апошняя ў сям'і, падскрэбак. Бацька звычайна пацвельваўся з ёю, працягваючы даўно распачатую гульню «ў дзеда і ўнучку», і жартамі як бы скарачаў тую вялікую адлегласць у гадах, якая была паміж імі.

Цішка зірнуў на маці, быццам чакаў, што скажа яна. Маці, як толькі прыйшоў бацька, прыкметна павесялела і пажвавела. Выпрастала спіну, сцягнула з галавы і ўскінула на плечы тоўстую суконную хустку, правяла па валасах грэбнем і адразу памаладзела: ніяк не скажаш, што гэта маленькая і рухавая жанчына з бязбровым скуластым тварам і шырокім усмешлівым ротам нарадзіла ажно шасцёра дзяцей. Цішку сказала:

— Неяк выкапаем мы гэту бульбу. Едзь!

Кінуў-рынуў усё як ёсць і заспяшаў у хату, ледзь стрымліваючыся, каб не пабегчы. Убачыў: за варотамі, на вуліцы, пад бярозай, верхавіну якой ссеклі, бо даставала да электрычных правадоў, стаяў запрэжаны ў брычку Орлік, выязны стаеннік, якога не тое што людзі, а і коні палохаліся. Войкнуў ад захаплення і ўскочыў у хату апрануць што чысцейшае.

Неўзабаве ў хату ўвайшлі бацькі. Маці дастала з шафы чыстую бацькаву кашулю, святочны касцюм і скураное карычневае паліто — гонар сям'і, купленае ў свой час за боны на залатых капальнях у далёкай Якуціі, куды лёс занёс іх сям'ю.

Цішка паспешліва апранаўся. Маці непрыкметна ад бацькі ткнула яму ў нагрудную кішэньку байкавай куртачкі рубель. Не ўтрываў, выйшаў на падворак. Убачыў сястрычку, якая прынесла з калонкі цацачную лейку вады і старанна палівала пасаджаныя ёю ўздоўж плота кветкі «царская карона», дзівячыся, як ад лёгкага дотыку на сцяжынку асыпаюцца аранжавыя пялёсткі.

— Што, паліваеш? — захацелася яму пагаварыць з малой.

Сястрычка ўсміхнулася, быццам разумела, якой дробяззю здаецца яе гэты занятак брату, схіліла чарнявую галоўку на плячо і, гледзячы скоса на кветкі, прамовіла:

— Ага.

Зірнула заклапочана ў лейку, паківала незадаволена галавой:

— Ну во! Вада скончылася! Трэба ісці набіраць.

Цішка глядзеў, як яна нетаропка, быццам сталая жанчына, ішла да калонкі, як павісла на жалезнай ручцы, набіраючы ваду, як вярталася назад з поўнай лейкай, і думаў, як добра, што ў іх, пяці братоў, ёсць маленькая сястрычка. Прысеў на змайстраваную старэйшым братам «гарадскую» лаўку пры сенцах. Сам не ведаючы, дзеля чаго, спытаў у малой:

— Ты Валодзьку не бачыла?

— Не-а. А што?

— Ды так. А Міколку?

— Не-а.

Падхапіўся: з хаты, бразнуўшы клямкай, выйшаў бацька. Ён быў у касцюме, у блакітнай баваўнянай ка-

шулі, хромавіках і трымаў у левай руцэ складзенае мяккай бэжавай футрай наверх паліто, а ў правай — плецены ім самім з тонкага алюмініевага дроту кошык з гуркамі, памідорамі, з-пад якіх высоўваўся літровы слоік нядаўна выкатанага верасовага мёду. Маці несла следам нейкую адзежыну (ага, пінжак старэйшага брата!). Цішка паспяшаў напярэймы:

— Мама, цёпла ж можа.

— А я хіба кажу што. Вядома, цёпла. Затое вечарам, едучы з гасцей, зубамі ляскацець ад холаду будзеш.

— Бяры, бяры,— падтрымаў яе бацька.

Цішка, які вельмі не любіў, калі аб ім клапаціліся на вачах у другіх, незадаволена «айкнуў». Тым не менш пінжак узяў. Пабойваўся бацькі: яшчэ раззлуецца ды не возьме з сабой з-за нейкага пінжака! Узяў у бацькі кошык і пайшоў да брычкі, памахаўшы напаследак сястрычцы рукой. Тая раптам скеміла, што яны едуць некуды ў госці і яе, здаецца, не намерваюцца браць. Кінулася да маці, адразу забыўшы і пра гульню, і пра непалітыя кветкі.

Але Цішку гэта мала тычылася. Падышоў да брычкі. Орлік зірнуў на яго з-пад смаляной грывы шалёным вокам і ледзь прыкметна варухнуў доўгім чорным хвастом: не залюбіў свайго седака. «Нікуды не дзенешся, павязеш!» — падумаў Цішка і, уладкаваўшы кош у перадок, сеў на пацягненае жоўтым дэрмацінам сядзенне.

Сястра, вядома, полівала ўжо кветкі не вадой, а ўласнымі слязьмі. Яе ўгаворвала маці. Іншым разам Цішка сам падахвоціўся б паглядзець у дарозе за малой, абы яна таксама ехала, але цяпер чамусьці напоўніўся злосцю да яе: маўляў, толькі цябе не хапала! Па-змоўніцку ўсміхнуўся бацьку, але той не падтрымаў яго самалюбнай радасці, адвязаў лейцы ад ствала бярозы, перакінуў ляйчыну цераз магутную з сівавабым пушком спіну Орліка і нязграбна ўзваліўся на ся-

дзенне. Брычка пад ім асела, і Цішка, каб ураўнаважыць яе, пасунуўся бліжэй да краю. Бацька шлёгнуў ляйчынай, і Орлік ірвануў з месца бегчы. Затарахцелі абады па бруку, і ўжо не чутно ні галасоў маці і сястры, ні ўласнага дыхання. Адно ёкаў селязёнкаю конь ды шлёгаў ляйчынай бацька.

Папярэдні ўзрушаны настрой неўзабаве сышоў, і ўжо хацелася спакойнай язды, хацелася зноў засярodзіцца на сваіх думках. Конь сам завярнуў на наезджаную каляіну наўзбоч брукаванай дарогі. Бацька сунуў лейцы ў рукі сыну і дастаў капшук з махрой, пачкамі якой быў завалены дома верх шафы. Скруціў цыгарку, зацягнуўся і закашляўся доўгім надрыўным кашлем курца са стажам. «Курыць, ажно ў вачах дым»,— падумаў Цішка.

Зазірнуў у паroслы травой двор Чаўлыткавых і ўбачыў свайго сябра Міцьку, з якім яшчэ ўчора моцна, можа, нават назаўсёды, пасварыўся. Намерыўся быў фарсануць перад былым сябрам, пагнаць каня рыссю, але ўбачыў, што той чымсьці вельмі засмучаны. Сядзіць горна на козлах і калупае пальцамі босых ног дол. Зірнуў няўцямна на Цішку і зноў паглыбіўся ў свой невясёлы роздум. Цішка адразу забыў, што едзе ў госці, што кіруе канём, што поўны злосці на сябра. Адчуў сябе ніякавата.

Міцька быў сірата. Бацька яго, пячнік Чаўлытка, пасля смерці жонкі сыходзіўся тройчы з іншымі жанчынамі, і мачыхі не сказаць, каб былі злыя, памяталі, што значыць дзеці без роднай маткі, і, здаецца, шкадавалі сваіх пасынкаў, але нікуды не дзенешся, калі і самая малая строгасць б'е па сэрцы. Меншы Міцькаў брат, Алёша, неяк аднойчы скардзіўся хлопцам: «Не ведаеце вы, што значыць застацца без маці». А тыя, як здурнелі, слухалі яго і рагаталі. Увыклі над усім на свеце пасміхацца, то і слёзы таварыша здаліся прытворнымі, маўляў, раскіс дый плача.

Цішка пашкадаваў, што з-за дробязі (цяпер гэта бачна) пасварыўся з Міцькам, і падумаў, што сёння ж, як толькі прыедзе з гасцей, памірыцца.

Перад вачамі былі новыя малюнкі і паступова адцягнулі ўвагу Цішкі ад самотных думак пра жыццё. Праехалі драўляныя вароты ў канцы вёскі з надпісам «Саўгас «Завалочыцы» і выскачылі на вузкую асфальтаваную палоску гасцінца. Орлік сам перайшоў на імклівую рысь. Зашумеў у вушах вецярок. Бярозавыя прысады трывожна зашалясцелі веццем, асыпаючы жоўтае лісце на абочыне. Наперадзе паказаўся грузавік, і бацька забраў у Цішкі лейцы. Іншыя коні, ледзь збочваюць з асфальту, як заўважыў Цішка, адразу збаўляюць ход. Орлік жа бег, як і бег, лёгка, напорыста, размашыстай ступой, так і меркаваў, каб звярнуць на сярэдзіну, быццам хацеў сказаць гэтым, што машыны, а не ён, павінны саступаць дарогу.

— Бач ты, застаяўся ў станку,— зразумеў па-свойму яго Цішкаў бацька.

Цішка ў душы не пагадзіўся: «Не, тата! Гэта конь такі — агонь!» Залюбаваўся Орлікам і яго бегам і не заўважыў, як пайшлі паўз дарогу белыя з чорнай бітумнай палосай слупкі, што значылі небяспечнае месца. Блізка быў мост цераз Пціч. З моста адкрывалася ўся вёска: бровар, млын, цагляная вадакачка, кузня, хаты, хлявы, агароды. Па буслянцы на таполі знайшоў сваю хату. Зірнуў на бацьку. Не, бацька глядзеў на Завалочыцы іншымі вачамі. Гэта Цішку яны — радзіма і заўсёды будуць стаяць у памяці. У бацькавай гаворцы часцей за ўсё памінаецца вёска Забалаць, што на Любаншчыне. Ён наскрозь забалоцкі, так, як Цішка завалочыцкі і ніякі іншы.

У галаве хлопца — сваё, дзіцячае, далёкае ад таго, чым заняты яго бацька, які, калі пра што і думае, дык, вядома, пра жніво, якое толькі-толькі адшумела, пра бульбу, якую зараз капаюць, пра азімае жыта, якое

трэба сеяць... Цішка заўважае і бярозку, знізу белую, а зверху чорную, быццам хто наўмысна пафарбаваў, дубы, што стаяць адзін насупраць аднаго, быццам волаты каля ўвахода ў закалдованы лес, нізкарослы алешнік, пясчаную Страліху, балоцісты лясок, у якім цяпер кашара для цялят, і, нарэшце, сам Пеўнеў лес.

Толькі на памяці Цішкі лес тройчы змяняў сваю назву. Спачатку было Заброддзе. Старыя і цяпер так называюць. Стаў леснікам бялявы дзядок з Яўсевіч Сак, і лес назвалі Сакавым. Неяк яны ўдваіх з бацькам ездзілі да таго Сака на двухколцы дамаўляцца аб дрэве на хату. Цішка, тады мілы, пацешны хлопчык год пяці, быў вельмі дарэчы ў такой цяжкой справе як размова пра лес, хаця і не разумеў тады гэтай сваёй ролі. Размова спачатку сапраўды не клеілася і ўвесь час збівалася на старонняе. Раптам Цішка пачуў, што гавораць пра яго. Сак назваў яго харошым хлопчыкам, потым стаў частаваць яго салодкім вараным гарбузом, а потым і размова з Цішкавым бацькам узбілася на добры лад.

Вазілі лес зімой. Цішка з Міцькам ехалі на санях і толькі вухкалі ад задавальнення, калі кідала і матляла з боку ў бок на пагорках. Міцька, трохі старэйшы за Цішку і больш смялейшы, раптам саскочыў з саней і перасеў на падсанкі, але не ўтрымаўся, кулём паляцеў у снег, ледзь паспеў выскачыць з-пад самых капытоў коней, што беглі ззаду. Ён гэтак упадабаў язду на падсанках, што ў лес прыехаў толькі тады, калі Цішка ўжо пасінеў ад холаду. Разам глядзелі на ўсе вочы на вясёлую працу павальшчыкаў, браліся нават абчэсваць сякерай сосны ад галля, але адно палохалі дарослых сваёй рызыкай, цягалі галлё ў лаўжы, сачылі за агнём кастра, ласаваліся мёрзлым хлебам з салам, а калі находзіла смага, хапалі снег з-пад ног.

Сака ўжо няма. Леснікам пасля яго быў Певень. Гэты ўсё больш хадзіў не па лесе, а па вёсцы і высочваў

сляды парубшчыкаў. Лаяўся з людзьмі, і твар яго пры гэтым чырванеў ад натугі — акурат певень. Ды яшчэ і голас дзяркаты.

Цяпер і Пеўня няма на гэтым свеце, і яго лес, кажуць, пойдзе пад пілу — ужо зрабілі падсочку.

Перад Горкай Орлік перайшоў на крок, але ішоў размашыста, так што чалавек пешшу не патрапіў бы ўслед. Каля раз'езджанай машынамі павароткі на Торфбалота чамусьці памкнуўся завярнуць.

— Дай табе волю! — буркнуў бацька, крута паварочваючы яго на гасцінец.

Цішка зірнуў на бацьку і міжволі ўсміхнуўся: на губе ў таго прыклеіўся недакурак, а ён ужо круціў новую цыгарэту.

На Горцы, каля слупка кіламетража з лічбамі 375 (столькі да Брэста) і 697 (столькі да Масквы) пачаўся белы асфальт. Ён быў такі ж цвёрды, як і чорны, але колы каціліся мякчэй і грукату паменела.

— Пагулянкі,— прамовіў бацька і растлумачыў Цішку, які ажно рот раскрыў, не разумеючы, пра што ён кажа: — Месца так называецца. Няўжо не ведаў?! Калісьці будаўнікі вялі дарогу з двух бакоў і сышліся акурат тут. Баль наладзілі. З таго часу і пайшло — Пагулянкі.

— А мы з хлопцамі ўсё — Горка ды Горка...— засмуціўся Цішка, што такая прыгожая назва не ўтрымалася ў памяці яго аднагодкаў. І ці адна яна!

Орлік перайшоў зноў на рысь. Праскочылі лясную дарогу, якая ішла на Гарадок, Першае і Другое балоты, парослыя нейкімі карлікавымі бярозкамі, глуха прашумела над галавой нізкая і густая прыдарожная хваіна, паказаліся агароды і хаты лясной вёсачкі Карчма. На гэтым вялікім вавароце некалі стаяла сапраўдная карчма. Так што назва не была выпадковай. Дык жа перайменавалі ў нейкае Дачнае! Але што Карчма! Вядомыя кожнаму, хто партызаніў у гэтых краях, Во-

сы-Калёсы сталі Лясным, а пра Паршчаху, Масты, Арыжню мала хто і памятае пасля таго, як апошнія жыхары перабраліся, хто ў суседнія, «перспекцыйныя», як бацька кажа, вёскі, а хто і ў горад.

Маленькая рачулка Красная, на ёй кроў лілася людская: і татарская, і шведская, і французская, і нямецкая, а што ўжо славянскай сышло, дык і казаць не даводзіцца. Цяпер гэта ўсяго канава. Перад мостам ужо і бляху з назвай спаролі, адно голы жалезны слуп стаіць.

Да Глушы было недалёка, нейкіх тры-чатыры кіламетры, і бацька ўзяўся падганяць Орліка, пакуль той не перайшоў у галоп. Праляцелі міма цаглянага будынка з мноствам незразумелага прызначэння прыбудовак, акружаных досыць высокай цаглянай агароджай (рэшткі старадаўніх прыдарожных станцый, якія яшчэ сям-там сустракаюцца ў нашых мясцінах), прамінулі цяністую дубовую алею з нейкім бляшаным звонам лістоты, пакінулі ззаду паваротку на Двор-Глушу. Зноў гасцінец пайшоў угару. Уз'язджалі памалу, давалі адпачыць каню перад урачыстым уездам у Глушу і самі поўніліся адчуваннем незвычайнасці моманту. Мясціна тут была надзвычай прыгожая: на зялёнай траве тут і там стаялі акружаныя густым цёмна-зялёным падлескам старыя хвоі, хвоі раслі і паўз гасцінец, і скрозь па пасёлку. Пошум лесу заглушаў і гудзенне аўтамашын, і нейкае, быццам з-пад зямлі, вуркатанне шклозавода. Толькі на базары, што сабраўся на шырокім пляцы, абапал якога размясціліся крамы, лес адступаў назад.

Бацька прывязаў лейцы да плота і разам з Цішкам пайшоў паміж сялянскімі вазамі. Вішчалі парасяты, ціўкалі цыбатыя кураняты, ірзалі адзін да аднаго коні, тузала кароткую вяроўку з рук гаспадара лабатае цялё, таргаваліся людзі, нечага рагатаў чырванашчокі дзябёлы дзядзька, пра якога бацька сказаў, што ён ні-

колі нічога не купляе, але да ўсяго прыцэньваецца і наогул любіць паталкаваць з вяскоўцамі пра ўсё чыста. Прабраліся да натоўпу, які сабраўся на краі базару. Думалі, нешта здарылася, ажно ўбачылі, што людзі назіралі, як нейкі поўны ўсведамлення сваёй значнасці малады загарэлы мужчына ў святочным сінім гарнітуры і запыленых новых чаравіках выбіраў з саломы ў возе і акуратна ставіў на дол збаны, глечыкі, місы, паўмісы, зліўкі, гарнушкі, бочачкі, кубкі — нябачанае, як на наш час, багацце. Пад нечае жаночае вохканне мужчына вывалак з воза вялікае з вузкім горлам глінянае барыла, аплеценае пажоўклым сасновым карэннем,— не менш як на паўтара вядра. «От, няма мамы тут!» — пашкадаваў, знямелы ад захаплення, Цішка. Апошняе, што дастаў з саломы мужчына, была пячурка: гліняная патэльня на трох ножках — што можа быць лепей смажыць летам на цяпельцы сала або пячы бліны! Сярод усеагульнага маўчання нехта спакойна даводзіў суседзям у натоўпе, што добра ведае гэтага ганчара і што ніякі ён не ганчар, а распрадае маёмасць свайго бацькі, які быў майстрам, што папашукаць, і які не так даўно сканаў пасля аперацыі на рак.

Абышлі з бацькам краму за крамай. Доўга стаялі ў бязлюдных «Сельгаспрадуктах», дзе бацька сутыкнуўся раптам з земляком, дзядзькам Федзем, які цяпер жыў у Карчме. Яны ўсё стаялі і пераказвалі адзін аднаму навіны: хто памёр, а хто жыве і як жыве.

Цішка, прыкідваючыся, быццам пільна разглядваў вітрыну, на якой стаяла ў шклянцы сырое насенне сланечніку ды ляжаў тонкі брус старога сала без шкуркі, слухаў, пра што гаварылі мужчыны, дзівячыся, як гэта яны і пасля таго, калі лёс параскідаў іх і іх родных па свеце, могуць, быццам дзеці, рагатаць, узгадаўшы які-небудзь пацешны выпадак са свайго маленства.

Землякі нарэшце такі здаволілі душу гаворкамі і разышліся. Бацька і сын зайшлі ў «Прамтавары». Ціш-

ка адразу кінуўся да кута, дзе на паліцах стаялі кнігі, доўга вычытваў назвы на вокладках і прыкідваў у думках, а ці хопіць у яго грошай. Непрыкметна падышоў бацька:

— Выбраў што?

— Ага! — з нейкім нездаровым бляскам у вачах адказаў Цішка.

— Дык бяры! Колькі яны каштуюць? — І дастаў з кішэні грошы.

— У мяне ёсць. Рубель. Мама дала.

Бацька ўсміхнуўся і пайшоў да касы.

У руках Цішкі былі «Ляўша» і — «Дэкамерон»! З крамы ён выйшаў з такім выглядам, што не зраўняецца самы ўдачлівы пакупнік на базары. Ледзь не скакаў услед за бацькам, які, нарэшце, успомніў, куды і да каго ён ехаў, і спяшаў да брычкі.

Орлік, вядома, не траціў час марна: тузаў-тузаў брычку, пакуль не загнаў пярэдняе кола пад ніз яе, каб трохі, дык вывернуў бы кош з правізіяй на дол. Гэтак ён ірваўся абнюхаць сваю суседку, нігадзяшчую, як на погляд Цішкі, нізкарослую і замораную кабылку, што круціла хвастом, стоячы ў аглоблях аднаконкі. Бацька доўга не важдаўся: ірвануў цуглямі чорныя запененыя губы Орліка і выраўняў брычку. Выкіраваў сярод вазоў на гасцінец і пагнаў каня. Той нейкі час шалёна касіў на седакоў цыганскім вокам, але неўзабаве пабег стрымгалоў, быццам і не адкаціў перад гэтым ад сябе капытамі дванаццаці кіламетраў. Не збаўляючы ходу, уляцелі ў раскатаную машынамі і коньмі прыдарожную канаву і спыніліся перад самымі варотцамі ў цётчыну сялібу. Цішка борзда пераскочыў цераз плот, выцягнуў з прабоя вялізны цвік на вяровачцы і адцягнуў да плота варотцы. Прапусціў, ціснучыся да плота, каня, які фыркнуў на яго пырскамі сліны і сцёбнуў канцом хваста па твары, і брычку, пайшоў следам за бацькам у хату.

Цётка Ганна не дала апамятацца, адразу сказала:

— Гэта ж, Аляксандр, наша мама хворая!

Зірнула востра на Цішку:

— Бабуля твая, Ціхан, занядужала.

Радаснае ўзрушэнне ў момант зляцела з хлопца. Як ваду ў смагу, убіраў ён у сябе тое, што апавядала цётка:

— Запаленне лёгкіх. Знаеш, у яе ўзросце...

Бацька, які рассеўся на табурэце каля стала і ўжо нарыхтаваўся парастарэкваць са старэйшай сястрой аб жыцці-быцці, неспакойна назіраў, як яна бярэ ў рукі то адно, то другое з пасуды, і слухаў, што гаворыць:

— Вось такія невясёлыя навіны, Аляксандр.

Зноў заўважыла Цішку, які, прытуліўшыся горна галавой да вушака, застыг у парозе.

— А ты, Ціхан, гляджу, кніг накупіў. Гэта табе бацька набраў? Правільна, Аляксандр, не шкадуй грошы на гэта. Цяпер нявучанаму няма чаго рабіць на свеце. Ціхан, ідзі паглядзі Алесевы кнігі. Там, ты ж ведаеш, у шафе. Толькі тыя, што на ніжняй паліцы, не чапай — гэта нябожчыка дзядзькі Мішы кнігі па медыцыне.

Цішка неахвотна (гэта ён, хто так любіць капашыцца ў кнігах!) пасунуўся ў суседні пакой. Незадаволена азірнуўся на дзверы, якія прычыніла за ім цётка. Слоў не мог разабраць, чуў адно трывожны шэпт цёткі і разгублены голас бацькі, і адчай хапаў яго за сэрца. Дзеля прыліку адчыніў шафу, пагартаў, поўнячыся неспакоем, нейкую старадаўнюю, прыгожа выдадзеную кнігу на англійскай мове. Новыя думкі нараджаліся ў яго галаве, страшныя сваёй спусташальнай сілай: «Ні да чога ўся кніжная мудрасць, калі пра самае галоўнае ніхто нічога не ведае! Няма, няма на свеце кнігі пра тое, хто такі чалавек і дзеля чаго ён жыве!..»

Цётка нечакана паклікала яго:

— Пойдзем да бабулі.

Бабуля ляжала ў сваім пакойчыку на вузкім жалезным ложку. Нямоглая, з пажоўклым тварам, доўгая нейкая, яна глядзела цёмнымі вільготнымі вачамі на родных. На падаконніку стаялі бутэлечкі з лекамі, ляжалі парашкі, тэрмометр, грэлка. У кутку ў мутнай «чакушцы» стаяла «свянцоная вада». Бабуля не была надта рэлігійнай, але трымала гэту «ваду» на ўсякі крайні выпадак.

У нагах яе сядзела, згорбіўшыся, цётка Люба, малодшая сястра Цішкавага бацькі, і ціха апавядала пра тое, што кажа ўрач, які толькі што быў тут, і як паводзіць сябе бабуля.

Бабуля, такая заўсёды жартаўлівая, і тут спрабавала неяк узняць занапалы настрой родных:

— Стары мой, мусіць, раззлаваўся моцна... Тамака, на гары... Чакаў-чакаў, калі памру, дый усе чаканкі паеў. А я ўсё жыву, усё не слухаюся яго... Дый тое сказаць, ніхто свету не перажыве...

Паглядзела ўважліва на Цішку. З усіх Аляксандравых дзяцей вылучала яго. Можа, таму, што нарадзіўся і рос у самы цяжкі час, калі бацька пайшоў на фронт. Можа, таму, што ледзь не загінуў хлопец, прастудзіўся раз, і другі раз, і, каб трохі, душу богу аддаў бы. Глядзець жа не было каму: маці на шахце адкатчыцай працавала па дзве змены, а бабуля таксама дома не сядзела. Ужо сінець быў пачаў аднойчы, сэрца ўжо замірала. Цішкава маці прахапілася са сну, кінулася да малога:

— Мама, Цішка памірае!

Ледзьве раскатурхалі хлопца, і рос ён цяжка. Але што ўжо гаваркі ды падыходлівы быў! Сам недарослы, а разважаў гэтак стала, быццам стары дзед. Ехалі ў Беларусь, на радзіму, дарога цяжкая, месяц дабіраліся, абвашывелі, каростай зараслі, але вясёлыя. Цішка развесяліў. Гэта ж сядзелі маркотныя ў грузавіку, што ішоў з Алдана на Невер, каб трохі, дык плакалі б, а ён

раптам заспяваў, ну быццам сірата, так жаласна і пранікліва:

Ой ты, доля, мая доля,
Доля горкая мая!..

Як учулі, так і грымнулі смехам. Потым колькі ехалі, столькі ўспаміналі і ўсё прасілі яго праспяваць яшчэ раз.

З Глушы выехалі прыцемкам. У баку ад хваёвага лесу, сярод поля, Цішка разгледзеў цёмную купку дрэў. Гэта былі клады. Там знаходзілася магіла дзядзькі Мішы, мужа цёткі Ганны. Не хацелася думаць пра тое, што чакае наперадзе.

Орлік сам спяшаў дамоў. Было, як і казала маці, халаднавата. Бацька аддаў Цішку акрыцца сваё паліто, і ён прадрамаў як не паўдарогі. Ачнуўся толькі недзе за Першым балотам. Зіхцелі ў небе зоры. Змрочны лес стаяў наўкола, і ў душу лезла жуда. Наперадзе нешта бялелася. Як ні ўглядваліся, не маглі ўгадаць, што гэта. Зафорскаў ноздрамі конь, і каля брычкі апынуліся малыя цёмныя постаці. Гэта былі Цішкавы малодшыя браты Валодзька і Міколка, а з імі разам яго сябар Міцька. Узбуджана, перабіваючы адзін аднаго, апавядалі, як рушылі сустракаць іх, як бачылі зайца, што перабягаў дарогу, але ў цемры падумалі, што воўк, і як схаваліся за абочыну.

Цішка радаваўся гэтай неспадзяванцы, а таксама свайму прымірэнню з Міцькам. Думаў ён і пра тое, што ў рэшце рэшт давядзецца сказаць братам, а потым і маці невясёлую навіну. А яшчэ Цішка са смуткам думаў, што сёння ён канчаткова развітаўся са сваім маленствам і стаў на дарогу, па якой ідуць яго бацькі, па якой прайшлі яго дзяды, тысячы, мільёны людзей.

## Апошні дзень свята

Ішоў трэці дзень свята. У клубе было пуста, і тагосяго браў страх, што свята міне, а «адыходнае» так і не згуляюць. На сцэне сярод згрувашчаных крэслаў на доўгім стале рэзаліся ў даміно падлеткі. Мацюкаліся, быццам дарослыя, гырчалі адзін на аднаго, быццам шчаняты, і, адчувалася, напрошваліся на бойку. Але да бойкі справа не даходзіла: хто-небудзь старэйшы і мацнейшы пагрозлівым «Ну!» у момант мірыў самых вялікіх звадыяшаў.

У кутку сцэны на тумбачцы круціла пласцінкі радыёла. Ставілі часцей за ўсё жаласлівае: «Ты навек любоў мая! А я паўтараю зноў і зноў: не пакідай мяне, любоў мая!..» Можна было чуць, як то адзін, то другі з хлопцаў падпяваў дзярклівым голасам.

Сярод залы тупацелі, вяла пераступаючы з нагі на нагу, хлопцы і дзяўчаты з кіслымі мінамі на тварах. Гледзячы на іх, магло здацца: не сягоння, дык заўтра свету канец! Толькі на вуліцы, на дожджычку, які імжэў бесперастанку з раніцы да вечара, сярод гукаў вясковага жыцця: мычання каровы, што застаялася ў хляве, бразгату вядзёр каля калонкі, зычных галасоў людзей, якія не саромеюцца рагатаць, калі ім смешна, і гаварыць, што думаюць,— толькі тут свяжэла ў галаве і прыходзіла жаданне жыць і нешта рабіць.

Па абедзе трохі распагодзілася. Суцэльная шэрая навісь над галавой сям-там пасвятлела, паказаліся няпэўныя абрысы хмар. На парозе расчыненых насцеж дзвярэй клуба паяўляліся адзінокія постаці вяскоўцаў, найбольш нецярплівых і дападкіх да ўсялякіх відові-

шчаў. Старыя бабы ў святочных хустках ужо сядзелі на сваіх сталых месцах сярод клуба і непрыхільна азіралі недарослых танцораў-таптуноў. Раптам у клуб уваліўся вясёлы гурт дзецюкоў. Самы адважны з іх, Улас Казырыцкі, жанаты халасцяк, як ён рэкамендаваў сябе кожнаму, гукнуў задзірыста:

— Ну што, мікалаеўскія дзеўкі, гульнём!

Бабы, радыя хоць такой увазе да сябе, загаманілі:

— Мы сваё, дзеткі, адгулялі. Гуляйце вы!

— Гуляйце, але розум не прапівайце!

Ганэта Палячонкава з Цямшы, якая, вядома, не крэсла грэць прыбегла сюды з суседняй, хоць і блізкай, вёскі, а і абцасамі сваіх мужчынскіх чаравікаў пагрукаць аб падлогу і вясёлую прыпеўку праспяваць, наляцела на хлопцаў:

— Што ж гэта вы, як стогадовыя дзяды, музыку лепшую не маглі знайсці, як гэта! Ды мяне ў вашы гады і ў мяшку не злавілі б, не тое што!

— Праўда, праўда,— падтрымалі яе бабы.— Спіцё ў шапку! Трэба, каб скура на вас гарэла!

— У нас, бабачкі, душа гарыць,— паправіў Улас.

— Асабліва калі вып'еш завалочыцкай піпы,— зарагатаў Вітольд Слоік.

Бабы зірнулі на яго ненавісна, але прамаўчалі: хіба можна дараваць гэтаму бугаю тое, што дзяўчыну нізавошта пабіў, яна, бачыце, сказала, што не любіць яго, зганьбіла ў ім мужчыну. Казалі, ныркі адбіў, месяц у бальніцы качалася, каб не бацькі перапрасілі, дык справа дайшла б да суда.

— Каму што, а свінні бручка,— адно сказала Ганэта.

— Трэба вам музыка? — умяшаўся Улас і ўзмахнуў рукамі: — Музыка!

Сіпенне радыёлы заглушыў звонкі голас баяна. Хлопцы расступіліся, прапускаючы музыку. Гэта быў Раман Старухін, нязменны ці не з часоў вайны баяніст

на вёсцы. Ён шырока расцягваў мяхі і нізка схіляў да халоднага бляску перламутра галаву са смалянымі, бы грачынае крыло, валасамі. Крывіў пакутліва твар, быццам з самога сябе выціскаў тую музыку. Раптам рэзка ўздымаў галаву і закідваў доўгія пасмы валасоў назад. Шырока расплюшчваў вочы і азіраўся, маўляў, дзе гэта я граю.

Ніхто не скрануўся з месца. Ведалі: гэта толькі ўступны марш.

Раман Старухін перайшоў граючы залу, і бабы рассунуліся, даючы месца. Нечакана ён перастаў іграць:

— Отты-вотты! Ганэта, танец персанальна для цябе! І-е-эх!

На стале стаіць бутылка,
А ў бутылцы дзвесце грам.
Я табе за гэта, мілка,
Ўсю ўсяленную аддам.

Ганэта не ўцерпела, выскачыла на круг і затупацела абцасамі на месцы:

Чым ты, Роман, задаешся,
Чым ты выхваляешся,
Вып'еш тыя дзвесце грам,
У грязі качаешся.

Адкінула хустку на плечы, глянула на момант на Вітольда Слоіка, і той адразу пашыўся за спіну Уласа, свайго сябра па п'янай лавачцы:

Купіў шляпу за рубель,
За пятак анучы.
Ліха матары тваей,
Ўсё адно вонючы.

Прайшлася па крузе, прытопваючы абцасамі і ўзмахваючы рукой. Зноў спынілася сярод залы:

Нашы хлопцы задаюцца,
Што умеюць танцаваць,
Ў адну руку качарэжку,
У другой штаны дзяржаць.

— Цётка, пашкадуй! — гулліва запрасіўся Улас Казырыцкі.— Ці ж мы заслужылі такое?!.

Але Ганэта гуляла па крузе і на хаду прыдумляла, як падсыпаць паболей солі на хвост тым, хто мае прычыну баяцца яе языка.

Мужчыны, што стаялі ў калідоры, курылі, вяла перакідваючыся слаўцом-другім, пацягнуліся да дзвярэй, стоўпіліся, ажно не прайсці. Маленькі, але сапраўды ўдаленькі (жанчыны сварыліся за яго) Янка Шкарлупка, апіраючыся на плечы тых, хто стаяў ззаду, падскокваў уверх, каб убачыць, што гэта робіцца ў клубе, і радасна вішчаў:

— А-я-ей! Што ж гэта, хлопцы, такое?!

— Як што такое? — расчуў яго голас сярод рогату Улас Казырыцкі.— Нашых б'юць!

— І плакаць не даюць! — дадаў нехта з мужчын.

Янка Шкарлупка раптам з усяе сілы ўпёрся ў спіны мужчын і выпхнуў іх у клуб. Вылецеў і сам на сярэдзіну і пайшоў упрысядкі ўдагонку за Ганэтай, захоплена вухкаючы і ловячы рукамі яе спадніцу. Мужчыны, апынуўшыся сярод клуба, хто разгубіўся, а хто зарагатаў, раптоўна для ўсіх, хто быў на той час у клубе, раптоўна для саміх сябе, кінуліся ў скокі. Ажно чорна стала ў зале ад усіх, хто хацеў танцаваць.

Выкідваў вышэй галавы доўгія ногі Улас Казырыцкі. Тупаў на адным месцы, не могучы ніяк патрапіць у лад, непаваротлівы Рыгор Бягун. Ад яго вялізных ботаў на падлозе заставаліся камякі гразі. Ён і ў клуб хадзіў, як у хлеў, нават ног не абабіў у парозе. Ціхмяны Іван Місюль па-жаночаму ўзмахваў насоўкай вакол сябе і раз-пораз узвіскваў ад захаплення. Марачок Лях (калі ён служыў на тым флоце, а ўсё яшчэ фарсіў у бушлаце з надраенымі гузікамі) адбіваў нешта падобнае да «яблычка». Кульгавы Чаўлытка-Гуляй-Нага пераварваўся, быццам качка, з нагі на нагу і віхляў тулавам у лад музыцы, асляпляючы ўсіх бляскам ста-

лёвай сківіцы, якую, смяяліся, скаваў яму бацька-каваль. Занудлівы, гугнявы Азарэвіч Сямён, ганарыста несучы голаў у натоўпе, перабіраў нагамі, быццам зямлю вакол слупа ўтоптваў. Чырванатвары намеснік дырэктара саўгаса Зялёнка ахкаў і біў рукамі сябе па тоўстых ляжках, вось-вось пусціцца ўпрысядку. Белатвары, хваравіты Яшка-Балціка, узняўшы над сабой худыя валасатыя рукі, скакаў вышэй за ўсіх. Падобныя, як блізняты, сябры Паўлюць Хведар і Мялюк Франц паказвалі танцы жаноцкія: млява паводзілі плечукамі, знемагаючы ад уяўнай страсці, што ахапіла іх.

Дзевяцень Юзік, той самы, каго заўсёды на прамілы бог прасілі станцаваць «цыганачку», здзіўлена зорыў на мужчын і рваўся прайсці з калідора ў клуб. Зялёнка пацягнуў і яго да купы, затупаў борзда нагамі вакол, запрашаючы прыняць удзел у агульным шаленстве. Той усміхнуўся і, вызваліўшыся з абдымкаў успацелага Зялёнкі, выйшаў наперад і сам па сваёй ахвоце кінуўся вытанцоўваць сваю ўлюбёную «цыганачку».

І ўжо нікога не засталося з мужчын, хто не танцаваў бы ў гэты момант, і баяніст, можа, упершыню ў жыцці пашкадаваў, што няма яму замены, каб вось выйсці гэтак ды паказаць сябе ў скоках. Разгарачаная Ганэта Палячонкава, вырваўшыся з учэпістых рук вясёлага Янкі Шкарлупкі, упала на крэсла і, абмахваючыся хусцінкай, зорыла на ўсе вочы на небывалае відовішча. Янка ж Шкарлупка ўскочыў у самую сярэдзіну гурту мужчын, што танцавалі заўзята, па-заліхвацку, быццам у атаку ішлі, і закруціўся там ваўчком.

Усё раптам, гэтаксама, як і пачалося, скончылася. Цеснае, плячо ў плячо, кола заўзятых танцораў распалася, і толькі адзін целяпей Рыгор Бягун усё яшчэ падбіраў нагу, каб патрапіць у лад музыцы.

Ішоў трэці, апошні, дзень свята.

## Сярод людзей

Шафёр ускочыў у кабіну, націснуў на тормаз, і аўтобус, хаця матор не быў яшчэ заведзены, сам па сабе пакаціўся пакрысе ад будынка чыгуначнага вакзала.

Раптам некалькі галасоў адразу закрычала:

— Вадзіцель, пачакайце!

Ад дзвярэй вакзала да аўтобуса подбегам спяшала абвешаная рэчамі старая. Паставіла на прыступку добра такі пашарпаны чамадан, падпёршы яго каленам знізу, але ў аўтобус заходзіць не спяшалася, пакуль не распытала дакладна, што ён ідзе туды, куды ёй трэба,— на аўтавакзал, які знаходзіўся на другім канцы горада.

Доўга ўладкоўвалася, нарэшце ўздыхнула, азірнулася навокал. Падсунула чамадан бліжэй да сябе. Раптам схамянулася, палезла ва ўнутраную кішэню сваёй вельветавай жакеткі, дастала хусцінку, разгарнула, зірнула на мяне:

— Мо, сынку, пакажаш, як мне дабрацца...— падала паперку.

Гэта, мабыць, быў канец пісьма: «Прыязджай, мама. Чакаем. Коля, Валя і ўся наша сям'я», а ўнізе выразнымі літарамі адрас: «БССР, Магілёўская вобласць, Быхаўскі раён, вёска Глухі».

— На быхаўскі, мабыць,— адказаў я няпэўна.

— Куды вам, бабуля, трэба? — голасна, як у глухой, спытала жанчына, якая, як я паспеў заўважыць, адчувала сябе ў аўтобусе, быццам дома (потым выявілася, што яна работніца аўтапарка).

Старая выхапіла з маіх рук паперку і падала жанчыне:

— Няграматная я, а там усё напісана,— зірнула з надзеяй.— Да сына ў госці вось выбралася...

— Зараз я вам усё як мае быць растлумачу.— І жанчына некалькі разоў цярпліва расказала старой, на які аўтобус браць білет і на якую гадзіну. Потым ужо спахапілася: — Не забудзьцеся адно, што на Быхаў ёсць два маршруты, адзін ідзе праз Глухі, а другі — не.

Старая схавала паперку ў хусцінку, хусцінку ў кішэнь, супакоілася.

Я быў у Магілёве і раней, але заўсёды праездам, і стараўся разгледзець як след вуліцы, па якіх мы праязджалі. Пра старую падумаў адно: «Мабыць, такіх, як яна, прыземістых, зморшчакаватых, з ласкай у паглядзе, і называюць цёплым словам «бабуля». Потым прыйшла думка: «Рухавая старая. Мабыць, упершыню едзе сама ў гэткую далячынь. І едзе ўжо, здаецца, не першы дзень: асвойталася. Нейкая ў яе, відаць, што за час дарогі набыла, маладая зухаватасць. Пэўна, на ўсё жыццё запомніць гэту сваю паездку. Будзе апавядаць ды адно прыгаворваць, якая трапная прымаўка прыдумана людзьмі наконт языка і горада Кіева».

Пад'ехалі да аўтавакзала. Я памог старой паднесці яе чамадан, спытаў у даведачнай пра яе аўтобус, паказаў, дзе знаходзіцца каса. Сам пайшоў і ўзяў білет на Мінск. Да адыходу аўтобуса быў час, і я вырашыў агледзець новы будынак аўтавакзала. Зноў у вока кінулася старая: ужо купіла білет, а ўсё яшчэ стаіць, распытвае нешта. Палохаецца, супакойваецца, зноў палохаецца. Сапраўды, хто яго ведае, што там, у білеце, напісана!

Выйшаў на двор. Знайшоў свой аўтобус, але стаяць на ветры было халадна, і я вярнуўся назад. Паставіў сумку на лаўку, падняў каўнер паліто, сунуў рукі ў кі-

шэні, няспешліва азірнуўся. На лаўцы, паставіўшы кошык на калені і паклаўшы на яго рукі, сядзела жанчына ў ватоўцы. Суседняя лаўка пуставала. У гэты момант з вакзала выбралася старая, цягнучы на сабе сваю паклажу, паставіла чамадан на лаўку, зняла цераз галаву лясёнку з кошыкам, папраўіла хустку. Цяпер яна была спакойная. Падышла да жанчыны:

— А вы куды едзеце?

— На Быхаў,— скоса зірнуўшы на яе, буркнула жанчына.

— А-а! А я ў Глухі.

Пабегла за рэчамі, перацягнула іх на лаўку, на якой сядзела жанчына.

— А ваш калі ідзе? — спытала зноў.

— Няхутка,— коратка адказала жанчына. Потым усё-такі спытала: — Самі здалёк?

Старая ад неспадзеўкі ажно ўздыхнула: ці то прыгадала, скуль яна, ці то абрадавалася, што будзе з кім бавіць час.

— Здалёку, мілая,— ахвотна расказвала яна, адкуль і куды дабіраецца. І доўга яны гэтак гаварылі, пакуль раптам не выявілася, што ім ехаць у адну дарогу.

— У Глухі? То я ведаю Глухі. Гэта вам трэба ехаць да Быхава, а там перасядка. І яшчэ вёрст з дваццаць,— тлумачыла жанчына.

А старая зноў занепакоілася:

— А мне ж сказалі, што не трэба перасядкі!

— Не, трэба. Аўтобус жа не даходзіць да Глухаў! — пераконвала яе жанчына.

Я не ўмешваўся, чакаў, што будзе далей.

— Нічога, бабуля, даедзеце,— супакойвала жанчына старую.

— Чаму ж не даеду! Вядома, даеду! Добрыя людзі скрозь ёсць. Вось і тут нейкі хлопец памог рэчы несці. Кажа: «Давайце, бабуля, памагу».

Я слухаў, усміхаўся, чамусьці ў гэты іменна момант ясна ўявіўшы, які вялікі шлях прарабіла старая і колькі людзей на ім перабачыла, што ўжо забыла мяне. Забыла мяне, але помніць, што людзі ўсюды людзі. Добрыя і злыя, але добрых, мабыць, усё-такі болей..

— Дзіва што! — згаджалася жанчына.— Язык, куды хочаце, давядзе. Абы было за што ехаць.

Старая зрабіла выгляд, што нічога не пачула пра грошы, і перавяла размову на іншае:

— Яно гэтак! От падарункі вязу сваім...

— І гэта трэба.

— Мыльны парашок, чатыры пачкі... А ці ёсць у вас мыльны парашок?

— Ёсць, чаму не!

— Гэтак ужо добра ён мые! Што хочаш адмывае!

— Чаму не! — аднастайна згаджалася жанчына. Нешта перашкаджала ёй быць такой жа шчырай і непасрэднай, як старая.

А старая, відавочна, радавалася ўсяму, што, на яе погляд, ішло к дабру:

— Сын рабацяшчы, дом новы выстараўся... Нявестка, няма чаго брахаць, дахадная — да ўсяго сама дойдзе, праз свой уласны розум... Дзеці людскія... Зарабляюць няблага... Адно жыць!

Нечакана ўстрывожылася:

— Малады чалавек, колькі зараз урэм'я?

Я адказаў.

— О, дык ужо час! — ускінула лясёнку на плечы, ухапіла чамадан і пайшла дробным крокам за жанчынай, якая ішла шырока і цвёрда. Я яшчэ бачыў, як яна села ў аўтобус, потым перасела ў другі. Падумаў: «Цяпер ужо, мабыць, дабярэцца да сваіх Глухаў, а праз гадзіны дзве будзе ўжо слухаць шчэбет унукаў: «Бабуля, бабуля...»

## Змест

**Тычына М.**

Т 93 Дажынкі: Аповесць і апавяданні.— Мн.: Маст. літ., 1979.— 128 с.— (Першая кніга празаіка).

Юны герой аповесці «Дажынкі» Сцёпка — фантазёр і кніжнік — акунаецца ў жыццё сучаснай вёскі, сустракаецца з рознымі людзьмі і паступова знаходзіць сваё месца.

Апавяданні зборніка закранаюць праблемы маралі, раскрываюць характар нашага сучасніка.

Т $\frac{70303-038}{М 302(05)-79}$ 33—79 Бел 2

*Первая книга прозаика*

Михаил Александрович Тычина

ДОЖИНКИ

Повесть и рассказы

Минск, издательство «Мастацкая літаратура»

На белорусском языке

Рэдактар Е. А. Пяршай. Мастак А. А. Котава. Мастацкі рэдактар Г. І. Труханава. Тэхнічны рэдактар М. Ц. Папкова. Карэктар Я. А. Бебель.

ІБ № 319

Здадзена ў набор 05.11.78. Падп. да друку 14.02.79. АТ 01048. Фармат 70×100$^{1}/_{32}$. Папера друк. № 1. Гарнітура школьная. Друк высокі. Ум. друк. арк. 5,16. Ул.-выд. арк. 5,64. Тыраж 7000 экз. Зак. 1545. Цана 40 к.

Выдавецтва «Мастацкая літаратура» Дзяржаўнага камітэта БССР па справах выдавецтваў, паліграфіі і кніжнага гандлю. 220600, Мінск, Паркавая магістраль, 11.

Паліграфічны камбінат імя Я. Коласа Дзяржаўнага камітэта БССР па справах выдавецтваў, паліграфіі і кніжнага гандлю. 220005, Мінск, Чырвоная, 23.

Міхась Тычына нарадзіўся 10 лютага 1943 года ў сям'і золаташукальніка ў Якуціі. У 1947 годзе бацькі пераехалі на радзіму, у Беларусь. Скончыў Брэсцкі педінстытут. Два гады працаваў настаўнікам на Піншчыне. У 1971 годзе абараніў кандыдацкую дысертацыю. Працуе старэйшым навуковым супрацоўнікам у Інстытуце літаратуры імя Я. Купалы АН БССР. Першыя вершы друкаваліся ў брэсцкай абласной газеце. М. Тычына аўтар аповесцей «Дажынкі» і «Аперацыя».

«Дажынкі» — першая кніга маладога празаіка.



40 к.